ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ





ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

№ 9—10 (23—24)

**ТРЭЦІ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

**ВЕРАСЕНЬ—КАСТРЫЧНІК 1930 г.**

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве

№ 9—10 (23—24) Верасень—Кастрычнік 1930 г. № 9—10 (23—24)


## Да ўсіх партыйных, гаспадарчых, прафэсіянальных і камсамольскіх арганізацый.

Праз месяц пачынаецца новы гаспадарчы год—трэці год пяцігодкі. Гэты надыходзячы год высоўвае рад складанейшых і адказьнейшых гаспадарчых і палітычных задач. Ён мае рашаючае значэньне для выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады і павінен забясьпечыць пераход ня меніш як паловы сялянскіх гаспадарак на сацыялістычны шлях, на шлях калектывізацыі.

Трэці год пяцігодкі азначае новы вялізарны крок у справе індустрыялізацыі СССР. Толькі адзін прырост прадукцыі за 1930-31 год будзе ровен усей даваеннай прамысловай вытворчасьці. У трэцім годзе пяцігодкі поруч са скончанымі і ўступаючымі ужо ў эксплёатацыю Сталінградзкім трактарным заводам, Растоўскім заводам сельгасмашынабудаўніцтва і іншымі новымі заводамі, трэба забясьпечыць разгортваньне на поўны ход будаўніцтва такіх гігантаў, як Магнітабуд, на пабудову якога павінна быць затрачана за адзін год больш 200 мільёнаў руб., Кузнецкбуд, Ніжагародзкі аўтазавод, Харкаўскі і Чалябінскі трактарныя, Уральскі гігант цяжкага машынабудаўніцтва, першая чарга буйнейшых хэмічных камбінатаў Бярэзьнікаўскага і Бобрыкаўскага, Саратаўскі камбайны і г. д. Пераважная большасьць гэтых заводаў, па магутнасьці сваёй перавышаючых усе, якія краіна мела да гэтага часу ў галіне мэталюргіі, хэміі і машынабудаўніцтва, павінна быць пушчана ў ход у працягу 3-га году пяцігодкі, адны поўнасьцю, другія на першую чаргу.

Апроч таго ў будучым годзе пачынаецца будаўніцтва такіх новых заводаў, як Ніжня-Тагільскі і Марыупальскі мэталюргічныя і Днепракамбінат у складзе цэлага раду буйнейшых новых заводаў. У 1930-31 годзе мы павінны дабіцца першых буйных вынікаў у ажыцьцяўленьні дырэктывы XVI зьезду аб утварэньні новай вугальнай мэталюргічнай базы ў СССР—Урала-Кузнецкага Камбінату.

Праграму будучага году вызначаюць наступныя рашаючыя лічбы: 7 з палов. млн. тон чугуну, 74,5 млн. тон вугалю, на 2,5 млрд. рублёў новых машын, апроч таго на 845 млн. рублёў сельскагаспадарчых машын і 745 тыс. конскіх сіл новых трактараў.

Посьпехі ў разьвіцьці цяжкай індустрыі і рост сельскагаспадарчай сыравіннай базы (пашырэньне пасеўных плошчаў, падвышаны ўраджай бавоўны, буракоў і шэрагу іншых тэхнічных культур) забясьпечваюць значна больш высокі, чым у мінулыя гады, тэмп росту лёгкай прамысловасьці. Поруч з правядзеньнем іншых мер гэта стварае прадпасылкі для палепшаньня забясьпечаньня рэчамі шырокага ўжываньня і для змягчэньня таварнага голаду.

Ажыцьцяўленьне гэтай вытворчай праграмы запатрабуе рашучага палепшаньня якасьці ўсёй гаспадарчай работы. Усе якасныя паказальнікі работы прамысловасьці і ў першую чаргу паказальнікі сабекошту і прадукцыйнасьці працы павінны быць значна падвышаны ў працягу году, павінны выконвацца з бязумоўнай дакладнасьцю. Бяз гэтага ня можа быць забясьпечана тое разгортваньне вытворчасьці і той вялізарны плян капітальных работ, які вызначаны для 1930-31 г.

Гэта праграма разьвіцьця прамысловасьці непарыўна зьвязана з новымі вялізарнымі заданьнямі для транспарту (чыгуначнага і воднага), прад'яўляючы яму такія высокія патрабаваньні, якія немагчыма выканаць без карэннага і хутчэйшага палепшаньня ўсёй арганізацыі транспарту і без актыўнага ўдзелу ў гэтай справе ўсёй масы чыгуначнікаў і воднікаў—рабочых і тэхнічнага пэрсаналу.

У будучым 1930-31 годзе мы павінны забясьпечыць таксама бальшавіцкія тэмпы разьвіцьця сацыялістычнага саўгаснага і калгаснага сэктару ў сельскай гаспадарцы, выкананьне вялізных вытворчых праграм такіх арганізацый, як Зернатрэст, Жывёлавод, Сьвінавод і інш., забясьпечыўшы разгортваньне сацыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы поўным ажыцьцяўленьнем заданьняў па вырабу сельскагаспадарчых машын, трактароў і хэмічнага ўгнаеньня.

Выкананьне ўсей гэтай вялізарнай гаспадарчай праграмы магчыма толькі пры актыўнай і пры гэтым неадкладнай мабілізацыі ўсіх сіл рабочае клясы, усіх партыйных арганізацый, усіх прафсаюзаў, усяго камсамолу і ўсіх без выключэньня гаспадарчых органаў. Неразуменьне гэтага ёсьць незразуменьне асноўнага бальшавіцкага абавязку ў справе забесьпячэньня посьпехаў будаўніцтва сацыялізму і зьяўляецца сапраўдным злачынствам перад партыяй з боку перш усяго кіраўнікоў гэтых арганізацый.

Прызнаньне на словах генэральнай лініі партыі і ня прыняцьце на справе самых рашучых і своечасовых мер па мабілізацыі ўсёй рабочай клясы для выкананьня гэтай гаспадарчай праграмы не адпавядае годнасьці бальшавіка і зьяўляецца найгоршым відам правага апартунізму на практыцы.

Толькі неадкладным разгортваньнем работы па падрыхтоўцы выкананьня вытворчай праграмы прамысловасьці будучага году можна забясьпечыць ажыцьцяўленьне бальшавіцкіх тэмпаў разьвіцьця індустрыі, прынятых XVI зьездам партыі.

Найважнейшай умовай выкананьня прамфінпляну будучага году зьяўляецца выкананьне прамфінпляну 1929-30 году. Бальшавіцкая падрыхтоўка да выкананьня гіганцкай вытворчай праграмы трэцяга году пяцігодкі заключаецца ў бязумоўным выкананьні прамфінпляну бягучага году.

Другі год пяцігодкі—год буйнейшых дасягненьняў сацыялістычнай індустрыі. Буйная сацыялістычная прамысловасьць за 10 месяцаў павялічыла сваю валавую прадукцыю на 27 проц., паказаўшы рэкордныя тэмпы росту за ўвесь рэканструкцыйны пэрыяд. Цяжкая індустрыя, гэта аснова сацыялізму, за той-жа пэрыяд павялічыла разьмеры сваёй вытворчасьці на 39,5 проц. Аб'ём капітальнага будаўніцтва за 10 месяцаў вызначаецца ў 2,4—2,5 мільярдаў рублёў.

Але за гэтымі посьпехамі і дасягненьнямі мы не павінны праглядзець таго сур'ёзнага прарыву, які выявіўся ў ходзе выкананьня прамысловасьцю вызначанага пляну.

Прырост прамысловай прадукцыі за 10 месяцаў на 27 проц. сьведчыць аб рэзкім адставаньні ад устаноўленага плянам прыросту ў 32 проц. Ня выконваецца плян ня толькі па лёгкай індустрыі, што абумаўлялася ў гэтым годзе ў пэўнай меры недахватам сыравіны, але, што асабліва важна, значна нявыконваецца таксама вытворчая праграма па цяжкай індустрыі. Яўнае аслабленьне работы прамысловасьці за апошнія месяцы стварыла непасрэдную пагрозу зрыву прынятай партыяй і савецкай уладай гадовай вытворчай праграмы. Замест бальшавіцкіх тэмпаў па шэрагу галін прамысловасьці назіраецца ў апошні час ганебнае зьніжэньне тэмпаў, апартуністычная стаўка на самацёк.

Яўна нездавальняючы таксама ход капітальнага будаўніцтва. Плян капітальнага будаўніцтва за першыя тры кварталы выканан менш як на палову.

Асабліва ганебнае адставаньне капітальнага будаўніцтва па Будаб'яднаньню, Усемхімпрому, Коксагазахіму, Новасталі, Машынааб'яднаньню, Саюзсельмашу. Гэтыя недапушчальныя зьявішчы ў капітальным будаўніцтве ствараюць пагрозу прынятым тэмпам прамысловага разьвіцьця, пагрозу выкананьню пяцігодкі ў чатыры гады.

Важнейшай прычынай невыкананьня вытворчых заданьняў прамысловасьці і асабліва ў асноўных яе галінах зьяўляецца адсутнасьць належнай энэргіі і ініцыятывы ў справе мабілізацыі ўнутраных рэсурсаў: недастатковае скарыстаньне наяўнага абсталяваньня, нізкі каэфіцыэнт зьменнасьці, адсутнасьць энэргіі ў перамаганьні „вузкіх месц“ прадпрыемства, частыя прастоі абсталяваньня з-за неналаджанасьці і неарганізаванасьці матарыяльна-тэхнічнага забесьпячэньня, шматлікія аварыі з-за злачыннай нядбайнасьці і дрэннага тэхнічнага кантролю, адсутнасьць сыстэматычнай рацыяналізатарскай работы і нездавальняючасьць унутрызаводзкага плянаваньня. Замест бальшавіцкай барацьбы з кансэрватызмам ў тэхніка-вытворчым кіраўніцтве прадпрыемствамі, замест рэвалюцыйнай дбайнасьці ў адносіне да шкоднікаў і мабілізацыі актыўнасьці перадавых рабочых для садзейнічаньня разгортваньню работы прадпрыемстваў зачастую гаспадарнікі цягнуцца ў хвасьце коснай часткі спэцыялістаў, а часам проста шкоднікаў, не аказваюць належнага падтрыманьня больш перадавой частцы інжынэраў і тэхнікаў, адрываюцца ад рабочага актыву, г. зн. на практыцы абмяжоўваюцца бюракратычнымі мэтадамі работы.

Найбольш адмоўна вынікі ўсяго гэтага адбіліся на машынабудаўніцтве, агульным і сельскагаспадарчым, а таксама ў чорнай мэталюргіі і каменнавугальнай прамысловасьці. Так, выяўлена магчымасьць павялічэньня ў будучым годзе праграмы па машынабудаўніцтву ў два разы паказвае, наколькі вялікія нескарыстаныя рэзэрвы магутнасьці нашых прадпрыемстваў. Пасьпяховае выкананьне павялічаных заданьняў, напрыклад, такімі прадпрыемствамі, як Электразавод, паўднёварудная прамысловасьць (Крывы Рог), старыя папяровыя фабрыкі, зьяўляецца вынікам барацьбы за скарыстаньне ўнутраных рэсурсаў прадпрыемства.

Аднак, такіх прыкладаў яшчэ вельмі мала, прыклады-ж коснасьці і бюракратызму ў скарыстаньні ўнутраных рэсурсаў прамысловасьці сустракаюцца на кожным кроку.

Шматлікія факты яўна раздутых патрабаваньняў на імпартнае абсталяваньне, бяз спроб выкарыстаць унутраныя рэсурсы прамысловасьці, зьяўляюцца адным з самых яскравых прыкладаў бюракратычных адносін гаспадарчых кіраўнікоў да сваіх абавязкаў і часта адбіваюць апартуністычнае няверра ў магчымасьці сацыялістычнай індустрыі. Між тым зачастую бываюць яўна бязгрунтоўныя спробы апраўдаць невыкананьне прамысловых заданьняў недастатковасьцю імпарту. Калі-б нашы партыйныя, прафсаюзныя і гаспадарчыя арганізацыі па прыкладу некаторых заводаў, як Ленінградзкі мэталёвы завод імя Сталіна (пашырэньне турбабудоўлі), праявілі сапраўдную ініцыятыву ў справе скарыстаньня вытворчых рэсурсаў нашых заводаў, дык прамысловасьць атрымала-б дадатковыя магчымасьць ня толькі для выкананьня, але і значнага перавыкананьня пляну.

У шэрагу выпадкаў, як-та: у нафтавай прамысловасьці, руднай прамысловасьці Урала і каляровай мэталюргіі, невыкананьне вытворчага пляну выклікаецца ў першую чаргу яўнай нездавальняючасьцю ходу падрыхтоўчых работ—разьведак бурэньня, праходкі капальняў, што стварае пагрозу далейшаму рзьвіцьцю адпаведных галін індустрыі. Гэткае становішча асабліва нельга дапусьціць прымаючы пад увагу выключную важнасьць гэтых галін прамысловасьці.

Асаблівае значэньне для выкананьня прамысловага пляну сёлета мелі зьмены, якія адбыліся ў гаспадарчых абставінах, бо яны надзвычайна моцна адбіліся на пытаньні аб рабочай сіле і ў першую чаргу на пытаньні аб яго цякучасьці. Вялізарны размах сацыялістычнай індустрыялізацыі, уцягненьне ў зьвязку з гэтым у вытворчасьць усіх старых кадраў рабочых і вялізарнага пласта новых рабочых асабліва з вёскі, і адначасова з гэтым разгорнутае калгаснае і саўгаснае будаўніцтва пры наяўнасьці да таго-ж падвышанага ўраджаю ўнесьлі буйнейшыя зьмены ў параўнаньні з тым пэрыядам, калі кадры беспрацоўных у гарадох былі параўнаўча яшчэ значныя, а ў дробных індывіду-

альных сялянскіх гаспадарках асабліва востра адчуваліся лішкі вольных рабочых рук.

Гэтыя зьмены ў абставінах ня былі ўлічаны гаспадарчымі органамі і прафсаюзамі. Між тым у сувязі з імі стаіць, з аднаго боку, прыліў у прамысловыя прадпрыемствы новых рабочых, якія не прайшлі школы буйнай вытворчасьці і нярэдка прасякнуты дробнаўласьніцкімі рвацкімі настроямі і, з другога боку, адліў пэўнай часткі гэтых рабочых у вёску, асабліва ў пэрыяд уборачных работ і разьмеркаваньня ўраджаю. Замест сапраўднага ўлічэньня тых абставін, якія стварыліся і прыняцьця неабходных мер (па лініі разьвіцьця пралятарскай грамадзкасьці, адпаведнага прыстасаваньня арганізацыі забесьпячэньня рабочых, прэміраваньня лепшых работнікаў вытворчасьці і г. д.) для замацаваньня рабочага складу на прадпрыемствах і рашучай барацьбы з рвачаствам, выпадковымі для прадпрыемства элемэнтамі (лятунамі і г. д.) гаспадарчыя органы і прафсаюзы, а таксама партыйныя арганізацыі праявілі зусім недапушчальную пасыўнасьць у гэтай справе і тым самым дапусьцілі значнае разьвіцьцё цякучасьці рабочай сілы.

Асабліва трэба зазначыць на бюракратычныя адносіны да гаспадарчых задач з боку органаў Наркампрацы, а таксама некаторых прафсаюзаў. Дастаткова сказаць, што пры яўна выяўленым недахопе рабочых на фабрыках і заводах, у капальнях і на будаўніцтвах ва ўсіх прамысловых раёнах органы Наркампрацы да апошняга часу абмяжоўваліся друкаваньнем бюракратычных „даных“ аб сотнях тысяч беспрацоўных і выплачвалі дзесяткі мільёнаў рублёў дапамог „па беспрацоўю“, не вялі барацьбу з рвацкімі элемэнтамі, лятунамі, якія адмаўляліся ад працы і г. д.

Ня меншы бюракратызм і нядольнасьць да вырашэньня новых задач паказала спажывецкая каапэрацыя, якая ня здолела правесьці неабходную перабудову сваёй работы ў адпаведнасьці з задачаю замацаваньня рабочага складу на вытворчасьці, мабілізаваць свае вытворчыя магчымасьці для сапраўднага палепшаньня забесьпячэньня рабочых, разгарнуць масавы кантроль з боку рабочых і работніц над работай усіх органаў каапэрацыі. Адказнасьць за гэта ляжыць у пэўнай меры і на органах Наркамгандлю.

Найбольш яскравай праяваю нядбайных адносін гаспадарчых органаў і прафсаюзаў і няпрыняцьця імі сваечасовых мер для барацьбы з цякучасьцю, падрываючай працоўную дысцыпліну і ўносячай дэзарганізацыю ў вытворчасьць, трэба прызнаць становішча, якое стварылася ў сувязі з новымі гаспадарчымі абставінамі, з рабочай сілай на прадпрыемствах Саюзвугалю, Урала, на шэрагу будаўніцтваў і нават на асобных прадпрыемствах Масквы і Ленінграду, якое прывяло да буйнейшых прарываў у вытворчых праграмах.

Галоўным і рашаючым недахопам у гаспадарчай рабоце застаецца няўменьне **арганізаваць і стаць на чале бурна ўзрастаючай актыўнасьці рабочае клясы**. Ня гледзячы на вялізарны размах сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на фабрыках і заводах, нашы гаспадарчыя, прафсаюзныя, камсамольскія і партыйныя арганізацыі зачастую адстаюць у гэтай справе, а часамі апартуністычна цягнуцца ў хвасьце пралятарскага актыву (прыклад—Сормава і інш.).

Разьвіцьцю сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва нямала спрые давядзеньне заданьняў вытворчай праграмы да цэху, да брыгады, да паасобнага варштату. З другога боку, на аснове разьвіцьця пралятарскай актыўнасьці, скарыстаньня вытворчых дасягненьняў ударнікаў, іх рацыяналізатарскай ініцыятывы, а таксама сапраўднага вучоту на практыцы рабочых прапаноў у справе выкарыстаньня рэзэрваў вытворчай магутнасьці сацялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва пераходзяць на больш высокую ступень. Гэта знаходзіць сабе выяўленьне ў выпрацоўцы рабочымі фабрык і заводаў **сустрэчнага прамфінпляну**, значэньне якога заключаецца ў большай эканоміі рэсурсаў прадпрыемства пры ажыцьцяўленьні вытворчай праграмы, у падвышэньні якасьці прадукцыі і асабліва ў далейшым паскораньні бальшавіцкіх тэмпаў прамысловага будаўніцтва. Сустрэчны прамфінплян набывае асаблівае значэньне, як мэ-

тад сапраўднага ўцягваньня ўсіх рабочых у справу сацыялістычнага будаўніцтва і як важнейшы сродак барацьбы з контр-рэвалюцыйным шкодніцтвам.

Аднак, на справе ў шмат выпадках з боку партыйных і іншых заводзкіх арганізацый ня толькі няма належнага падтрыманьня рабочай ініцыятывы ў выпрацоўцы сустрэчнага прамфінпляну, але і адсутнічае належная арганізацыя сацыялістычнага спаборніцтва ў яго разнастайных і ўсё новых формах (скрозныя ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір і інш.), а бяз гэтага нельга забясьпечыць бальшавіцкіх тэмпаў разгортваемай сацыялістычнай індустрыі.

Усё яшчэ ёсьць шматлікія выпадкі лжэўдарніцтва ў прамысловасьці і на транспарце. Усё яшчэ ня мала фармальна-бюракратычных адносін да спаборніцтва. Усё яшчэ ня малая частка членаў партыі не разумее ролі і абавязкаў камуністаў на прадпрыемствах, як застрэльшчыкаў у барацьбе за выкананьне прамфінпляну. З боку гаспадарнікаў, якія стаяць на сапраўды перадавых пастах сацыялістычнай будовы, досыць часта яшчэ няма сьвядомасьці выключнай адказнасьці за сваю справу, няма разуменьня бязумоўнай абавязковасьці, цьвёрдага правядзеньня адзінаначальля на прадпрыемствах злучыць з уменьнем абаперціся ва ўсёй сваёй рабоце на партыйныя, прафсаюзныя і камсамольскія арганізацыі на ўвесь камуністычны і беспартыйны актыў рабочых і работніц.

Буйнейшыя недахопы сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва знайшлі свой адбітак у выяўленых вытворчых прарывах, з прычыны чаго стварылася сур'ёзная пагроза зрыву прамфінпляну гэтага году. Склаўшаеся ў прамысловасьці становішча патрабуе рашучых і неадкладных мер па мабілізацыі сіл усёй партыі і ўсяе рабочае клясы для выкананьня прынятага партыяй прамысловага пляну бягучага году. Гэта тым больш неабходна, і тым больш неадкладна, што ліквідацыя выяўленага прарыву ў прамфінпляне зьяўляецца асноўнай умовай для забясьпечаньня выкананьня вытворчай праграмы трэцяга году пяцігодкі. З гэтага выцякаюць наступныя асноўныя задачы партыі і ўсяе рабочае клясы:

1) усе сілы партыйных і камсамольскіх арганізацый, прафсаюзаў, гаспадарчых органаў—на разьвіцьцё справы сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, на падтрыманьне ініцыятывы рабочых у гэтай справе ва ўсіх яе формах (скрозныя ўдарныя брыгады, грамадзкі буксір і інш.), усе сілы на разгортваньне сустрэчнага прамфінпляну на фабрыках і заводах, у шахтах і на будаўніцтве, на чыгунках і водным транспарце. ЦК цалкам і поўнасьцю падтрымлівае ініцыятыву УсеЦСПС па арганізацыі на працягу верасьня м-ца разгорнутай кампаніі прафсаюзаў за сустрэчны прамфінплян, за арганізацыю першага кастрычніка ўсесаюзнага „дню ўдарніка“. ЦК зазначае на тое, што толькі пры неадкладным і пры тым не на словах, а на справе, уцягненьні ў гэту кампанію ўсіх прафсаюзных арганізацый, яна зробіцца сапраўдным сродкам ліквідацыі прарываў у прамысловым пляне і забясьпечыць выкананьне вытворчай праграмы.

2) Неадкладна правесьці мерапрыемствы, забясьпечваючыя рашучае ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны і сапраўдную барацьбу з разгільдзяйствам і прагуламі. Гэтыя мерапрыемствы павінны забясьпечыць хутчэйшы пераломам у справе падняцьця вытворчасьці працы і ажыцьцяўленьня на справе адзінаначальля ў гаспадарчым кіраўніцтве, без чаго немагчыма перамога стварыўшыхся цяжкасьцяй у прамысловасьці.

3) Забясьпечыць разьвіцьцё вытворча-тэхнічнай ініцыятывы інжынэраў і тэхнікаў і ўсямерна фарсаваць вывучку новых кадраў з рабочае клясы, сьмялей і настойлівей высоўваючы перадавікоў рабочых і асабліва рабочых-арганізатараў спаборніцтва на гаспадарчыя пасты, перамагаючы пры гэтым коснасьць, бюракратызм і апартуністычнае нявер'а ў сілу рабочае клясы.

4) У мэтах барацьбы з цякучасьцю на прадпрыемствах правесьці сыстэму мерапрыемстваў, забясьпечваючых замацаваньне рабочых на вытворчасьці, шляхам адпаведнага разьвіцьця пралятарскай грамадзкасьці, правядзеньня самаабавязацельстваў рабочых перад пралятарскай грамадзкасьцю аб працы на даным прадпрыемстве ня менш пэўнага

тэрміну, і ўжыцьця ўсіх мер грамадзкага ўплыву аж да байкоту злосных дызэртыраў з вытворчасьці, а таксама ўстанаўленьня сыстэмы розных форм прэміраваньня і забесьпячэньня, стымулюючых доўгія тэрміны прабываньня рабочага на заводзе. З прычыны неадпаведнасьці шэрагу законадаўчых норм, і ў прыватнасьці, палажэньня аб біржах працы ў сучасных гаспадарчых абставінах тэрмінова правесьці перагляд гэтых норм пад пунктам погляду адмены іх у той іх частцы, якая робіць больш цяжкай барацьбу з лятунамі, дызэртырамі вытворчасьці і г. д. і разам з тым забясьпечыць узмоцненае ўцягненьне ў вытворчасьць рабочай моладзі, а таксама жонак рабочых і іншых працоўных.

5) Арганізацыя справы забесьпячэньня рабочых мае важнейшае значэньне ў справе выкананьня прамфінпляну, у мэтах паляпшэньня арганізацыі разьмеркаваньня, каапэрацыі неабходна разгарнуць апраўдаўшыя сябе такія яго формы, якія ў найбольшай меры забясьпечваюць інтарэсы вытворчых рабочых (зачыненыя разьмеркавацелі, прымацаваньне рабочых пайшчыкаў да крам, бязьлітасная барацьба з крадзежам у каапэрацыйным апараце, узмоцненыя рэпрэсіі за злоўжываньні картачкамі, талёнамі і г. д.) і фарсаваць у прамысловых раёнах арганізацыю прыгарадных гаспадарак (агародных, малочных, жывёлагадоўчых). Партыйныя, прафэсыянальныя, камсамольскія і гаспадарчыя арганізацыі павінны дапамагчы разьвіцьцю самадзейнасьці рабочых у гэтай справе, узмацніць каапэрацыю і ўсямерна ўзмацніць разьвіцьцё масавага кантролю рабочых і работніц над работай каапэрацыйнага апарату.

6) Друк правёў на аснове разгортваньня самакрытыкі вялікую працу ў справе мабілізацыі рабочых мас для выкананьня прамфінпляну. Разам з тым, у шмат выпадках, абмяжоўваючыся павярхоўна кампанейскай агітацыяй, друк не дамогся завастрэньня барацьбы супроць рашаючых канкрэтных недахопаў гаспадарчай работы і не спраўляўся з задачай сваечасовай арганізацыі мас вакол новых пытаньняў, якія высоўваліся зьменамі ў гаспадарчай абстаноўцы.

7) Рашучая барацьба з паслабленьнем тэмпу працы ў сувязі з летнімі адпачынкамі, прыняўшым у радзе гаспадарчых органаў агідную форму астаўленьня ўстановы без кіраўніцтва і прадстаўляючым адно з сур'ёзных перашкод для выкананьня бягучага прамфінпляну і падрыхтоўкі да трэцяга году пяцігодкі. Без неадкладнага і рашучага зьнішчэньня дэмабілізацыйных настрояў гэтага году, якія зьяўляюцца адным з яўных праяўленьняў апартунізму на практыцы, мабілізацыя партыйных сіл і рабочых дзеля ліквідацыі прарываў і выкананьня вытворчых заданьняў застанецца толькі словамі. Вось гэткія важнейшыя задачы сёньняшняга дню.

Вытворчая праграма бягучага году і гаспадарчы плян трэцяга году пяцігодкі азначае практычную праграму сацыялістычнага будаўніцтва і разгорнуты наступ на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту. Ня гледзячы на выяўленыя буйнейшыя недахопы ў ажыцьцяўленьні вытворчых заданьняў, будаўніцтва сацыялізму пераможна прасоўваецца наперад, бязьлітасна сакрушаючы на сваім шляху ўсякія спробы супраціўленьня клясавага ворага (кулакоў, контр-рэвалюцыйных шкоднікаў, буржуазных рэстаўратараў у тым ліку і тыпа Громана, Кандрацьцева і Суханава). Правыя панікёры, гэтыя падгалоскі кулацтва і трацкісцкія элемэнты, якія абярнуліся на справе з учарашніх „левых“ фактычных падпявал правых апартуністаў, а таксама ўсякага роду прымірэнцы да правых і трацкістаў зьяўляюцца выказчыкамі буржуазнага ўплыву на пралетарыят, і таму пранікненьне ў партыйны асяродак усякага роду апартуністычных настрояў, якія падрываюць баяздольнасьць пралетарыята ў яго разгорнутым наступе на капіталістычныя элемэнты, павінна сустракаць рашучы бальшавіцкі адпор. Гэта зьяўляецца асноўнай умовай пераможнага прасоўваньня сацыялізму ўперад і, забясьпечваючы бальшавіцкія тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва, тым самым зьяўляецца прадпасылкай перамогі цяжкасьцяй, якія стаяць на шляху гэтага будаўніцтва.

Перамога цяжкасьцяй, якія перад намі стаяць, залежыць ад нашай работы, ад нашага ўменьня весьці пасьлядоў-

чую і няпрымірующую барацьбу з нядбайнымі адносінамі, разгільдзяйствам і бюракратызмам у нашых органах і асабліва ад нашай здольнасьці мабілізаваць рабочую клясу, якая зьяўляецца крыніцай хутка ўзрастаючай і проста нявычэрпваючай рэвалюцыйнай энэргіі для справы барацьбы за камунізм. Прамфінплян стаіць пад ударам. Гэтым ставіцца пад удар праграма трэцяга году пяцігодкі. Зробім з гэтага бальшавіцкі вывад: *усе сілы партыі, усе сілы рабочае клясы на выкананьне прамфінпляну, на забясьпечаньне праграмы трецяга году пяцігодкі.*

*Цэнтральны Камітэт Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў).*

---

# Аб практычных мерапрыемствах партыйных, прафэсыянальных, камсамольскіх, гаспадарчых і каапэрацыйных арганізацый для прапрацоўкі і правядзеньня ў жыцьцё звароту ЦК УсеКП(б) ад 3-га верасьня 1930 г.

### *Усім абласткомам, крайкомам і ЦК нацкампартый.*

Навакол звароту ЦК ад 3 верасьня павінны быць неадкладна мабілізаваны партыйныя і камсамольскія арганізацыі, пры чым галоўным чынам і перш за ўсё завадзкія ячэйкі, а пад іх кіраўніцтвам і на чале з імі шырачайшыя рабочыя масы—для рашучага пераломy ў выкананьні прамфінпляну 1929-30 г., для ўздыму новай хвалі ўдарніцтва і сацспаборніцтва, для масавай падрыхтоўкі да новага гаспадарчага году, для арганізацыі масавага пралятарскага кантролю над рабочым забесьпячэньнем.

Для гэтага ЦК прапануе ажыцьцёвіць наступныя мерапрыемствы:

1. У важнейшыя прамысловыя раёны, найбольш адстаючыя ў выкананьні прамфінпляну, паслаць 20-25 брыгад на чале з упаўнаважанымі ЦК, уключаючы ў іх склад эканамістаў, праф., каап. і газэтных працаўнікоў і лепшых ударнікаў (з месц). Такія-ж брыгады арганізаваць краявым (вобластным) камітэтам і ЦК нац. кампартый, прыцягваючы да працы ў тым ліку студэнтаў эканамічных і тэхнічных ВНУ.

Задача брыгад: арганізаваць масавую прапрацоўку звароту ЦК і выцякаючых з яго практычных мерапрыемстваў па даннаму заводу (будаўніцтву, рудніку, транспартнаму вузлу і інш.)—па ўсім лініям (гасп. органы, прафсаюзы, каапэрацыя і г. д.)

2. Абмяркаваць зварот ЦК: а) на раённых і гарадзкіх сходах нізавога партыйнага і камсамольскага актыву; б) на адчыненых сходах цэхавых парт'ячэяк (партгруп) з камсамолам і беспартыйным актывам; в) па чырвоным куткам на прадпрыемствах; г) на групавых, цэхавых, зьменных вытворчых нарадах; д) на завадзкіх зьлётах (канфэрэнцыях) ударнікаў; е) на завадзкіх, раённых, гарадзкіх сходах ІТР.

На ўсе гэтыя сходы шырока прыцягнуць ударнікаў.

Асноўная задача гэтых сходаў: максымальна канкрэтызаваць мясцовыя задачы, якія выцякаюць са звароту ЦК; у працэсе абгаварэньня шырока разгарнуць самакрытыку ўсяго, што тармазіць выкананьне прамфінпляну і выявіць апартуністычную практыку, даючы адпор правым і троцкісцкім вылазкам і нездаровым рвачэскім настроям асобных адсталых элемэнтаў рабочых.

3. Правесьці шэраг спэцыяльных мерапрыемстваў, а менавіта:

1) Новы прызыў рабочых ва ўдарныя брыгады „трэцяга году пяцігодкі“;

2) перабудову масавай вытворч-эканамічнай работы ў цэху, ідучы за вопытам перадавых прадпрыемстваў (плянава-апэратыўныя групы, скрозныя брыгады, буксір адстаючых цэхаў);

3) вылучэньне лепшых ударнікаў у завадзкія органы рацыяналізацыі, бюро рабочага вынаходзтва, аддзел экаиомікі працы і інш.;

4) стварэньне рабочых брыгад кантролю над спажкаапэрацыяй (з удзелам дэлегатак, жонак рабочых і камсамольцаў);

5) прыцягненьне саўгасаў і калгасаў (у першую чаргу зьвязаных з прадпрыемствамі па лініі шэфства) да абгаварэньня пытаньняў аб палепшаньні рабочага забесьпячэньня;

6) па лініі камсамолу—самаабавязацельства камсамольцаў і маладых рабочых па замацаваньню на данным прадпрыемстве на пэўны тэрмін; перакідка 30 тысяч камсамольцаў у Данбас, арганізацыя паказальнай работы ў шахтах.

4. Да ўсесаюзнага дню ўдарніка і пачатку гаспадарчага году (1 кастрычніка) разгарнуць масавую культурную работу па клюбам і чырвоным куткам, праводзячы вечары ўдарнікаў, ушанаваньне і прэміраваньне прыкладных рабочых, а таксама таварыскія суды над прагульшчыкамі і лятунамі.

5. Паставіць масавы кантроль над усёй гэтай работай праз друк, рабкораў і лёгкую кавалерыю. Друку—побач з бязьлітаснай крытыкай слабых вучасткаў і выяўленьнем правых і „левых“ апартуністаў—шырока папулярызаваць станоўчы вопыт.

Раённым і гарадзкім парткамісіям сыстэматычна правяраць рэалізацыю звароту ЦК.

Крайкомам, вобласткомам, ЦК нацкампартый—прадстаўляць у ЦК УсеКП(б) штодэкадныя зводкі.

**ЦК УсеКП(б).**

---

## За падрыхтоўку да перавыбараў саветаў!

Перавыбары саветаў—органаў пралятарскай дыктатуры, паводле пастановы ЦВК Саюзу ССР павінны быць праведзены на працягу сьнежня м-ца 1930 г., студзеня і лютага м-цаў 1931 г.

Надыходзячая кампанія перавыбараў саветаў зьяўляецца кампаніяй, якая павінна падагуліць вынікі праробленай работы саветамі ў галіне сацыялістычнага будаўніцтва і намеціць пэўныя шляхі іх далейшай дзейнасьці, якія-б забясьпечвалі пасьпяховае выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады. Вынікі другога году пяцігодкі паказваюць вялізарнейшыя дасягненьні ў галіне індустрыялізацыі краіны. Ня менш значныя посьпехі ёсьць і ў галіне сацыялістычнай перабудовы вёскі. Буйны ўзрост сацыялістычнай прамысловасьці, нябывалае праяўленьне актыўнасьці рабочых мас, якая знаходзіць сваё афармленьне ў шырока разгорнутым ударніцтве, знайшлі свой водгук у шырокіх пластох калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. *Рост новых заводаў і фабрык ідзе поруч з шпаркім разгортваньнем калектывізацыі вёскі ростам новых калгасаў, якія на вопыце вясеньняй сяўбы, уборачнай кампаніі давялі перавагу калектыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай.* Вялізарны рост сацыялістычнага будаўніцтва, узмацненьне камандных вышынь пралятарскай дзяржавы далі магчымасьць ленінскай партыі ад палітыкі абмежаваньня і выцісканьня капіталістычных элемэнтаў у вёсцы перайсьці да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі. Такім чынам па новаму ставіцца цяпер пытаньне аб апоры савецкай улады на вёсцы, калі *„вёска падзяляецца на дзьве асноўныя часткі, на калгасьнікаў, якія зьяўляюцца сапраўднай і грунтоўнай апорай савецкай улады, і на некалгасьнікаў з беднаты і сераднякоў, пакуль што не жадаючых пайсьці ў калгасы, але якіх масавы вопыт калгасаў бязумоўна пераканае ў адносна кароткі тэрмін у неабходнасьці ўступіць на шлях калектывізацыі“. (З рэзалюцыі XVI зьезду УсеКП(б).*

Да пачатку перавыбараў саветаў засталося два месяцы, якія павінны быць запоўнены ўдарнай падрыхтоўкай да гэтай найсур'ёзнейшай палітычна-маса-

вай кампаніі. Падрыхтоўка і самыя перавыбары саветаў будуць адбывацца напярэдадні новага гаспадарчага году —трэцяга году пяцігодкі. Вялізныя задачы, ускладзеныя на прамысловасьць, задачы ў галіне калектывізацыі, задачы вырашэньня галоўнага лёзунгу партыі— ліквідацыі кулацтва як клясы, *патрабуюць ад саветаў—органаў пралятарскай дыктатуры, узмацненьня работы па мабілізацыі шырокіх рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вакол задач сацыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы*, вакол важнейшай палітычнай кампаніі—перавыбараў саветаў.

За апошнія два гады саветы прарабілі вялікую работу ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Але-ж на фоне бясспрэчных дасягненьняў у рабоце саветаў ёсьць і нямала недахопаў. Недахопы ў рабоце саветаў ідуць галоўным чынам па лініі іх адставаньня ад ударных тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Значная частка гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветаў не заняла яшчэ свайго месца, якое ім па праву належыць. Ліквідацыя акруг пашырыла непасрэдную адказнасьць РВК і сельсаветаў за рад вучасткаў сацыялістычнага будаўніцтва. *Падрыхтоўка да перавыбараў саветаў павінна прайсьці пад лёзунгам карэннай перабудовы ўсёй работы саветаў на аснове сапраўднага іх павароту тварам да заводу, фабрыкі, саўгасаў і калгасу.*

Мінулая перавыбарчая кампанія паказала, што там, дзе была праведзена належная падрыхтоўчая работа, перавыбары саветаў прайшлі пры надзвычайным і шырокім удзеле працоўных мас, таму зараз-жа павінна быць распачата масавая работа па мабілізацыі рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вакол падрыхтоўкі да перавыбараў. Усю падрыхтоўчую работу да перавыбараў саветаў неабходна перавесьці на рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. Кожны гарадзкі местачковы і сельскі савет павінен пакласьці ў *аснову сваёй дзейнасьці лепшую падрыхтоўку да перавыбараў, якая павінна прайсьці пад лёзунгам поўнага ўцягненьня ў перавыбары працоўнага насельніцтва гораду, мястэчка і вёскі. Толькі так, а ня інакш можа стаяць пытаньне ў надыходзячую перавыбарчую кампанію і гэта павінна быць абавязкова выканана.*

Зразумела, што самі саветы, пры той наяўнасьці савецкага беспартыйнага актыву, які вакол іх згуртаваны, ня змогуць па-баявому справіцца з задачамі, выцякаючымі з падрыхтоўкі да перавыбараў саветаў. Ім патрэбна дапамога. Прафсаюзы, камсамол, дэлегацкія сходы, групы беднаты, грамадзкія арганізацыі павінны забясьпечыць саветам дапамогу ў гэтай кампаніі. Пачэсная доля работы выпадае і на рабселькораўскую армію. Трэба прыняць усе меры да таго, каб была забясьпечана поўная ініцыятыва працоўных мас у справе падрыхтоўкі да перавыбараў. Павінна быць абвешчана рашучая барацьба чыноўніцкаму падыходу да справы падрыхоўкі перавыбараў. *Арганізацыя шырокай ініцыятывы рабочых, калгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вакол перавыбараў, змаганьне з бюракратычнымі адносінамі да гэтай найалказьнейшай кампаніі зьяўляецца аднэй з неабходных умоў пасьпяховага правядзеньня перавыбараў.*

У парадку падрыхоўкі да перавыбараў саветаў, газэта „Савецкая Беларусь“ на сваіх старонках арганізуе пераклічку па абмену вопытам работы саветаў і збор прапаноў на лепшае правядзеньне справаздачна-перавыбарчай кампаніі. Усебеларуская пераклічка па абмену вопытам работы саветаў павінна прайсьці пад пунктам гледжаньня замацаваньня станоўчага боку дзейнасьці саветаў і выяўленьня больш дасканалых і жыцьцёвых формаў масавай работы, якая-б адпавядала тэмпам сацыялістычнага будаўніцтва. Зборам прапаноў па правядзеньні перавыбарчай кампаніі забясьпечым пасьпяховае яе правядзеньне. *Рабочыя, калгасьнікі, працаўнікі Райвыканкомаў, гарсаветаў, сельсаветаў, савецкі актыў, групы беднаты, настаўніцтва, рабселькоры павінны прыняць самы найактыўнейшы ўдзел у зборы прапаноў па правядзеньні перавыбараў саветаў.*

Выбары ў саветы будуць праходзіць ва ўмовах самай абвостранай клясавай барацьбы. Ліквідуемы кулак, поп, ксёндз, рабін, буржуазны прафэсар, нацыянал-дэмакрат, якія мараць аб аднаўленьні

абшарніцка-кулацкага ладу, будуць імкнуцца, будуць спрабаваць усімі мерамі перашкодзіць узмацненьню органаў пралятарскай дыктатуры, правесьці ў саветы сваіх агентаў, перацягнуць на свой бок частку хістаючыхся сераднякоў.

Гэтаму трэба супроцьставіць выразную клясавую *пільнасьць саміх саветаў, рабочых, калгасьнікаў, груп беднаты і батрацтва, якія пад кіраўніцтвам мясцовых партыйных арганізацый павінны мабілізаваць шырокія бядняцка-серадняцкія масы на актыўны ўдзел у гэтай важнейшай палітычнай кампаніі.*

Трэба цьвёрда выконваць выбарчую інструкцыю, якая пазбаўляе ворагаў пралятарскай дыктатуры ня толькі права быць абранымі ў саветы, але і магчымасьці прымаць які-б та ні быў удзел у выбарах. Каб не дапусьціць гэтага, *неабходна безадкладна і ўсямерна разгарнуць работу сярод батрацтва і беднаты. Неабходна няўхільна і выразна праводзіць у жыцьцё лёзунг аб ліквідацыі кулацтва, як клясы на аснове суцэльнай калектывізацыі, выяўляць, выкрываць і бязьлітасна біць правых апартуністаў—агентуру кулацтва, а таксама „левых“ загібшчыкаў з іх антысерадняцкімі тэорыямі.*

Шырокія масы рабочых, калгасьнікаў і працоўных БССР, як і ўсяго СССР, у *перавыбарчай кампаніі як і заўсёды будуць дэманстраваць бязьмежнае сваё давер'е да ленінскай кампартыі і пад яе кіраўніцтвам яшчэ больш актыўна будуць змагацца за „Пяцігодку ў чатыры гады“, за суцэльную калектывізацыю і на яе аснове—ліквідацыю кулацтва, як клясы, за ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны, за яшчэ большае ўзмацненьне органаў пралятарскай дыктатуры—Саветаў.*

---

# Сельскія саветы і задачы калектывізацыі.

„Калі мы будзем сядзець па старому ў дробных гаспадарках, хаця і вольныя грамадзяне на вольнай зямлі, нам усяроўна пагражае нямінучая пагібель“.

(Ленін, том XIV, ч. 1, ст. 169).

Адбываючыся вялізарны зрух у вёсцы ў бок павароту асноўных мас сялянства да сацыялізму, ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі вымагае ад сельскіх саветаў штодзённую няўтомную працу ў напрамку як уладаньня кіраўніцтвам, так і непасрэднага ўдзелу ва ўсіх працэсах сацыялістычнай перабудовы вёскі. Ажыцьцяўляючы мерапрыемствы ўлады ў выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады пераважная частка гэтай працы на вёсцы прыпадае на правядзеньне калектывізацыі. Вось чаму роля саветаў у гэтай галіне адрозьніваецца ад ролі саветаў адбудоўчага пэрыяду і набывае выключна важнае палітычнае значэньне. Вопыт працы мінулых гадоў паказаў, што там, дзе саветы сапраўды зьяўляліся падрыхтаванымі да гэтай працы праводзілі яе зразумела на падставе яскравых дырэктыў партыі, там было менш перагібаў і пакрыўленьняў у адносінах да серадняка. Досыць часта ў працы саветаў асабліва ў пачатку 1930 году ў вялікай колькасьці ўжываліся спробы з боку розных упаўнаважаных замяніць сельсавет, адсунуць яго ў вачох насельніцтва ад практычнага ўдзелу ў правадзімай працы. Такія адносіны да работы сельсаветаў зьніжалі аўтарытэт ня толькі сельсавету і яго працаўнікоў, але і Савецкай Улады. Падмяніўшы, тэорытычна слаба падрыхтаваны калектыў

сельскага савету ўпаўнаважаныя выпраўляючы памылкі сельсаветаў у аднэй галіне, ня ведаючы быту і ўмоў гэтага савету, самі рабілі шмат памылак і пакрыўленьняў у другім напрамку. Апіраючыся ў сваёй дзейнасьці на ня вывучаны і выпадковы навербаваны актыў вёскі ўпаўнаважаныя зачастую замест апоры на беднату, апіраліся на прыбраўшыхся перад яўкаю да ўпаўнаважанага ў бядняцкую вопратку заможныя элемэнты. Прыкладам такога зьявішча можа служыць Паўлоўскі сельсавет, Круглянскага раёну, дзе прыехаўшая ў лютым месяцы рабочая брыгада для дапамогі ў правядзеньні калектывізацыі ў ліку чатырох асоб выбрала ня толькі ў дапамогу, але і прыпынілася на кватэры былога валаснога старшыні, ня здаўшага яшчэ справы і старшыні царкоўнага савету кулака Панарадава Базыля, вылучыўшы яго прыёмшчыкам абагульняемага насеньня. Папярэднія ўпаўнаважаныя падмяніўшы сельсавет, не прыслухоўваючыся да заўваг гэтага кулака, меўшага поўны камплект складаных сельска-гаспадарчых машын прынялі ў калгас і нават, мабыць па несьвядомасьці, увялі яго па актыўнасьці і надворнаму бядняцкаму выгляду ў склад праўленьня калгасу „Сонца“. Вядома, у працягу яшчэ доўгага часу нам прыдзецца практыкаваць пасылку працаўнікоў з цэнтру на дапамогу ў раёны і нельга не адзначыць, што рабочыя брыгады ў 1929-30, у 1930-31 гаспадарчым годзе прарабілі шмат каштоўнай працы ў галіне калектывізацыі, арабочаньня нашых саветаў і рабочага ўплыву як на працу некаторых саветаў, так і на ўмацаваньне сувязі гораду з вёскай. Аднак, нельга захоўваць і тых па колькасьці невялікіх адмоўных момантаў, якія нажаль мелі месца ў працы па калектывізацыі з боку некаторай часткі брыгад. Неабходна ўскрыць слабыя месцы для таго, каб у далейшым іх не паўтараць.

Вось, што кажа т. Ленін у адносінах зразуменьня і выпраўленьня слабасьцяй: „Усе рэвалюцыйныя партыі, якія дагэтуль гінулі—гінулі ад таго, што заносіліся і ня ўмелі бачыць у чым сіла, баяліся гаварыць пра свае слабасьці і не навучыліся перамагаць. А мы не загінем, бо не баімся гаварыць пра свае слабасьці і навучымся перамагаць слабасьці“. (Ленін, т. XVIII, ч. 2, ст. 59).

Праводзячы працу ў галіне калектывізацыі саветам неабходна цьвёрда памятаць, што варожыя элементы гораду і вёскі сустракаюць і будуць сустракаць атакаю мерапрыемствы ўлады накіраваныя на сацыялістычную перабудову вёскі, бачучы ў гэтай перабудове сваю гібель. Ёсьць некаторая частка працаўнікоў у саветах, якая разбройвае савецкі актыў—кажучы, што кулака няма, ён раскулачаны і высланы. У дакладзе Прэзыдыума ЦВК БССР 25 жніўня старшыня Калінкавіцкага раёну заявіў, што ў гэтым годзе ў іх раёне кулака няма ніводнага. Між тым, як процант калектывізаваных гаспадарак у раёне толькі 13 проц. Такія разважаньні супярэчаць пастановам XVI зьезду партыі, дзе адзначана: *„кулак яшчэ не дабіты і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне прасоўваньню калектывізацыі“*. Выпраўленьне меўшыхся перагібаў у адносінах серадняка, як саюзьніка рабочае клясы ў працы саветаў павінна займаць значнае месца. Увага серадняку і прыяцельскія адносіны з ім гэта адна справа. Зусім другая справа—кулак. З ім не павінна быць ні супрацоўя, ні міру. Гістарычная роля кулацтва ва ўсе пэрыяды гаспадарчых узаемаадносін была накіравана на прыгнечаньне і поўнае закабаленьне бядняцкай часткі вёскі. Кулак распухаў ад тлушчы ў той час, калі беднота пухла ад голаду. Не патрэбна забываць таго, што казаў пра кулакоў тав. Ленін. „Кулакі—самыя зьверскія, самыя грубыя, самыя дзікія эксплёататары, якія ня раз аднаўлялі ў гісторыі іншых краёў уладу памешчыкаў, цароў, папоў, капіталістых. Кулакоў больш, чым памешчыкаў і капіталістых. Але ўсё-ж кулакі—меншасьць у народзе... Гэтыя крывапіўцы нажыліся на народнай галечы ў часе вайны, яны скапілі тысячы і сотні тысяч грошай, павышаючы цэны на хлеб ды іншыя прадукты. Гэтыя павукі тлусьцелі за кошт зруйнаваных вайною сялян, за кошт галодных рабочых. Гэтыя п'яўкі пілі кроў працоўных, багацеючы тым больш, чым больш галадаў рабочы ў гарадох на фабрыках. Гэтыя вампіры надбіралі і падбіраюць сабе ў рукі памешчыцкія

землі, яны зноў кабаляць бедных сялян". (том XX, частка 2-я, стар. 257).

Вось чаму барацьба з кулацтвам, яго агэнтурай патрабуе тэорытычнага ўзброеньня работнікаў саветаў і гэта праца ня можа быць выканана ў адзін прысест. Не эвакуацыя кулацтва як тлумачаць некаторыя працаўнікі ў раёнах, а поўная яго ліквідацыя як клясы павінна пры няўпынным правядзеньні суцэльнай калектывізацыі праводзіцца ў жыцьцё. Саветы павінны ведаць, што калектывізацыя ў раёнах і практычная праграма па сацыялістычнаму будаўніцтву ў сельскай гаспадарцы павінна ісьці такім тэмпам, каб да канца 5-ці годкі гэта работа была праведзена з разрахункам, 0,9 засеўнай плошчы пакрыць калгасамі.

„К канцу пяцігодкі калектывізацыя СССР павінна быць у асноўным закончана і пасеўныя плошчы калгасаў да гэтага тэрміну павінны пакрыць 9/10 усёй пасеўнай тэрыторыі СССР апрацоўваемай у сучасны момант паасобнымі гаспадаркамі." (Сталін. Палітсправаздача ЦК XVI зьезду партыі).

Сельскім саветам, прыступаючым да практычнай працы па правядзеньню калектывізацыі патрэбна праводзіць пад пунктам гледжаньня ўмацаваньня існуючых калгасаў, асабліва ў час разьмеркаваньня ўраджаю заробкаў за межамі калгасаў удзельнічаць дапамогаю не падмяняючы праўленьняў у арганізацыі працы ў асеньнюю засеўную кампанію і ўсебакова падрыхтавацца добра вывучыўшы аб'екты для працы на асеньні і зімовы пэрыяд.

Дапамагаючы ў разьмеркаваньні рабочай сілы калгасьнікам у васеньня-зімовы пэрыяд трэба ўлічыць неабходную падрыхтоўку для вучобы па ўзьняцьцю кваліфікацыі, асабліва моладзі і жанчын з мэтаю забесьпячэньня пасьпяховага ўздыму жывёлагадоўлі і поўнае загрузкі рабочага дню, як працаю ў межах калгасаў, так і па-за калгасам (вывазкі, зарыхтоўкі будаўнічага матар'ялу, адходныя заробкі і г. д.). На глебе заробкаў за межамі калгасаў пры скарыстаньні жывога і мёртвага інвэнтару калгасьнікаў магчыма будуць спробы варожых элемэнтаў наогул і ня ўстойлівых калгасьнікаў перашкодзіць далейшаму ўмацаваньню калгасаў.

Работнікам саветаў, да якіх будуць зварочвацца вярбоўшчыкі рабочай сілы і гаспадарчыя арганізацыі разьмяркоўваючы нарады трэба добра ўлічыць магчымасьці калгасаў не забываючы і паасобных індывідуальных бядняцкіх гаспадарак.

Карысна па справе калектывізацыі вёскі саветам пачаць праводзіць работу з батрацка-бядняцкім актывам у тых вёсках і паселішчах, дзе па розным прычынам разваліліся калгасы, але там захавалася здаровае калгаснае ядро хаця можа і ня ў значнай колькасьці, вакол каторага можна згуртаваць асноўныя масы сялянства, праводзячы гаспадарчыя кампаніі арганізоўваць калгасы. Арганізацыя новых калгасаў і павялічэньне існуючых за лік бядняцка-серадняцкіх гаспадарак не павінна ўносіць адміністрацыйнага нажыму асабліва ў сучасны момант, калі ўдарным парадкам праводзіцца цэлы шэраг гаспадарчых кампаній, правядзеньне якіх у мінулым годзе ў некаторых мясцох палажыла пачатак пакрыўленьням і перагібам. Частка сялян сяла Паўлавіч Аршанскай акругі пры выхадзе з калгасаў заяўляла: „мы сераднякі ў калгас уступілі толькі ў восень 1929 г. не таму, што жадалі, а хаваліся ў калгасы, як пад парасонам ад хлеба і бульба нарыхтовак, а зараз выходзім з калгасу". Вядома за такі рост калектывізацыі двароў і плошчы працаўнікоў трэба прыцягваць да суровай адказнасьці.

„Гвалт у адносінах да сярэдняга сялянства становіць сабой найвялікшую шкоду. Гэта—пласт многалікі шматмільённы. Нават у Эўропе, дзе ён ні дзе не дасягае такой сілы, дзе гіганскі разьвіта тэхніка і культура, гарадзкое жыцьцё, чыгункі, дзе лягчэй за ўсё было-б думаць аб гэтым—ніводны з самых рэвалюцыйных сацыялістых ніколі не прапанаваў гвалтоўных мер у адносінах да сярэдняга сялянства". (Ленін том XVI, стар. 150).

Аб гэтым папярэджваньні неабходна памятаць саветам у іх штодзённай працы пры гаспадарчых узаемаадносінах з серадняком.

У практыцы работы саветаў сустракаюцца і другога роду недарэчнасьці, калі ролю саветаў прабуюць падмяніць калгасам. Як відаць асуджаныя артыкулы Дацэнка—„Рабочая Москва“ 19/X-29 г. і Рахава—„Известия“ 11/IX-29 г. знайшлі прыпынак у галовах некаторых працаўнікоў. Дацэнка пісаў: „пры суцэльнай калектывізацыі сяленьняў з поўным абагуленьнем усе функцыі сельскіх саветаў ажыцьцяўляюцца калгасамі“, і ад гэтуль робіць вывад: „захаваньне сельскіх саветаў пры наяўнасьці суцэльнай калектывізацыі сяленьняў... будзе лішняй і дарагой адміністрацыйнай надбудовай над калгасамі“. Рахаў піснуў яшчэ шырэй: „калгасы рашаюць і пачынаюць праводзіць у жыцьцё задачы сельскіх саветаў, калгасы апераджаюць дзейнасьць сельсаветаў. Ці не зьяўляецца калгас-сяло пачаткам адміраньня асобных звеньняў дзяржаўнасьці ў нашым савецкім Саюзе, будуючым сацыялізм“. Здаецца на першы погляд абодвы аўтары павярнулі руль „у лева“. На самай справе аб‘ектыўна гэта самы высокапробны правы апартунізм. Такім поглядам і адносінам да ролі саветаў у рэканструкцыйны пэрыяд народнай гаспадаркі трэба даваць рашучы адпор. Тав. Ленін ня раз паказваў, што адміраньне дзяржавы пачнецца пасапраўднаму толькі тады, калі адамруць клясы. Клясы як вядома ў нас не адмерлі і абвостраная клясавая барацьба не прыпыняецца, а пагэтаму і роля саветаў, якія зьяўляюцца формай дыктатуры пралетарыяту не павінна быць падменена або адсунута на задні плян. Мы толькі прыступілі да ліквідацыі кулацтва як клясы, сустракаем шалёнае супраціўленьне і пагэтаму саветы выконваючы вялікую задачу як органы ўлады павінны дапамагчы прыдушыць супраціўленьне кулацтва і іншых капіталістычных элемэнтаў.

Такім чынам, праводзячы ў жыцьцё абгрунтаваны пяцігадовы плян сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі саветы павінны ў фундамент сваёй дзейнасьці палажыць пастановы Ураду, праводзячы калектывізацыю вёскі апірацца на беднату, трымаючы моцны саюз з серадняком. Толькі ўвязваючы і па бальшавіцкі выконваючы ўсе галіны правадзімых палітычна-гаспадарчых кампаній, рашуча наступаючы на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, даючы пераможны адпор абанкроціўшымся правым апартуністам можна быць упэўненым у больш пасьпяховым выкананьні наступнага Ленінскага зазначэньня: „у двое, у трое ўзьнялася-б вытворчасьць працы, у двое у трое была-б ашчаджана людзкая праца для земляробства і людзкое гаспадаркі, калі ад раздробленай дробнай гаспадаркі зьвяршыўся-б пераход да гаспадаркі грамаджанай“.

**А. Мікуліч.**

---

## Змаганьне за суцэльную калектывізацыю, за новы калгасны прыліў—змаганьне за пяцігодку.

---

## Роля сельсаветаў у справе калектывізацыі.

Калгаснае будаўніцтва да апошняга году разьвівалася амаль што бяз удзелу сельсаветаў і, адкрыта кажучы, сельсаветы і нават некаторыя райвыканкомы мала цікавіліся калгасамі. Удзел у калгасным будаўніцтве і дапамога калгасам з боку мясцовых зямельных работнікаў, аграномаў і іншых спэцыялістых у мінулым заключалася ў тым, што яны калі-небудзь па дарозе заяжджалі ў калгас, аб тым аб сім пагутарыць або перанaчаваць... Адным словам закладка падмурка вялікага сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы ў некаторых мясцох ішла без актыўнага ўдзелу мясцовых органаў улады—сельсаветаў і райвыканкомаў. Патрабавалася ўпартая работа нашай партыі і Цэнтральнага Вы-

канаўчага Камітэту, каб павярнуць сельсаветы тварам да калгасу. Праз абсьледваньні дзейнасьці сельсаветаў было ўстаноўлена шмат выпадкаў права-апартуністычных адносін да калгаснага руху з боку паасобных работнікаў. Патрабавалася па шэрагу раёнаў правесьці датэрміновыя перавыбары сельскіх саветаў, а дзе-ні-дзе і райвыканкомаў. У выніку гэтых мерапрыемстваў наша партыя і савецкая ўлада дабілася вялікага пералому ў дзейнасьці нізавога савецкага апарату ў бок актыўнага яго ўдзелу ў справе калектывізацыі. Аднак, трэба сказаць некалькі слоў наконт якасьці гэтага ўдзелу сельсаветаў у справе калектывізацыі. Замест таго, каб даказаць, упэўніць бедняка і серадняка ў перавыжнасьці буйнай каляктыўнай гаспадаркі над дробнай індывідуальнай, мінулай зімой калектывізацыю праводзілі ў большасьці выпадкаў у парадку адміністраваньня і нажыму. Замест таго, каб прыстасаваць дзейнасьць сельсавету да лепшага абслугоўваньня калгасу, каб дапамагчы беднякам і сераднякам вёскі дабраахвотна аб'яднацца ў калгасы, найхутчэйшым чынам землеўпарадкаваць калгас, прыстасаваць гаспадарчыя будынкі для абагуленай жывёлы, наладзіць правільныя ўзаемаадносіны паміж калгасьнікамі і некалгасьнікамі, замест усяго гэтага ў шмат мясцох праводзілі наадварот: арганізоўвалі калгасы ня лічучыся з гаспадарчымі ўмовамі, жаданьнем калгасьнікаў, адным словам, каляктывы прыстасоўвалі да дзейнасьці сельсавету. Адгэтуль арганізацыя калгасаў „гігантаў“ у межах сельсавету, падмена праўленьня калгасу сельсаветам (а ў некаторых выпадках адным старшынёй сельсавету), адгэтуль і тыя перагібы, якія так перашкодзілі каляктыўнаму руху. Сельсаветчыкі ў час перагібаў часова запамятавалі наказаньне Леніна „ня сьмець камандаваць селянінам“. Вынікі адміністраваньня, камандаваньня ўсім вядомы: зьнішчэньне шмат жывёлы, масавы выхад з калгасу пасьля спраўленьня перагібаў і г. д. Але перагібы ўжо адыйшлі ў галіну гісторыі. Мы паглядзім што робіцца сельсаветамі пасьля спраўленьня перагібаў,— як зараз сельсаветы дапамагаюць калгасьнікам, што сельсаветы робяць па замацаваньні калгасаў, як сельсаветы дапамагаюць калгасам устанавіць правільныя ўзаемаадносіны паміж калгасьнікамі і некалгасьнікамі і як сельсаветы зараз арганізуюць новы прыліў бядняцка-серадняцкіх мас у калгасы.

Шмат правых апартуністых, практыкаў „левых“ загібаў разважаюць так: „каб не абвінавачвалі ў правым ухіле, трэба рабіць левы загіб“. Гэтая „тэорыя“ сапраўдных правых апартуністычных элемэнтаў, кулацкіх агентаў у нашай партыі, сельсаветах і іншых органах, спачатку прыняла да перагібаў, а калі перагібы былі асуджаны і спраўлены, гэтыя апартуністыя апусьцілі рукі і ня толькі не дапамагаюць калгасам, а сваёй пасыўнасьцю надзвычайна перашкаджаюць калгаснаму будаўніцтву.

Гэтакую характарыстыку прыходзіцца, на жаль, надаць шмат сельсаветам нашае Рэспублікі.

У чэрвені м-цы на раённай канфэрэнцыі ў Лядах калгасьнікі скардзіліся, што сельсаветы абсалютна не дапамагаюць калгасам, нават у вырашэньні тых спраў, якія па закону сельсаветы абавязаны рабіць. Напрыклад, калі калгас звароч-ваецца да члена сельсавету з просьбай прысутнічаць пры складаньні акту аб патравах і інш., дык член сельсавету ўсялякімі прычынамі адмаўляецца. Вядома, што гэтым ён толькі садзейнічае абвастрэньню ўзаемаадносін паміж калгасьнікамі і некалгасьнікамі. У аднаго старшыні сельсавету Ляднянскага раёну, пасьля ад'езду яго на курсы, знайшлі 17 выканаўчых загадаў, прысуджаных з індывідуальных сялян у карысьць калгасаў за патраву. Гэтыя загады марынаваліся месяцамі ў сельсавецкай папцы, а палі калгасьнікаў конямі кулакоў і падкулачнікаў нарочыта страўліваліся.

Мы ведаем таксама, што ў час адводаў калгасьнікам сенажацяў з боку шмат сельсаветаў праяўлена ганебная валакіта і ўсялякія перашкоды, у выніку чаго былі выпадкі, калі сяляне індывідуальнікі, пад уплывам кулакоў, пры бязьдзейнасьці сельсаветаў, скошвалі сенажаці калгасьнікаў, а ў некаторых мясцох скошвалі нават і ўраджай зерневых культур калгасу. Трэба проста сказаць: там, дзе не наладжаны ўзаемаадносіны паміж сялянамі калгасьнікамі і

некалгасьнікамі, там, дзе маюцца выхады з калгасу або дзе калектывізацыя не пашыраецца, там, дзе ўборка ўраджаю і пасеўная кампанія праводзіцца дрэнна, там бязумоўна сельсавет працуе ня так як трэба, там сельсавет знаходзіцца пад уплывам кулакоў і праводзіць варожую нам палітыку. Гэтую характарыстыку, зразумела, нельга адносіць да ўсіх сельсаветаў.

Мы таксама добра ведаем і шмат такіх сельсаветаў, якія сапраўды стаяць тварам да калгасаў і зьяўляюцца сапраўднымі кіраўнікамі калгаснага будаўніцтва на сваёй тэрыторыі.

Праводзячы жорсткую клясавую барацьбу, калгасы за апошні год, асабліва за вясну, узрасьлі, замацаваліся. Калгасьнікі атрымалі добрую закалку клясавай барацьбы на вёсцы. Пры актыўным удзеле калгасьнікаў мы зьліквідавалі значную частку кулацтва, як клясу, але карані кулацтва яшчэ засталіся і яны моцна сядзяць. Калгасьнікам, беднаце і сераднякам сумесна з саветамі пад кіраўніцтвам нашае партыі прыдзецца яшчэ дабіваць кулацтва. Калгасьнікі паказалі, што яны сталі „сапраўднай апорай“ савецкай улады на вёсцы. Мы павінны справу паставіць так, каб гэтая „апора“ не ігнаравалася сельсаветамі, а каб сельсаветы ў сваёй барацьбе з кулацтвам за сацыялістычную перабудову сельскай гаспадаркі сапраўды апіраліся на калгасьнікаў.

Зразумела, што сельсаветы павінны быць шчыльна зьвязаны з калгасамі ня толькі па палітычных пытаньнях па барацьбе з кулацтвам і г. д. Сельсаветы ня могуць стаяць у баку ад усяго таго, што і як робіцца ў калгасах у гаспадарчых адносінах. Сельсаветы павінны кіраваць і дапамагаць калгасьнікам наладзіць калякты ўную гаспадарку так, каб на прыкладзе каляктыўнага вядзеньня гаспадаркі ўпэўніць беднякоў і сераднякоў, якія пакуль што яшчэ не ўвайшлі ў калгасы ў пераважнасьці буйнае каляктыўнае гаспадаркі над дробнай індывідуальнай і арганізаваць іх у каляктывы.

Гэтага магчыма дабіцца не агульнымі разважаньнямі і агітацыяй за калгас, а добрым правядзеньнем усіх тых практычных задач і мерапрыемстваў, якія стаяць зараз перад калгасамі.

Самай адказнай у сучасны момант задачай калгасаў зьяўляецца своечасовае правядзеньне ўборкі ўраджаю і азімага пасеву, а таксама правільнае разьмеркаваньне паміж калгасьнікамі ўраджаю. Ад пасьпяховага выраш энььня гэтай задачы залежыць далейшае замацаваньне калгасаў і разьвіцьцё калгаснага руху наогул. Сельскія саветы павінны добра ведаць становішча кожнага калгасу, якія знаходзяцца на тэрыторыі савету і ўсямерна дапамагаць калгасам пасьпяхова справіцца з уборкай ураджаю, пасевам і разьмеркаваньнем ураджаю і прыбыткаў калгасу.

У вясну гэтага году калгасьнікі паказалі прыклад бальшавіцкага севу. Кожны калгасьнік каляктыўна пасеяў у сярэднім у паўтары разы больш кожнага адзіналічніка.

Зараз калгасьнікі з бальшавіцкай упартасьцю праводзяць уборку свайго ўраджаю. Аднак, трэба падкрэсьліць, што ўборачная кампанія больш складаная, бо яна больш абмяжавана часам, чымся вясеньні сеў. Зацяжка ўборкі ўраджаю на адзін лішні дзень каштуе сотні тысяч пудоў хлеба. Вось чаму сельсаветы абавязаны ўсялякімі мерамі дапамагаць калгасьнікам своечасова правесьці ўборку ўраджаю.

Для гэтага трэба арганізаваць узаемную дапамогу паміж калгасамі, а таксама паміж калгасьнікамі і некалгасьнікамі. Ужо маюцца прыклады ўборачнай кампаніі, калі калгасьнікі дапамагалі машынамі ўбіраць ураджай некалгасьнікам, а адзіналічнікі беднякі і сераднякі дапамагалі калгасьнікам убіраць каляктыўны пасеў, пасьля чаго цэлыя паселішчы ўступілі ў калгас.

У шмат калгасаў, якія нядаўна арганізаваліся, уборка ўраджаю ўскладняецца тым, што пасевы калгасьнікаў, праведзеныя ў адзінал ічным парадку не абагульваюцца і застаюцца ў распараджэньні пасяўшчыкоў. Гэтыя пасевы раскіданы па дробных палосках. Паўстае пытаньне, як трэба ўбіраць — каляктыўна ці ў паасобку. На гэты конт няма і ня можа быць абавязковых дырэктыў. Калгасьнікі самі павінны вырашыць як ім убіраць неабагулены ўраджай Бясспрэч-

на, што мэтазгодна ўборку праводзіць каляктыўна; што гэта будзе за калгасьнік, які пойдзе жаць ці капаць бульбу ў адзіночку? Над такім калгасьнікам, як кажуць, куры і кулакі будуць сьмяяцца.

Кулак усялякімі мерамі падштурхоўвае калгасьнікаў на тое, каб яны ўбіралі хлеб у адзіночку. Кулак спадзяецца, што гэтым ён адцягне бядняцка-серадняцкія масы ад калгасу. Кулак і падкулачнік таксама будуць сьмяяцца і тады, калі мы ня добра і не ў каляктыўным парадку правядзем уборку ўраджаю. Таму трэба добра абгаварыць і абмеркаваць на групах беднаты, на праўленьнях калгасаў і на агульных сходах калгасьнікаў, як убіраць, хто будзе ўбіраць, якімі машынамі і за якую плату будзе праводзіцца ўборка ўраджаю, як каляктыўнага пасеву, гэтак і адзінаЛічнага.

Трэба шырока растлумачыць, што думка некаторых работнікаў наконт таго, што машынай як быццам, нельга жаць на паасобных палосках, зьяўляецца неправільнай думкай. Вопыт паказаў, што машына жне, ня гледзячы на мяжу. Таксама самім калгасьнікам трэба вырашыць, ці будуць калгасьнікі ўбіраць ураджай і малаціць каляктыўна пасевы адзіналічнікаў не абагуляўшы для гэтага пасевы, г. зн. жаць і малаціць ураджай кожнай палоскі паасобку, ці раней усе гэтыя палоскі ўмоўна трэба абагуліць для ўборкі і абмалоту і пасьля гэтага ўраджай зярна, саломы, мякіны і інш. разьмяркоўваць паміж калгасьнікамі адпаведна іх плошчы пасеву і ўраджайнасьці. І той і другі парадак, які будзе ўстаноўлен самімі калгасьнікамі, зразумела, мае свае становучыя і адмоўныя бакі. Таму самі калгасьнікі павінны добра абмеркаваць і ўсебакова абгаварыць раней, чым канчаткова вырашыць гэтае пытаньне. Сельсаветы і раённыя саюзы, аграномы і інш. спэцыялісты павінны дапамагчы калгасьнікам вырашыць гэтае пытаньне ў напрамку арганізаванай уборкі ўраджаю.

Рэканструкцыя сельскай гаспадаркі ідзе па лініі спэцыялізацыі цэлых вобласьцяў, рёанаў, саўгасаў, калгасаў і г. д. У нас на Беларусі сельская гаспадарка павінна разьвівацца ў напрамку: жывёлагадоўлі (каровы малочныя і мясныя, сьвіньні, птушкі і кролікі), тэхнічных культур (лён, канапля), садоўніцтва і гароднiцтва.

У адпаведнасьці з гэтым, СНК арыентыровачна зацьверджана спэцыялізацыя раёнаў Рэспублікі наступным чынам:

Да жывёлагадоўчых раёнаў аднесены раёны: Азарыцкі, Асіпавіцкі, Астрашыцка-Гарадзецкі, Брагінскі, Буда-Кашэлёўскі, Быхаўскі, Бягомльскі, Барысаўскі, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Вэткаўскі, Глускі, Грэскі, Жлобінскі, Журавіцкі Жыткавіцкі Заслаўскі, Камарынскі, Капаткевіцкі, Копылькі, Каролінскі, Кармянскі, Касьцюковіцкі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Койданаўскі, Краснапольскі, Крупскі, Мазырскі, Лагойскі, Лельчыцкі, Лоеўскі, Любанскі, Нараўлянскі, Парыцкі, Пятрыкоўскі, Плешчанскі, Прапойскі, Пухавіцкі, Рагачоўскі, Расьнянскі, Рэчыцкі, Самахвалавіцкі, Смалявіцкі, Старадароскі, Сьвіславіцкі, Сьмілавіцкі, Слуцкі, Талачынскі, Тураўскі, Уваравіцкі, Узьдзянскі, Хойніцкі, Церахоўскі, Чавускі, Чачавіцкі, Чарэйскі, Чырвона-Слабоцкі, Чэрвенскі, Чырыкоўскі, Хоцімскі і Юравіцкі.

Ільняна-канапляныя раёны:

Асьвейскі Бешанковіцкі, Багушэўскі, Боркавіцкі, Вэтрынскі, Вульскі, Вушацкі, Высачанскі, Гарадокскі, Горацкі, Дрыбінскі, Дрысенскі, Дубровенскі, Кругляпскі, Копыскі, Коханаўскі, Лепельскі, Ляднянскі, Ліозьнянскі, Межанскі, Мсьціслаўкі, Расонскі, Сеньнянскі, Суражскі, Халопеніцкі, Чарэйскі, Чашніцкі, Сіроцінскі і Шклоўскі.

Садова-гароднія раёны:

Бабруйскі, Віцебскі, Гомельскі, Аршанскі, Полацкі, Магілёўскі, Лупалаўскі, прыгародны сельсавет Менскага Гарсавету.

Як ужо вышэй сказана, раёны вызначаны арыентыровачна. Спэцыялізацыя раёнаў патрабуе яшчэ дэталёвага вывучэньня глебавых умоў і, бязумоўна, у будучым годзе будзе некаторае ўтачненьне і перасоўваньне, асабліва ў бок павялічэньня садова-гародніх раёнаў.

А пакуль што трэба кіравацца данным вызначэньнем спэцыялізацыі раёнаў.

У залежнасьці ад напрамку сельскай гаспадаркі раёнаў кожны калгас павінен спэцыялізавацца. Гэта значыць, калі раён жывёлагадоўчы, дык калгасы

гэтага раёну павінны забясьпечыць у першую чаргу разьвіцьцё жывёлы, для чаго трэба адпаведным чынам перабудаваць севазварот калгасу, стварыць там такую кармавую базу, каб сапраўды забясьпечыць максымальнае разьвіцьцё жывёлы (малочных і мясных кароў, сьвіней і іншай жывёлы). У жывёлаводных калгасах пад кармавымі пасевамі і для жывёлы павінна быць каля 2/3 пасеўнай плошчы. У калгасах ільнаводных раёнаў пасеў ільна трэба давесьці да 30-40 проц. пасяўной плошчы. Індустрыялізацыя і мэханізацыя сельскай гаспадаркі патрабуюць суровай спэцыялізацыі калгасу.

З гэтай адказьнейшай задачай самі калгасы ня сумеюць справіцца. Тут патрэбна вялікая дапамога і кантроль з боку ўсіх грамадзкіх вясковых арганізацый і ў першую чаргу з боку сельскіх саветаў. Сапраўды, як можна справіцца адным калгасам, напрыклад, з арганізацыяй разьвядзеньня птушак. У 1930-31 г. па пляну мяркуецца пабудаваць каля 30 інкубатараў на 34 тысячы і па 51 тысячы яйцамест кожны;



З аднаго інкубатара адначасова будзе вывадзіцца 30-50 тысяч цыплят. Тут патрабуецца поўная ўвязка ўсяго ваколічнага насельніцтва з калгасам (снабжэньне яйцамі, атрыманьне пародзістых цыплят і г. д.).

Якія-б пытаньні калгаснага будаўніцтва мы ня ўзялі—спэцыялізацыя калгасу, земляўпарадкаваньне калгасу, хлебанарыхтоўкі, сіласаваньне і г. д.—без сельсавету не абыйсьціся. Рэканструкцыя сельскай гаспадаркі на аснове саўгасаў і калгасаў праходзіць пры жорсткай клясавай барацьбе. Сельсаветы абавязаны забясьпечыць перамогу калгасьнікам у гэтай барацьбе. Таксама сельсаветы павінны дабіцца такіх узаемаадносін паміж калгасьнікамі і ваколічным насельніцтвам, каб ня было цкаваньня з боку калгасьнікаў некалгасьнікаў і наадварот.

Тут шмат залежыць ад саміх калгасаў (калгасьнікаў), а яшчэ больш залежыць ад сельскага савету. Усялякія недарэчнасьці паміж калгасамі і адзіналічнікамі сельсавет абавязан безадкладна ўзгадняць згодна існуючых законаў ці дырэктыў вышэйшых органаў. Трэба справу паставіць так, каб калгасы ўзялі цэлыя вёскі адзіналічнікаў на грамадзкі буксір, па падняцьцю сельскае гаспадаркі наогул, дапамаглі некалгасьнікам с.-г. машынамі, трактарам, гатунковым насеньнем і (у абмен на простае) вытворнікамі і г. д. Калі калгас будзе дапамагаць адзіналічнікам, дык, бязумоўна, некалгасьнікі таксама будуць добра адносіцца да калгасу.



Трэба некалькі слоў сказаць аб узаемаадносінах саміх сельсаветаў з калгасамі. У час „перагібаў“ знайшліся такія „калектывізатары“, якія выказвалі думку аб ліквідаваньні сельскіх саветаў і нават райвыканкомаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі. Гэтыя „каляктывісты“ прапанавалі ўсе адміністрацыйныя правы сельсавету перадаць калгасу. Зараз ужо ўсім вядома, што гэта прапанова была аднэй з праяваў перагібаў і што яна ня вытрымлівае ніякай крытыкі.

Сельсаветы зьяўляюцца савецкай уладай на мясцох. Сельсавет павінен у межах сваіх правоў кіраваць калгасамі і наглядаць за іх законнай дзейнасьцю.

Бязумоўна, сельсавет будзе аўтарытэтным для калгасу тады, калі ён злоўжываць сваімі правамі ня будзе, калі сельсавет ня будзе ўмешвацца ва ўнутраныя справы калгасу, калі сельсавет усялякімі мерамі будзе дапамагаць калгасьнікам наладзіць каляктыўную гаспадарку, устанавіць добрыя ўзаемаадносіны з ваколічным насельніцтвам і г. д. Тут шмат залежыць ад кіраўнікоў сельсавету і калгасу, і асабліва ад сыстэмы і мэтадаў працы сельсаветаў.

Мы лічым, што лепшым мэтадам кіраўніцтва калгасамі з боку сельсавету зьяўляецца сыстэматычнае заслухоўваньне на пасяджэньнях пленумаў сельсаветаў дакладаў праўленьняў калгасаў па паасобных пытаньнях і мерапрыемствах, праводзімых у калгасах. Перад дакладам пажадана, каб сельска-гаспадарчая сэкцыя сельсавету з прыцягненьнем батрацка-бядняцкага і серадняцкага актыву абсьледвала дзейнасьць калгасу. Напрыклад, калгас будуе крахмальны завод. Сельска-гаспадарчая сэкцыя выдзяляе спэцыяльную брыгаду для абсьледваньня. Потым на пасяджэньні сельсавету брыгада робіць падра-

бязны садаклад аб падрыхтоўцы ці аб ходзе будаўніцтва заводу. У брыгады па абсьледваньні абавязкова трэба ўключаць жанчын.

Па найбольш важным пытаньням калгаснага будаўніцтва мэтазгодна заслухоўваць даклады калгасу на агульных сходах цэлай вёскі. Таксама на гэтых сходах трэба заслухоўваць справаздачу калгасу наогул. Для большай сувязі сельсавету з калгасамі і для таго, каб кіраўнікі сельсавету не рабілі перагібаў, абавязкова трэба пэрыядычна ставіць квартальныя справаздачы сельскага савету на агульных сходах выбаршчыкаў—калгасьнікаў.

Пры такой узаемнай справаздачнасьці, пры шчыльнай сувязі сельсаветаў з калгасамі, усе карані клясавага ворага і кулацтва будуць хутчэй выяўлены і канчаткова зьліквідаваны на аснове разгортваемае суцэльнае калектывізацыі, якая да канца пяцігодкі бязумоўна будзе праведзена ў жыцьцё па ўсей нашай краіне.

Г. Самусевіч.

**Арганізацыя працы ў калгасах, арганізацыйна-гаспадарчае замацаваньне каляктыўных гаспадарак зьяўляецца адным з рашаючых зьвеньняў калектывізацыі.**

## Сельсаветы за рэалізацыю адозвы ЦК УсеКП(б).

„Усе сілы партыі, усе сілы рабочае клясы на выкананьне прамфінпляну, на забясьпечаньне праграмы трэцяга году пяцігодкі“.

(з адозвы ЦК УсеКП(б).

Адозва ЦК УсеКП(б) ад 3-га верасьня аб ліквідацыі прарываў у выкананьні прамфінпляну за гэты год і сталай падрыхтоўкі да пасьпяховага выпаўненьня прамфінпляну трэцяга году пяцігодкі, сустрэла жывейшы водгук рабочых мас і выклікала вялізарнейшую актыўнасьць усяе рабочае клясы на барацьбу з расхлябанасьцю, разгільдзяйствам і прарывамі на вытворчасьці з адначасовай мабілізацыяй усіх сіл для выкананьня праграмы трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Дзякуючы энтузіазму і актыўнасьці рабочых мас, меўшыя месца прарывы па выкананьні прамфінпляну на некаторых фабрыках і заводах поўнасьцю зьліквідаваны.

Прыклад рабочых з прадпрыемстваў быў падхоплен некаторымі калгасьнікамі, якія сумесна з адзіналічнікамі суседніх паселішч прапрацоўвалі адозву ЦК УсеКП(б). У выніку такое сумеснае работы ў верасьні м-цы ў шмат калгасаў Беларусі ўступілі па 50 з лішкаю новых адзіналічных гаспадарак, а таксама гэтыя калгасы асеньнюю пасеўную кампанію выконвалі замест вызначаных па пляну 12 дзён у 7-9 дзён, азімы клін пашырылі на 89% і зяблевую заворку выканалі на 103% супроць плянавых меркаваньняў.

Там, дзе сельсаветы праявілі ініцыятыву і прапрацоўвалі з калгасьнікамі і адзіналічнікамі—беднякамі і серадняками адозву ЦК УсеКП(б), маецца новы магутны ўздым у справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Пасьпяховае правядзеньне асеньняга севу, выяўленьне на практыцы перад вачыма ўладароў дробных мільлёных сялянскіх гаспадарак, неабвяргаемых пераваг буйнае каляктыўнае вытворчасьці рост даходнасьці калектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак (бядняцка-серадняцкая адзіналічная гаспадарка па некаторых с/с у сярэднім па верасьнёўскаму падліку дала даходу 383 р., а такія-ж калектывізаваныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі далі даходу ў сярэднім 862 руб. на гаспадарку), ствары-

лі спрыяючыя ўмовы для новае хвалі прыліву ў калгасы адзіналічнікаў.

Змаганьне за новы ўздым калгаснага руху зьяўляецца самай вострай барацьбой з кулацтвам, якое на даным этапе прымяняе новыя формы супраціўленьня.

Посьпехі ў змаганьні за новы ўздым калгаснае хвалі залежаць у першую чаргу ад замацаваньня і ўздыму на вышэйшую ступень гаспадаркі кожнага калгасу.

За гэтае зьвяно павінны ўхапіцца ўсе сельсаветы, каб праз яго павесьці ўсіх беднякоў і серадняком да выкананьня задач па ўцягненьні ў калгасы ня менш 50% адзіналічных гаспадарак да канца трэцяга году пяцігодкі.

Усё гэта яшчэ раз ставіць перад сельсаветамі задачу аб безадкладнай перабудове сваёй работы ў тым напрамку, каб перастаць цягнуцца ў хвасьце калгаснага прыліву і ня быць у тыле калектывізацыі, а рашуча павярнуцца тварам да новае калгаснае хвалі, штодзень рыхтуючы новы калгасны прыліў і ўцягваючы ў калгасы новыя тысячы адзіналічных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Дзеля таго, каб мець большыя посьпехі ў выкананьні гэтае задачы, усе сельсаветы павінны зараз-жа прыступіць да рэалізацыі адозвы ЦК УсеКП(б), якую праводзіць у такім парадку.

Давесьці прапрацоўку адозвы ЦК УсеКП(б) у працягу кастрычніка да кожнага калгасу, да кожнага яшчэ некалектывізаванага паселішча свае тэрыторыі. У гэтай рабоце кожнаму сельсавету неабходна цесна зьвязацца з мясцовымі партыйнымі ячэйкамі, а дзе гэтакіх няма, з Райкомам КП(б)Б і пад іх кіраўніцтвам праводзіць прапрацоўку адозвы ЦК УсеКП(б).

Перад прапрацоўкаю апошняе з калгасьнікамі і адзіналічнікамі беднякамі і сераднякамі скласьці канкрэтныя мерапрыемствы для зьліквідаваньня маючыхся ў калгасах недахопаў. Гэтыя мерапрыемствы ўвязаць з высунутымі адозваю ЦК УсеКП(б) задачамі і завастрыць на іх увагу ўсіх калгасьнікаў, беднякоў і серадняком адзіналічнікаў, выклікаючы іх актыўнасьць і накіроўваючы яе на арганізацыю сустрэчнага сельскагаспадарчага пляну.

У гэтым пляне прадугледзіць канкрэтныя паказчыкі скарочаных тэрмінаў па выкананьні: уборкі застаўшагося ўраджаю, заканчэньня асеньняга севу, пашырэньне азімага кліну, поўнага выкананьня плянавых меркаваньняў зяблевае заворкі зямлі пад вясновы клін, кантрактацыі азімых пасеваў, здачы ўсіх лішкаў сельска-гаспадарчых прадуктаў дзяржаве не пазьней першага лістападу, датэрміновую здачу запазычанасьці па ўсіх відах падатку і крэдыту, поўнага выкананьня заданьня па рэалізацыі пазыкі „пяцігодка ў чатыры гады“ і шмат інш.

З мэтай большага ўцягненьня адзіналічнікаў беднякоў і серадняком у калгасы, арганізаваць справаздачы лепшых калгасаў на агульных сходах сялян, з папярэднім наладжваньнем экскурсій у гэтыя калгасы жанчын актывістак з беднаты і серадняком адзіналічнікаў, а таксама арганізаваць ударныя брыгады калгасьнікаў і адзіналічнікаў па ўцягненьні ў калгасы новых членаў або стварэньні новых калгасаў з такім разьлікам, каб да канца трэцяга году пяцігодкі калектывізаваць ня менш 50% адзіналічных бядняцка-серадняцкіх двароў у кожным сельсавеце.

Арганізаваць паміж калгасамі і адзіналічнікамі сацспаборніцтва па выкананьні сустрэчнага сельскагаспадарчага пляну, дапамагаючы ў гэтым адстаючым калгасам і адзіналічным гаспадаркам, а для пераносу вопыту разгортваньня сацспаборніцтва і ўдарніцтва прадпрыемстваў на сельскую гаспадарку ў мэтах большага замацаваньня вытворчае сувязі гораду з вёскаю, арганізаваць сацспаборніцтва паміж калгасамі і адзіналічнікамі з аднага боку і фабрыкамі і заводамі бліжэйшых гарадоў з другога.

Кожнаму сельсавету прадугледзець як па свайму каштарысу, так і арганізаваць адлічэньні ў калгасах і іншых каапэрацыйных органах сродкаў для прэміраваньня калгасу ці паселішча за лепшае выкананьне задач высунутых у адозве ЦК УсеКП(б).

У працягу дзесяцідзёньніка Дню Ураджаю і калектывізацыі арганізаваць пры сельсаветах урачыстыя зьлёты ўдарнікаў і актыўнейшых калгасьнікаў, на якіх паставіць даклад брыгады аб выніках

праверкі работы калгасаў па ўсяму сельсавету з намечанымі шляхамі і мерапрыемствамі па палепшаньні становішча гэтае работы ў далейшым. Там, дзе будзе магчымасьць, у гэтыя брыгады павінны ўваходзіць аграномы і іншыя культурныя сілы сельсавету.

Арганізаваць у кожным калгасе і паселішчы лікпункты для ліквідацыі сярод калгасьнікаў і адзіналічнікаў беднякоў і серадлякоў як агульнай, так і палітычнай няпісьменнасьці.

Для абмену вопытам у правадзімай па гэтаму пытаньню рабоце, кожнаму сельсавету неабходна вылучыць у кожным калгасе і паселішчы асоб, якія-б далі згоду асьвятляць у раённым і цэнтральным друку гэтую работу.

Вось тыя мерапрыемствы, якія ў першую чаргу неабходна правесьці кожнаму с/сав. для рэалізацыі адозвы ЦК УсеКП(б).

Б. М. С.

**Не таптацца на месцы, спадзяючыся на самацёк, а ўпарта змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў, што лепш за ўсе забясьпечвае новы прыліў.**

## Ліквідацыя акруг і масавая работа саветаў.

У сувязі з ліквідацыяй акруг задача нізавых органаў, пралятарскай дыктатуры—сельсаветаў узрастае і становіцца асабліва адказнаю. Перад сельсаветамі стаяць задачы дабіцца крутога пералому ў сваёй рабоце і стаць на чале калгаснага руху, арганізоўваючы беднату і батрацтва і замацоўваючы саюз рабочае клясы з беднатою і серадняцтвам.

Зараз мы больш упіраемся ў праблему масавае работы саветаў. Без яе немагчыма сельсаветам стаць сапраўднымі арганізатарамі і кіраўнікамі сацыялістычнай перабудовы вёскі. Без шырачайшага разгортваньня масавай работы сярод батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас, а таксама сярод жанчын бядьячак і серадлячак немагчыма пасьпяхова прасоўвацца па шляху калектывізацыі. Такія асноўныя задачы, як арганізацыя буйнае высока-вытворчай сацыялістычнай гаспадаркі ў земляробстве і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі могуць быць пасьпяхова вырашаны пры ўмове шырачайшага разгортваньня актыўнасьці і творчых сіл батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас.

Якое-ж становішча з арганізацыйна-масавай работаю саветаў у вёсцы? Бязумоўна, за мінулы час у галіне разгортваньня масавай работы саветаў мы маем пэўныя дасягненьні. Перш за ўсё значна ўзмацнілася работа па самастойнай арганізацыі беднаты і батрацтва. Узрасла колькасьць батрацка-бядняцкіх груп пры выбарчых органах вёскі. Палепшылася практыка скліканьня батрацка-бядняцкіх канфэрэнцый. Групы беднаты ад выпадковых паседжаньняў усё больш і больш пераходзяць да плянава-сыстэматычнай работы, дзякуючы чаму ўзмацніўся арганізаваны батрацка-бядняцкі ўплыў на работу выбарчых органаў вёскі, на ўсё вясковае жыцьцё. Работа з беднатою выхавала моцны актыў з асяродку батракоў і беднякоў. Узрос процант батракоў і беднякоў у саветах і ў праўленьнях органаў каапэрацыі ўсіх сыстэм. Маюць месца і ўзоры добрай работы груп беднаты.

Ня гледзячы на некаторыя посьпехі ў масавай рабоце сельсаветаў, прызнаць іх дастатковымі мы ня можам. „Сацыялістычны пераварот,—казаў Ленін на III зьезде прафсаюзаў у 1919 г.,—можа быць зроблены толькі пры актыўным непасрэдна практычным удзеле ў кіраваньні дзяржаваю дзесяткаў мільёнаў. Мы да гэтага пашлі, але мы да гэтага не дайшлі“.

Бясспрэчна, за мінулы час мы значна прасунуліся ў паказаным Леніным напрамку.

Асноўным недахопам сельсаветаў „зьяўляецца адсутнічаньне неабходнай у сучасных умовах работы па арганізацыі батрацтва і беднаты“ (Молатаў).

Так, напрыклад, па раёнах былых акруг Полацкай на 117 с.-с. груп беднаты прыходзіцца 92; па Менскай на 228 сельсаветаў груп беднаты ўсяго прыходзіцца 86; па Мазырскай маецца 67 груп беднаты на 129 сельсаветаў; па Бабруйскай маецца 116 груп беднаты на 216 сельсаветаў; па Віцебскай на 115 сельсаветаў прыходзіцца 103 групы; па Магілеўскай на 286 сельсаветаў маецца 140 груп беднаты і па астатніх раёнах справа з арганізацыяй груп беднаты абстаіць ня лепш.

У рашэньні ЦК УсеКП(б) ад 24/XII 1929 г. „аб арганізацыі беднаты“ з асаблівай настойлівасьцю падкрэсьлівалася „задача сплачэньня батрацка-бядняцкага ядра ў калгасах, асабліва ў калгасах прасьцейшага тыпу і ў раёнах суцэльнай калектывізацыі, без чаго немагчыма спыніць прашукі кулакоў і іншых варожых элемэнтаў, якія імкнуцца разлажыць і ўзарваць калгасы ізнутры“. Аднак, цэлы шэраг арганізацый ня выканалі гэтай дырэктывы партыі. Аб гэтым сьведчаць вышэйпералічаная колькасьць арганізаваных груп беднаты.

Шмат непаладак маюць сельсаветы і ў рабоце сэкцый. Апошняя значна адстала ад растучай і ўзмацняючайся актыўнасьці асноўных мас сялянства. Актыўнасьць і творчая ініцыятыва гэтых мас недастаткова арганізацыйна замацоўваецца для практычнага ўдзелу ў вырашэньні чарговых задач, стаячых перад партыяй і саветамі. Сельсаветы не запаўняюць масавую работу новым зьместам, зьместам адказваючым шпаркаму калгаснаму руху, у выніку чаго значная колькасьць сэкцый зусім бязьдзейнічае, а калі і вядзе работу, то яна ня носіць плянавага характару, а праводзіцца выпадкова. Большасьць сэкцый сельсаветаў лічыцца толькі на паперы. Справаздачнасьць сэкцый перад масамі паўсямесна далёка недастатковая. Колькасьць вясковых актывістых і асабліва батрацтва і жанчын у сэкцыях нязначны.

Чым тлумачыцца такое становішча масавай работы сельсаветаў і перш за ўсё з арганізацыяй груп беднаты пры выбарчых органах вёскі? Прычын тут шмат. Рашаючымі-ж з іх зьяўляюцца наступныя: недаацэнка палітычнага значэньня разгортваньня работы па арганізацыі груп беднаты, як рашаючай арганізацыйна-палітычнай формы масавай работы сярод батрацка-бядняцкіх мас. Недавучот таго, што без разгортваньня работы па самастойнай арганізацыі батрацтва і беднаты немагчыма пасьпяхова ісьці па шляху калектывізацыі. Гэтая недаацэнка знаходзіць сваё адлюстраваньне ў яўна апартуністычных праявах і дзеяньнях як асобных арганізацый, так і асобных працаўнікоў.

Так, напрыклад, Чарэйская партарганізацыя ня сумела стаць на чале батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас і не дала бальшавіцкага адпору ворагам калгаснага будаўніцтва. У в. Клішчына прыехаў былы вураднік Хрыпач, зьняты з работы на Курскай чыгунцы і вядзе работу па разлажэньню калгасаў.

У в. Худава і Калодніца пад уплывам кулацкай агітацыі бедната і серадняцтва адмовіліся ад вапнаваньня глебы. 2400 пуд. вапны ляжыць нескарыстанаю. Аб гэтым раённыя арганізацыі ведаюць, але даць адпор кулацкай агітацыі ня сумелі, і нават не перакінулі вапну ў іншыя месцы. У 58 калгасах раёну арганізавана толькі 8 груп беднаты.

Лагойскія партарганізацыі работу з беднатою зусім ігнаруюць. Сакратар Лагойскага местачковага савета камсамолец заяўляе: „Наш местачковы савет беспартыйны, а РК да нас партыйца не прымацаваў, мы-ж ствараць групы беднаты ніякога права ня маем. Па Лагойскаму савету, як знаходзячамуся ў цэнтры, раўняюцца і ўсе сельсаветы раёну.

У выніку недаацэнкі работы з беднатою пры вучоце аб'ектаў абкладаньня с.-г. падаткам у Лагойскім раёне не аказалася кулакоў. З 5654 сялянскіх двароў выяўлены толькі 1 кулак. Куды-ж дзеліся кулакі? Працаўнік фінчасткі на гэта дае клясычны адказ: „Кулакі не растуць, як грыбы пасьля дажджу“...

Яшчэ і да гэтага часу мы маем грубейшыя парушэньні арганізацыйных прынцыпаў пабудовы груп беднаты. Групы беднаты замяняюцца батрац-

ка-бядняцкімі сходамі. Затым надзвычайна часта групы беднаты ўтвараюцца не з прадстаўнікоў выбарчых органаў вёскі, а выбіраюцца на агульных сходах грамадзян, пленумах сельсаветаў. У выніку гэтага сацыяльны склад груп беднаты далёка ня вытрыманы, а таму яны з батрацка-бядняцкіх арганізацый на справе ператвараюцца ў серадняцка-бядняцкія.

Аднэй з прычыны слабае работы і арганізацыі груп беднаты зьяўляецца тое, што групы часта ня ведаюць канкрэтнага зьместу сваёй работы.

Слабасьць работы сэкцый пры сельсаветах тлумачыцца тым, што сельсаветы да апошняга часу не зьяўляліся паўнаўласнымі гаспадарамі жыцьця вёскі. Яны не змаглі пагэтаму мабілізаваць масы навокал асноўных пытаньняў перабудовы вёскі. Значна перашкаджалі сэкцыйнай рабоце сельсаветаў таксама і тыя абставіны, што сельсаветы ня мелі сваёй матар'яльнай базы, апіраючыся на якую мажліва-б было разгортваць масавую работу. Побач з гэтым з боку вышэйстаячых выканаўчых камітэтаў ня было дастатковага кіраўніцтва і інструктажу масаваю работаю сельсаветаў. Калі да гэтага дадаць засьмечанасьць шэрагу сельсаветаў клясава варожым элемэнтам, адсутнічаньне ў кіруючых органах мясцовай улады добра падрыхтаваных кадраў, то будзе зразумела, чаму масавая работа сельсаветаў значна адстала ад задач сёньняшняга дню.

Калектывізацыя сельскай гаспадаркі высунула шэраг новых задач. Работа-ж сельсаветаў, так як і работа яго сэкцый, групавалася навокал задач выключна адбудоўчага пэрыяду. У выніку ўтварыўся разрыў паміж новымі задачамі высунутымі калектывізацыяй і работаю сельсаветаў.

Разрыў гэты безадкладна павінен быць ліквідаваны. Ліквідаваць яго мажліва шляхам карэннай перабудовы форм і мэтадаў работы сельсаветаў, зьмены зьместу дзейнасьці сэкцый. Перш за ўсё трэба ўсямерна разгарнуць работу па самастойнай арганізацыі беднаты і батрацтва. Нясур'ёзныя адносіны да гэтай задачы ёсьць ня што іншае, як праяўленьне правага ўхілу на практыцы.

Вось чаму ЦК УсеКП(б) патрабуе вясьці ўпартую барацьбу з усялякімі попытамі замазваньня работы з беднатою. „Толькі чуждыя УсеКП(б) элемэнты могуць ігнараваць гэтую карэнную задачу партыі—задачу самастойнай арганізацыі беднаты і батрацтва“.

Асноўнаю арганізацыйна-палітычнаю формаю масавай работы з беднатою зьяўляюцца батрацка-бядняцкія групы. Гэтыя групы павінны быць утвораны пры ўсіх сельсаветах, каапэратыўных, грамадзка-гаспадарчых арганізацыях і пры прасьцейшых формах калгасаў, у калгасах раёнаў суцэльнай калектывізацыі, пры машынна-трактарных станцыях і г. д.

У склад груп беднаты ўваходзяць толькі батракі і беднякі, зьяўляючыяся членамі выбарчых органаў. Арганізацыя груп і кіраўніцтва імі ажыцьцяўляецца праз партыйныя органы.

Тыя абставіны, што права арганізацыі груп беднаты і кіраваньне іх работаю прыналежыць толькі парт'арганізацыям, бязумоўна не азначае, што роля саветаў у гэтай справе зьяўляецца малаважнаю. І калі да гэтага часу саветы звычайна адмахваліся ад работы і зьнімалі з сябе ўсялякую адказнасьць за гэтую работу, то цяпер гэтаму павінен быць пакладзен канец. У прынятай ЦВК БССР пастанове аб рабоце саветаў і выканкомаў па арганізацыі груп беднаты і батрацтва мясцовым саветам у самы кароткі тэрмін прапанавана скончыць арганізацыю груп беднаты пры ўсіх сельсаветах.

Такім чынам, на саветы ўскладзены адказныя задачы па рабоце з батрацка-бядняцкімі масамі. Задача мясцовых парт'ячэяк і сельсаветаў заключаецца ў тым, каб сумесна дабіцца лепшага пералому ў рабоце сярод беднаты і батрацтва.

Асноўнае назначэньне батрацка-бядняцкіх груп—быць дапаможнымі органамі ў справе ажыцьцяўленьня палітыкі партыі і ўлады на вёсцы. Праз групы беднаты трэба ажыцьцяўляць дасканалы нагляд і кантроль за работаю ўсіх выбарчых органаў вёскі. Праз іх аказваць пралятарскі ўплыў на ўсю астатнюю масу працоўнага сялянства. Праз групы беднаты праводзіць работу па вылучэньню на кіруючыя пасады савецкіх, каапэрацыйных і іншых арганізацый.

Сельсавет, зьяўляючыся нізавым органам улады, павінен ажыцьцяўляць палітыку партыі і савецкай улады на вёсцы. Праз яго павінны праходзіць усе мерапрыемствы, накіраваныя на сацыялістычную рэарганізацыю сельскай гаспадаркі. Таму зразумела, што на групы беднаты пры сельсаветах ускладваюцца самыя адказьнейшыя задачы. Групы беднаты пры сельсаветах павінны сваю работу паставіць так, каб усе важнейшыя пытаньні, падлягаючыя вырашэньню сельсавета, папярэдня абмяркоўваліся на батрацка-бядняцкіх групах. Вынасімыя групаю беднаты пастановы сельсавет павінен безадкладна афармляць і праводзіць у жыцьцё. У сваю чаргу групы беднаты павінны ўсямерна садзейнічаць сельсаветам у правядзеньні мерапрыемстваў па масавай калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Праводзімая сельсаветамі работа па пераводу прасьцейшых форм калгаснага аб'яднаньня ў сельскагаспадарчыя арцелі, па ўзмацненьню грамадзкіх фондаў і замацаваньню вытворча-тэхнічнай базы калгасаў, па нагляду за правільным скарыстаньнем канфіскуемага ў кулакоў інвэнтару, а таксама і ўсяе маемасьці калгасаў павінна падтрымлівацца групаю беднаты. У аднолькавай ступені групы беднаты асаблівую сваю ўвагу павінны зьвяртаць на такія пытаньні, як сваечасовае выкананьне сваіх абавязацельстваў перад дзяржаваю, рашучая чыстка калгасаў ад кулацкіх элемэнтаў, запаўненьне калгасаў сацыялістычным зьместам, пашырэньне пасеўнай плошчы, уздым ураджайнасьці і інш.

Неабходна арганізаваць батрацка-бядняцкія групы ў ва ўсіх прасьцейшых каапэратыўных аб'яднаньнях.

„Ці ёсьць элемэнты клясавай барацьбы ў калгасах“? Пытаўся т. Сталін і адказаў: „Да, ёсьць. Ня можа ня быць элемэнтаў клясавай барацьбы ў калгасах, калі там захоўваюцца яшчэ перажыткі індывідуальнай або нават кулацкай псіхолёгіі, калі там маецца яшчэ некаторае неравенства. Ці мажліва сказаць, што клясавая барацьба ў калгасах роўназначна клясавай барацьбе ўне калгасаў? Не, нельга. У тым то і заключаецца памылка нашых „левых“ фразёраў, што яны ня бачаць гэтае розьніцы. Што азначае клясавая барацьба ўне калгасаў, да ўтварэньня калгасаў? Гэта значыць—барацьба з кулаком, уладаючым прыладамі і сродкамі вытворчасьці і закабаляючым беднату пры дапамозе гэтых прыладаў і сродкаў вытворчасьці. Гэтая барацьба прадстаўляе барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць. А што значыць клясавая барацьба на базе калгасаў? Гэта значыць, перш за ўсё, што кулак разьбіт і пазбаўлен прыладаў і сродкаў вытворчасьці. Гэта значыць, па-другое, што беднякі і серадні́кі аб'яднаны ў калгасы на базе аграмаджаньня асноўных прыладаў і сродкаў вытворчасьці. Гэта значыць, апошняе, што справа ідзе аб барацьбе паміж членамі калгасаў, з якіх адны не аслабаніліся яшчэ ад індывідуалістычных і кулацкіх перажыткаў і імкнуцца скарыстаць некаторае неравенства ў калгасах у сваю карысьць, а іншыя жадаюць ізгнаць з калгасаў гэтыя перажыткі і гэтае неравенства“. (Сталін, „Да пытаньняў аграрнай палітыкі ў СССР“).

У задачу груп беднаты пры калгасах уваходзіць, з аднаго боку, абмяркаваньне і вырашэньне гаспадарча-вытворчых пытаньняў калгаснага жыцьця (вытворчыя пляны, арганізацыя працы і формы яе аплаты і г. д.), з другога боку, забесьпячэньня за батракамі і беднякамі-калгасьнікамі свайго пралятарскага ўплыву на ўсю астатнюю масу калгасьнікаў.

Арганізуемыя пры разнастойных відах каапэрацыі (спажывецкая, крэдытная) і камітэтах узаемадапамогі групы беднаты будуюць і вядуць сваю работу ў залежнасьці ад характару работы той арганізацыі, пры якой група ўтворана.

Разам з усім пералічаным неабходна шырэй разгарнуць практыку скліканьня аб'яднаных нарад батрацка-бядняцкіх груп той ці іншай вёскі. На гэтых нарадах трэба ставіць пытаньні правядзеньня пасеўных кампаній, хлебазагатовак, скарыстаньня бядняцкага фонду, перавыбараў саветаў і органаў праўленьняў

каапэрацыі і г. д. У мэтах абагульваньня вопыту работы групы беднаты для усебаковага палепшаньня справы абароны гаспадарчых і культурных інтарэсаў батрацка-бядняцкіх мас неабходна часьцей склікаць канфэрэнцыі батрацтва і беднаты. Узмацненьне работы па самастойнай арганізацыі беднаты і батрацтва патрабуе максымальнай гібкасьці ў выбары форм і мэтадаў работы з беднатою. Гэтыя формы і мэтады павінны знаходзіцца ў адпаведнасьці з асаблівасьцямі работы ў асобных раёнах і арганізацыях.

Адной з форм разгортваньня масавай работы сярод асноўных мас сялянства наогул зьяўляюцца сэкцыі сельсаветаў. Сэкцыі зьяўляюцца адной з рашаючых форм уцягненьня працоўных мас у кіраўніцтва дзяржаваю.

Пры кожным сельсавеце павінны быць арганізаваны: а) сельска-гаспадарчая вытворчая нарада; б) культурна-сацыяльная і дабрабыту; в) фінансава-бюджэтная і садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчаднай справе; г) сэкцыя палепшаньня працы і быту жанчын і д) рабоча-сялянскай інспэкцыі (апошняя арганізуецца па пастанове райвыканкому).

Арганізацыя і работа с.-г. вытворчых нарад будуецца на падставе „Палажэньня“, зацьверджанага ЦВК і СНК БССР ад 21/IV-1930 г.

У нашых умовах усякая работа прасякнута плянавым началам. У рабоце вытворчых нарад плянавае начала павінна выражацца ў складаньні дэталёвага пляну. Плян у рабоце с.-г. вытворчых нарад дазваляе папярэдня ўлічыць, што ў першую чаргу трэба зрабіць, якія пытаньні павінны стаяць у цэнтру ўвагі. Ён дае мажлівасьць правільна і мэтазгодна разьмяркаваць сілы вытворчае нарады. Дзякуючы пляну зараней падрыхтоўваюцца ўмовы, пры наяўнасьці якіх прызначаецца выкананьне тэй ці іншай справы. У адпаведнасьці з гэтым плян дазваляе сканцэнтраваць увагу на асноўных рашаючых пытаньнях. Таму складаньне падрабязнага пляну работы зьяўляецца першачарговаю задачаю вытворчых нарад.

Канкрэтны плян работ вытворчых нарад распрацоўваецца прыстасавальна да сацыяльна-эканамічных умоў таго ці іншага раёну і ў адпаведнасьці з плянам работ сельскага савету, пры якім састаіць гэтая вытворчая нарада, а таксама ў адпаведнасьці пяцігадовага і гадовага пляну райвыканкому. Як плян вытворчых нарад, так і распрацаваныя імі практычныя мерапрыемствы зацьвярджаюцца сельскім саветам.

Для выкананьня ўскладзеных на вытворчыя нарады задач, яны маюць права праводзіць абсьледваньні тых ці іншых арганізацый, знаходзячыхся на тэрыторыі сельсавета. У гэтых мэтах вытворчая нарада, або яе бюро, у кожным паасобным выпадку, з сваіх членаў вылучае спэцыяльныя камісіі. Асобныя-ж члены вытворчых нарад могуць быць прымацаваны да асобных арганізацый і прадпрыемстваў для сталага нагляду за іх дзейнасьцю.

Вытворчыя нарады ў сувязі з гэтым павінны аказваць поўнае садзейнічаньне разьвіцьцю саўгаснага і калгаснага будаўніцтва праз якое яны павінны ўнядраць у тоўшчу сялянскіх мас каляктыўныя формы вядзеньня сельскае гаспадаркі.

Сельска-гаспадарчыя вытворчыя нарады, змагаючыся з перагібамі і скрыўленьнямі партлініі ў калгасным будаўніцтве на падставе пастановы ЦК ад 15/III-1930 г., артыкулу т. Сталіна „Адказ таварышом калгасьнікам“ і прыкладнага статуту с.-г. арцелі, павінны сканцэнтраваць сваю галоўную ўвагу на якасным замацаваньні калгаснага будаўніцтва. Гэта значыць,—яны павінны дабіцца пашырэньня вытворчасьці ў калгасах, правільнай іх арганізацыі, пашырэньне пасеўных плошчаў, палепшаньня апрацоўкі зямлі, рацыянальнага скарыстаньня жывога і мёртвага інвэнтару, падвышэньня ўраджайнасьці і разьвіцьця жывёлагадоўлі. Яны павінны распрацоўваць практычныя мерапрыемствы, якія-б змаглі забясьпечыць павялічэньне вытворчасьці працы, уздыму працоўнае дысцыпліны сярод калгасьнікаў, зьнішчыць прагулы, нядбайныя адносіны да аграмаджанае маемасьці, рвацкія настроі сярод часткі калгасьнікаў і г. д. і г. д.

У некалектывізаваных раёнах вытворчыя нарады клапаціцца аб пашырэньні пасеўных плошчаў і павялічэньні ўраджайнасьці, аб стварэньні і пашырэньні насенных фондаў, зернаачышчальных, пракатных і іншых пунктаў, арганізоўваць супрягі, садзейнічаць правядзеньню кантрактацыі, распрацоўваць і праводзіць у жыцьцё прасьцейшыя агракультурныя і жывёлаводчаскія мерапрыемствы і інш., накіроўваючы разам з гэтым усю ўвагу на правядзеньне растлумачальнае работы па калгаснаму будаўніцтву і арганізацыі новых калгасаў з адзіналічных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

Калектывізацыя сельскагаспадарчай вытворчасьці патрабуе рашучага культурнага і бытавога абслугоўваньня перайшоўшых і пераходзячага ў калгасы насельніцтва.

Калгасны рух колькасна і якасна расьце. Тэмпы-ж культурнага абслугоўваньня калгаснага насельніцтва значна адстаюць.

Зусім зразумела, што ў такім становішчы справа з культурным абслугоўваньнем калектывізуючага насельніцтва далей заставацца ня можа. Нельга мысьліць калгаснае будаўніцтва ўне ўзмоцненага ўздыму культурнасьці калгаснага насельніцтва. Нельга палепшыць якасьць калгаснага будаўніцтва пры наяўнасьці значнай колькасьці няпісьменных калгасьнікаў. Нам патрэбен вядомы культмінімум, столькі-ж абавязковы для кожнага члена калгасу, саўгасу, для кожнага працоўнага савецкай краіны, як і агрмінімум.

Сельсаветы, ня якія ўскладзена кіраўніцтва работаю розных культурна-бытавых і мэдыка-санітарных устаноў, павінны дабіцца колькаснага павялічэньня культурна-сацыяльных сэкцый і якаснага палепшаньня іх работы.

Культурна-сацыяльныя і дабрабыту сэкцыі павінны ўзмацніць дзейнасьць арганізацый па ліквідацыі няпісьменнасьці. Праз гэтыя сэкцыі сельсаветы павінны дабіцца поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці як сярод калгасьнікаў, так і сярод яшчэ некалектывізаванага насельніцтва. Сэкцыям культурна-сацыяльным і дабрабыту патрэбна мабілізаваць як само насельніцтва, так і сродкі яго для пашырэньня сеткі бібліатэк, хат-чытален, разнастойных курсаў і гурткоў, школ сялянскай моладзі і г. д. Акрамя гэтага, сэкцыям неабходна дабіцца пагалоўнага ахопу школьнаю сеткаю дзяцей і арганізаваць для іх дашкольныя ўстановы (ясьлі, дзіцячыя дамы, пляцоўкі). Самы характар работы як школ, так і дзіцячых дамоў зрабіць такім, каб забясьпечвалася працоўнае выхаваньне, калектывізм ў рабоце і ў жыцьці. Для дасягненьня гэтага сэкцыям неабходна ўсямерна разгортваць пры школах вопытна-паказальныя зямельныя вучасткі і інш.

Распрацоўваючы свае мерапрыемствы па культурнаму абслугоўваньню насельніцтва і праводзячы іх ў жыцьцё праз сельсаветы, сэкцыі перш за ўсё павінны зьвярнуць сваю ўвагу на бяспрытульных дзяцей, дзяцей беднякоў і батрацтва. Гэтых дзяцей у першую чаргу неабходна ахапіць школамі і дашкольным выхаваньнем. Для іх неабходна пры школах арганізаваць спэцыяльныя інтэрнаты, а там, дзе зрабіць гэта не прадстаўляецца магчымым арганізаваць падвозы дзяцей штодзённа да школы, снабжэньне абуткам, вопраткаю, харчамі і г. д.

У галіне мэдыка-санітарнага абслугоўваньня насельніцтва сэкцыі культурна-сацыяльныя і дабрабыту павінны прымаць меры да адчыненьня новых і адпаведнаму ўтрыманьню старых больніц, амбуляторый, фэльчарскіх пунктаў, аптэк і г. д.; садзейнічаць правядзеньню ў жыцьцё пад кіраўніцтвам мэдпэрсаналу мерапрыемстваў па барацьбе з эпідэміямі і заразьлівымі хваробамі, знахарствам і ўсімі забабонамі, арганізаваць санітарныя куткі і паказальныя санітарныя суды і дыспуты, правядзеньне растлумачальных кампаній аб шкодзе алкаголю і стварыць арганізацыі па барацьбе з алкагалізмам.

Вясковы дабрабыт мае надзвычайна шмат недахопаў. Ён адлюстроўвае раздроблены характар і спосаб сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Адпаведна гэтай вытворчасьці прыстасаваўся і дабрабыт. Замена дробнай індывідуальнай вытворчасьці вытворчасьцю буйнаю, калектыўнаю востра ставіць праблему аб прыстасаваньні вясковага дабрабыту да новай вытворчасьці, узьнікаючай на глебе калектывізацыі.

Для калектыўнага вядзеньня сельскае гаспадаркі патрэбны спэцыяльныя вялікія будынкі, дзе мажліва-б было захоўваць сельска-гаспадарчы інвэнтар, утрымліваць у адпаведным парадку аграмаджаную рабочую і прадукцыйную жывёлу. Адначасова з гэтым неабходны памяшканьні для хаваньня вырабляемых гэтымі калгасамі сельска-гаспадарчых прадуктаў і прадпрыемствы па пераапрацоўцы гэтых прадуктаў, рамонтныя майстэрні і г. д.

Задача культурна-сацыяльных і дабрабыту сэкцый заключаецца як раз у тым, каб аказваць усялякае садзейнічаньне сельсавету ў справе мабілізацыі асноўных мас сялянства для вырашэньня пытаньняў зьвязаных з палепшаньнем дабрабыту калектывізуючайся вёскі.

У круг дзейнасьці сацыяльна-культурнай і дабрабыту сэкцыі ўваходзіць нагляд за ўтрыманьнем у парадку і чыстаце базарных плошчаў і вуліц, студняў, вадапояў жывёлы, пастаялых двароў, гандлёвых памяшканьняў. Поруч з гэтым сэкцыя павінна прымаць меры да павялічэньня зялёных насаджэньняў на вуліцах паселішч і іншых мейсцах грамадзкага карыстаньня. У галіне барацьбы з чырвоным „пеўнем“ сэкцыя садзейнічае арганізацыі дабраахвотных пажарных дружын і обчэств, адшуквае сродкі для забясьпечаньня іх пажарным інвэнтаром, унядрае ў тоўшчу сялянскіх мас супроць пажарныя правілы.

У справе разьвіцьця прамысловых і іншых прадпрыемстваў вытворчыя нарады могуць і павінны адыграць вялікую ролю. Яны павінны дабіцца разьвіцьця цагельных і чарапічных заводаў, млыноў, рамонтных майстэрняў, прадпрыемстваў па пераапрацоўцы прадуктаў сельскае гаспадаркі, грамадзкіх лазьняў, пральняў але самае галоўнае мейсца ў іх дзейнасьці павінна займаць электрофікацыя вясковых мясцовасьцяў. У ва ўсёй гэтай рабоце патрэбна выклікаць ініцыятыву ўсіх працоўных мас.

Пытаньні, якія датычацца матар'яльнай базы сельсаветаў, прапрацоўваюць фінансава-бюджэтная і садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчаднай справе сэкцыі.

Роля і значэньне гэтых сэкцый цяпер асабліва павінны узрасьці. Гэта абумоўлена тым, што цяпер сельсаветам прадастаўлена права ўтвараць самастойныя бюджэты. Правільна пабудаваць бюджэт сельскага савету мажліва толькі пры актыўным удзеле ў гэтай справе саміх працоўных мас. Асноўнаю задачаю фінансава-бюджэтных і садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчаднай справе сэкцый пры сельсаветах зьяўляецца распрацоўка мерапрыемстваў і абмяркаваньне пытаньняў, зьвязаных з складаньнем і выкананьнем сельскага бюджэту. Бюджэт сельсавета павінен абслугоўваць адміністрацыйныя, гаспадарча-грамадзкія і культурныя патрэбы мясцовага значэньньня. У бюджэты сельсаветаў павінны ўключацца сродкі адпускаемыя на ўтрыманьне саміх сельсаветаў, мясцовых установ народнае асьветы і аховы здароўя, на пэнсыянірваньне, дарожную справу, сувязь, дабрабыт заселённых пунктаў і г. д. Ад гэтага, у якой меры будзе разгорнута работа фінансава-бюджэтных і садзейнічаньня дзяржаўнаму крэдыту і ашчаднай справе сэкцый, залежыць посьпех ажыцьцяўленьня мерапрыемстваў, вызначаных іншымі сэкцыямі сельсавета (культурна-сацыяльнай і дабрабыту, палепшаньня працы і быту жанчын і вытворчае нарады).

Усё пералічанае высоўвае новае пытаньне аб падбору кадраў для нізавых зьвеньняў пралятарскае дыктатуры.

Часткова праведзеныя перавыбары сельсаветаў г. г. нямала выявілі выпадкаў, калі ў складзе некаторых сельсаветаў аказаліся кулакі або іх слугі. Самі формы і мэтады работы большасьці сельскіх саветаў не адказваюць новым задачам. Ня дзіва, што сельсаветы часта перакручваюць палітыку партыі і савецкай улады. Яны недастаткова чотка праводзяць мерапрыемствы па ліквідацыі кулацтва як клясы, распаўсюджваючы ў шэрагу мейсц гэтыя меры на серадняка.

Цяпер, як ніколі, неабходна завастрыць пытаньне аб тым, як і якім чынам умацаваць сельсаветы, зрабіць іх баяздольнымі органамі, якія-б забясьпечылі пась-

пяховае правядзеньне калектывізацыі, арганізацыі батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас навокал суцэльнае калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Рашаючым мэтадам барацьбы за баяздольны сельсавет зьяўляецца арганізацыя масавага кантролю. Найбольш спрабаванымі арганізацыйнымі формамі, палягчаючымі ўцягненьне працоўных мас у работу па палепшаньню дзяржаўнага апарату, зьяўляюцца сэкцыі рабоча-сялянскай інспэкцыі пры саветах.

Вопыт масавай работы паказаў, што гэтыя сэкцыі ў вёсцы яшчэ не атрымалі свайго разьвіцьця. Між іншым яшчэ XVI партконфэрэнцыя, вызначаючы бліжэйшыя задачы барацьбы з бюрократызмам і г. д.. прапанавала мясцовым саветам „утварыць пры усіх гарадзкіх саветах і пры ўсіх сельсаветах вялікіх сёл сэкцыі РСІ“.

Асноўнаю задачаю сэкцый РСІ зьяўляецца барацьба з бюракратызмам, няўважлівым, бяздушна-прэнебражыцельнымі адносінамі да справы і да насельніцтва, безгаспадарчасьцю работнікаў мясцовых устаноў і прадпрыемстваў. Вядучы гэтую барацьбу, сэкцыі РСІ павінны ўсямерна імкнуцца да таго, каб формы і мэтады работы даннае ўстановы альбо прадпрыемства прывесьці ў адпаведнасьць з сацыялістычнай рэканструкцыяй сельскае гаспадаркі. Аджыўшыя, акасьцянеўшыя формы і мэтады работы трэба зьнішчыць, замяніць іх новымі.

У рабоце нашых вясковых арганізацый яшчэ шмат паралялізму, што зразумела, ня можа не адбівацца на якасьці работы. Каб гэта зьнішчыць, сэкцыі РСІ плян сваёй работы абавязкова павінны ўзгадняць з плянамі работы астатніх сэкцый сельсавета.

Жанчыны-сялянкі значна адсталі ў сваім культурным разьвіцьці. Над імі яшчэ моцна цягацеюць уласьніцкія тэндэнцыі і рэлігійныя забабоны. Гэтыя забабоны перашкаджаюць працэсу разьвіцьця новай калектыўнай вытворчасьці ў вёсцы, працэсу новага быту і г. д.

Вызначыўшыйся вясновы адліў серадняцтва з калгасаў пад уплывам грубейшых скажэньняў лініі партыі ў калгасным будаўніцтве ваочыю паказаў, што немалую ролю ў гэтай справе адыгрываюць жанчыны-сялянкі.

Кулак умела скарыстоўвае гэта для барацьбы з палітыкаю партыі, „Шматлікія факты“, пісала „Правда“ у перадавой ад 28 сакавіка 1930 г. „паказваюць на скарыстаньне кулацтвам жаночай адсталасьці і неарганізаванасьці, галоўным чынам, праз сваіх жонак і дачок. Наша няўмеласьць весьці работу сярод жанчын моцна дапамагае кулаку“.

Саветы ў вёсцы недастаткова вядуць масавую работу сярод жанчын-сялянак. Жанчыны-сялянкі недастаткова ўцягваюцца ў непасрэдную работу сельсаветаў.

Сельсаветы сумесна з партыйнымі арганізацыямі павінны разгарнуць работу сярод батрачак і бядначак. Нячувалым адносінам да гэтага важнейшага вучастку работы трэба пакласьці канец. Трэба дабіцца паўнейшага адрыву серадначак ад кулачак і цясьнейшага замацаваньня блёку паміж бядначкамі і серадначкамі. Ад таго, наколькі саветы разгорнуць работу па арганізацыі батрачак і бядначак, будзе ў значнай ступені залежыць пасьпяховы рух уперад па шляху калектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Пры гэтым трэба памятаць словы т. Леніна, што „уцягнуць у палітыку масы нельга без таго, каб не ўцягнуць у палітыку жанчыны“.

Паміма дэлегацкіх жаночых сходаў, найбольш устойлівымі формамі масавай работы сярод сялянак зьяўляюцца сэкцыі і асабліва сэкцыя палепшаньня працы і быту жанчын, праз якую і трэба разгарнуць работу сярод батрачак, бядначак і серадначак.

Асноўнаю задачаю ў рабоце сэкцыі палепшаньня працы і быту жанчын павінна стаць прапрацоўка і правядзеньне ў жыцьцё праз саветы, дзяржаўныя і грамадзкія арганізацыі практычных мерапрыемстваў, накіраваных на перабудову быту працоўных жанчын, на ўздым іх культурнага ўзроўню, на аказаньне ім прававой і эканамічнай дапамогі. Акрамя гэтага, сэкцыя павінна дабівацца большага ўцягненьня жанчын, у першую чаргу батрачак і бядначак, у практычную работу саветаў, вырашчваючы

з іх актыў для вылучэньня на кіруючую савецкую, каапэрацыйную і іншыя работы.

Для вырашэньня сучасных задач, гэтыя сэкцыі распрацоўваюць мерапрыемствы, накіраваныя на арганізацыю дзіцячых ясьляў, садоў і інш. культурнабытавых устаноў. Акрамя гэтага, сэкцыі павінны аказваць усямернае садзейнічаньне органам аховы здароўя і народнае асьветы. У першым выпадку—дабівацца пашырэньня сеткі мэдычных устаноў; распаўсюджваць санітарна-гігіенічныя веды сярод працоўнага насельніцтва; арганізоўваць насельніцтва на барацьбу з забабонамі, падпольным урачаваньнем, п'янствам, сацыяльнымі хваробамі і г. д. У другім выпадку—распрацоўваць і праводзіць ў жыцьцё спэцыяльныя мерапрыемствы па ўцягненьню жанчын і дзяўчат у школы першай ступені, школы сялянскай моладзі і іншыя сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы як сярэдняга, так і вышэйшага тыпу.

Асабліва вялікая роля сэкцыі палепшаньня працы і быту жанчын у той частцы дзейнасьці нашых арганізацый, якая ставіць сваёю мэтаю палепшаньне ўмоў жыцьця жанчын-сялянак і дзяцей. Сэкцыя павінна прымаць самы актыўны ўдзел у распрацоўцы плянаў работ органаў аховы здароўя і народнае асьветы, саўгасаў і калгасаў, прафсаюзных і каапэрацыйных арганізацый. Асноўная задача сэкцый тут заключаецца ў тым, каб дабіцца ўнясеньня ў пляны работ пералічаных вышэй арганізацый адпаведных пунктаў, правядзеньне якіх забясьпечыць палепшаньне быту жанчынсялянак. На абавязках сэкцый ляжыць арганізацыя юрыдычнае дапамогі жанчынам-сялянкам, папулярызацыя асноўных законаў аб іх правох і правядзеньне ў жыцьцё практычных мерапрыемстваў па барацьбе з перажыткамі старога быту, парушэньнямі правоў і інтарэсаў жанчын.

Уся работа сэкцыі палепшаньня працы і быту жанчын павінна праводзіцца пад пунктам погляду ўзмоцненага правядзеньня калектывізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці. Толькі пераход да аграмаджанае каляктыўнае працы аслабаніць жанчыну-сялянку ад хатняе гаспадаркі.

У масавай рабоце сельсаветаў трэба разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва і самакрытыку. Самакрытыка і сац. спаборніцтва забясьпечаць разгортваньне масавае работы ў вёсцы і прыцягненьне да яе асноўных мас сялянства. „Для нас важна,—пісаў Ленін,—прыцягненьне да кіраваньня дзяржаваю пагалоўна ўсіх працоўных. Гэта гіганцкі цяжкая задача. Сацыялізм ня можа ўвесьці партыйная меншасьць. Яго могуць увесьці толькі дзесяткі мільёнаў, калі яны навучацца ўсё рабіць самі". Адсюль задача саветаў заключаецца ў тым, каб уцягнуць батрацка-бядняцкія і серадняцкія масы, а таксама жанчын-сялянак у непасрэдную работу па сацыялістычнаму будаўніцтву праз групы беднаты, вытворчыя сельскагаспадарчыя нарады, сэкцыі, дэлегацкія жаночыя сходы, канфэрэнцыі і інш. Трэба толькі карэнным чынам перабудаваць мэтады і зьмест масавай работы, накіроўваючы яе на разьвіцьцё калгаснага будаўніцтва.

Ліквідацыя акруг павінна зьявіцца асноўным штуршком у палепшаньні і наладжваньні ўсяе масавае работы сельскіх саветаў, бо мы змаглі цяпер умацаваць нашы раёны больш здольнымі і кваліфікаванымі працаўнікамі, чаго не маглі зрабіць да ліквідацыі акруг.

Арганізацыйна-Інструктарскі аддзел ЦВК БССР павінен быць умацаваны добра палітычна падрыхтаванымі інструктарамі, *каб апошнія змаглі на мясцох ня толькі інструктаваць дзейнасьць саветаў, а і дапамагаць ў наладжваньні практычнае работы саветаў з абавязковым перанясеньнем больш удалых форм і мэтадаў работы таго ці іншага савету* альбо сэкцыі савета і на астатнія саветы і сэкцыі.

**С. Лодысеў.**

# Сельсаветы пасьля ліквідацыі акруг.

„Адна з найвялікшых пераваг палітычнае стратэгіі нашай партыі складаецца з таго, што партыя ўмее выбіраць у кожны дадзены момант асноўнае зьвяно руху, ухапіўшыся за якое яна потым цягне ўвесь ланцуг да аднэй мэты для таго, каб дамагчыся вырашэньня задачы“.

(З артыкулу т. Сталіна „Галавакружэньне ад посьпехаў“).

Ліквідацыя акруг і стаўка на раён, як асноўнае зьвяно сацыялістычнага будаўніцтва зьяўляецца тым моцным ланцугом, які павінен пацягнуць увесь дзяржаўны, партыйны і грамадзкі апарат да рашучага набліжэньня да вёскі, да калгасаў, да працоўных мас.

Ліквідацыя акруг значна пашырае ролю сельсавета, як першапачатковай ячэйкі савецкае ўлады на вёсцы, асабліва ў сучасны момант, калі наша партыя паставіла баявую задачу ў трэці год пяцігодкі забясьпечыць пераход ня менш паловы сялянскіх гаспадарак на сацыялістычны шлях, на шлях калектывізацыі.

Для сельскае гаспадаркі нашае краіны ў сучасны момант наступіла новая пара, якая заключаецца ў карэннай перабудове яе на сацыялістычных падставах. Адтрымліваемыя весткі з раёнаў сьведчаць, што ўсьлед за больш сьвядомымі бядняцкімі масамі ў справу арганізацыі калгасаў сталі імкнуцца мільённыя масы сераднякоў. Асноўная маса серадняцкага сялянства рашуча павярнулася тварам да калгасу. На сёньняшні дзень па ўсей нашай краіне няма ні воднае вёскі і нават ні воднае хаты, дзе не абгаварвалася-б пытаньне калгаснага будаўніцтва.

Кожная сацыяльная праслойка вёскі па рознаму тлумачыць справу калектывізацыі, амаль па ўсім паселішчам кулацкі і антысавецкі элемэнт выкарыстоўвае несьвядомасьць бядняцка-серадняцкіх мас у сваіх варожых мэтах і імкнецца ня толькі ўзброіць іх супроць калектывізацыі, але пайсьці і шмат далей гэтага: яны нацкоўваюць адзінаа́лічніка на калгас, правацыруючы адначасова з гэтым калгасьнікаў на сварку з адзінаа́лічнікамі, каб такім чынам узяць адзінаа́лічніка пад свае кіраўніцтва і павесьці яго ўжо адкрыта ў наступ супроць калгасу.

Гэтаму ўплыву больш паддаецца жаночая частка.

Адсюль сельскія і местачковыя саветы павінны паставіць сваю работу так, каб усе гэтыя настроі своечасова выяўляць і імкненьні бядняцка-серадняцкіх мас да калектывізацыі накіроўваць па правільнаму шляху, даючы кожны раз рашучы і бязьлітасны адпор усім вылазкам варожага элемэнту.

Сельсаветы павінны стаць застрэльшчыкамі і сапраўднымі кіраўнікамі калгаснага руху на сваёй тэрыторыі, асабліва ў сучасны момант, калі наша партыя ставіць пытаньне аб рашучым набліжэньні савецкага апарату да калгасаў, да працоўных мас.

Паводле гэтага ўсе сельсаветы павінны карэнным чынам перабудаваць сваю работу, накіроўваючы яе ў бок сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і ўцягненьне ў яе праз камісіі і вытворчыя нарады ўсіх калгасьнікаў і актыўнейшых батракоў, беднякоў, серадняков адзінаа́лічнікаў з тым, каб быць ня толькі кіраўнікамі гэтае справы, але і сапраўднымі будаўнікамі новага жыцьця на сваёй тэрыторыі.

Адкладваць гэтую справу на больш вольны час немагчыма, бо гэта затрымлівае канчатковую ліквідацыю вясновых прарываў у галіне калектывізацыі і гэтым самым працягне тэрмін нашым цяжкасьцям.

Работа саветаў у справе калектывізацыі будзе пасьпяховаю толькі тады, калі яна будзе апірацца на сотні і тысячы прапаноў рабочых, калгасьнікаў, батрацтва, беднаты і серадняцтва.

Толькі ў такім выпадку мажліва будзе зьліквідаваць у бліжэйшы час той разрыў паміж задачамі сацыялістычнай перабудовы сельскае гаспадаркі і становішчам работы сельсаветаў, які мы мелі вясною г. году.

Яшчэ ў студзені м-цы гэтага году Прэзыдыум ЦВК СССР у сваей пастанове адзначыў: „сельсавет, які не перабудуе сваей працы ў адпаведнасьці з новымі задачамі і, у сувязі з масаваю ка-

лектывізацыяю, не стане на чале калгаснага руху, будзе на справе кулацкім сельсаветам, ня здольным праводзіць палітыку сацыялістычнага будаўніцтва“.

Праведзеныя зімою частковыя перавыборы саветаў значна аднавілі сацыяльны склад іх у бок большага забесьпячэньня рабочымі, беднатою і калгасьнікамі. Па Менскай акрузе, дзе праводзіліся перавыборы ўсіх саветаў, у склад іх абрана рабочых 12,7 проц. павялічэньне супроць мінулага году на 7,3 проц., калгасьнікаў 21,6 проц., беднякоў, аслабанёных ад падаткаў 39,33 проц., павялічэньне супроць мінулага году на 6,29 проц. Такое становішча мы маем і па другім б. акругам.

Такім чынам гэтыя лічбы гавораць, што сельскія і местачковыя саветы забясьпечаны ў большасьці лепшым сацыяльным складам для правядзеньня палітыкі сацыялістычнага будаўніцтва. Аднак, вынікі абсьледваньня працы некаторых саветаў гавораць, што на справе работа іх ў гэтым напрамку патрабуе яшчэ значнага палепшаньня.

Правадзімая ў сучасны момант, у сувязі з ліквідацыяй акруг, перабудова работы раённага апарату павінна ў першую чаргу закрануць і работу сельсаветаў.

Што жа канкрэтна для гэтага вызначыў ЦВК БССР?

Па першае—выдадзена новае палажэньне пра сельскія саветы, у якім з упаўне дастатковаю яскравасьцю і паўнатою вызначаны абавязкі, правы і функцыі сельсавета.

Па другое—у значнай колькасьці сельсаветаў замест існаваўшых 2-х платных адзінак старшыні і сакратара ўведзены трэці платны работнік—рахункавод-статыстык.

Такім чынам шмат сельскіх саветаў па колькасьці сталых платных работнікаў будзе прадстаўляць наступны малюнак:

| | Старшынь | Сакрат. с/с | Рахун.-стат. |
|---|---|---|---|
| I група сельсаветаў з лікам насельніцтва звыш 3000 ч. (653 с/с) | 1 | 1 | 1 |
| II група з лікам насельніцтва 3000 ч. і менш (818 с/с) | 1 | 1 | — |

Па трэцяе—у мэтах узмацненьня сацыялістычнай, гаспадарчай і культурнай дзейнасьці сельскіх і местачковых саветаў, а таксама для ўзмацненьня ролі с/с. у сацыялістычнай перабудове быту шырокіх працоўных мас ва ўсіх с/с. утвараюцца самастойныя бюджэты, якія да гэтае пары меліся толькі ў 26 проц. сельсаветаў БССР.

Усе гэтыя мерапрыемствы ставяць с/с у становішча поўнага гаспадара ў межах свае тэрыторыі.

Матар'яльнае становішча ўсіх знаходзячыхся на яго бюджэце сацыяльна-культурных устаноў будзе поўнасьцю залежаць ад работы сельсавету. Адсюль кожны с/с. павінен памятаць, што калі ён ня зможа паставіць сваю работу на адпаведную вышыню, дык ён ахвяроўвае гэтыя ўстановы на бяздзейнасьць і гэтым самым будзе перашкаджаць разгортваньню культурнай рэвалюцыі ў вёсцы і перабудове сельскае гаспадаркі на аснове суцэльнае калектывізацыі.

У асноўным правадзімая ў сувязі з ліквідацыяй акруг перабудова працы сельсаветаў на падставе вызначаных ЦВК мерапрыемстваў значна пашырае іх правы і абавязкі, аб гэтым яскрава гаворыць пункт 14 новага палажэньня пра сельсаветы:

„Сельскі савет зьяўляецца вышэйшым органам улады ў межах яго тэрыторыі. Як орган пралятарскай дыктатуры ў вёсцы, сельсавет арганізуе актыўны ўдзел працоўных мас у дзяржаўным кіраўніцтве і ў сацыялістычным, гаспадарчым і культурным будаўніцтве“. Гэта абавязвае сельскія саветы зьмяніць свае старыя яшчэ ў большасьці адміністрацыйныя мэтады працы на новыя, якія будуць мабілізаваць актыўнасьць працоўных мас на справу перабудовы вытворчых адносін на сацыялістычных падставах.

Адсюль кожны сельсавет у штодзённай сваей рабоце павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на наступныя галіны:

а) няўпынна працягваць работу па арганізацыі новых калгасаў з індывідуальных гаспадарак.

б) Шырока практыкаваць справаздачы паасобных калгасаў з закліканьнем на гэтыя справаздачы адзінаглічнікаў для відавочнага паказу ім, што каляктыў-

ная гаспадарка дае значна большы прыбытак, чым індывідуальная.

в) Дапамагаць калгасам і саўгасам у справе палепшаньня якасных паказчыкаў гаспадарак іх, культурнага і бытавога абслугоўваньня калгасьнікаў і рабочых саўгасаў.

г) Стварыць лепшыя ўмовы для падвышэньня ўраджайнасьці і пашырэньня плошчы пасеву ў калгасах, саўгасах і адзіналічнікаў беднякоў і сераднякоў праз належную арганізацыю працы.

д) Спэцыялізацыі сельскай гаспадаркі як у сацыялістычным, так і адзіналічным сэктары.

е) Шырокае і своечасовае азнаямленьне калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас адзіналічнікаў з пастановамі XVI партзьезду адносна калектывізацыі і пастановамі ўраду аб пашырэньні жывёлагадоўлі, узяўшы цьвёрды курс на поўнае іх выкананьне.

Усе гэта абавязвае сельсаветы сваю практычную работу накіроўваць у бок аказаньня сацыялістычнаму і адзіналічнаму сэктарам дапамогі ў справе поўнага выкананьня калгаснага пляну, стварэньня спрыяючых умоў для поўнага выкананьня прамфінпляну прадпрыемствамі гарадоў, найлепшае і больш рацыянальнае арганізацыі працы ў калгасах, устанаўленьне нормаў правідловае аплаты работы кожнага калгасьніка, арганізацыі добрасумленных адносін калгасьнікаў да адзіналічнікаў і наадварот, наладжваньне выхаваўчае працы сярод калгасьнікаў і адзіналічнікаў з мэтаю хутчэйшае перамогі і канчатковага выкараненьня ў калгасьнікаў і адзіналічнікаў уласьніцкіх тэндэнцый, адчыненьне школ, бальніц, ясьляў, пляцовак, детсадоў, лікпунктаў, кіно-перасовак, радыёустановак, лазьняў, грамадзкіх сталовак і інш. мерапрыемстваў у калгасах і саўгасах.

Праца калгасаў павінна праходзіць пад сыстэмачным кіраўніцтвам с/с праз пэрыядычную пастаноўку дакладаў калгасаў на пашыраных пленумах с/саветаў з вынясеньнем гэтых пленумаў у калгасы і больш буйныя вёскі.

Паколькі і далейшая калектывізацыя сельскае гаспадаркі будзе ўпірацца яшчэ ў шалёнае супраціўленьне клясавых ворагаў, дык пункт 18 новага палажэньня ставіць перад с/с задачу: „арганізацыі батрацкіх, бядняцкіх і серадняцкіх мас для барацьбы з кулацтвам, шляхам усямернага абмяжаваньня яго эксплёататарскіх тэндэнцый у некалектывізаваных раёнах, рашуча дабіваючыся гаспадарчага выцясьненьня кулацка-капіталістычных элемэнтаў з тым, каб з пераходам паселішч данага раёну да суцэльнае калектывізацыі, перайсьці да канчатковае ліквідацыі кулацтва, як клясы“.

Практычная работа с/с па ажыцьцяўленьню гэтае задачы ў сувязі з ліквідацыяй акруг павінна быць безадкладна накіравана на стварэньне пры ўсіх выбарчых органах батрацка-бядняцкіх груп і арганізацыі сталае і плянава-сыстэматычнае работы з імі.

Адначасова з гэтым сельсаветы павінны дапамагчы мясцовым партыйным ячэйкам, а дзе гэтакіх няма ўпаўнаважаным райкомаў КП(б)Б арганізаваць плянавую работу з батрацтвам і беднатой адзіналічнікамі.

Усе гэтыя задачы можна будзе з посьпехам ажыцьцяўляць толькі пры адначасовым падвышэньні палітычнага і культурнага ўзроўню калгасьнікаў і некалектывізаваных яшчэ батракоў, беднякоў і середнякоў з шырокім залучэньнем іх у непасрэднае кіраўніцтва працаю саветаў і выканкомаў.

На дапамогу сельскім саветам у гэтай галіне прыходзяць пункты 33, 56, 57, 59, 61 і разьдзел асобнага палажэньня пра вытворчыя нарады новага палажэньня пра сельсаветы, якія выразна ставяць перад саветамі наступную задачу: „правядзеньне шырокіх мерапрыемстваў па падвышэньню палітычнага і культурнага ўзроўня працоўных мас вёскі, асабліва жанчын батрачах, бядначак і серадначак, якія адыгрываюць вялізарную ролю ў справе калектывізацыі, праз шырокае разгортваньне сярод іх палітычнае і культасьветнае работы, а таксама шырокага ўцягненьня іх у штодзённую працу саветаў праз ажыўленьне дзейнасьці існуючых пры с/с камісій і вытворчых нарад, з накіраваньнем гэтае дзейнасьці на арганізацыю масавага і актыўнага ўдзелу ўсіх членаў камісій і вытворчых нарад у калгасным будаўніцтве. Дабіцца такога становішча, каб бытавыя і сацыяльна-культурныя камі-

сіі былі ініцыятарамі арганізацыі пры новым будаўніцтве бытавых устаноў (грамадзкіх сталовак, прачашных, дзетясьляў, дзетсадоў і інш.)".

Усё гэта вымушае ад кожнага сельсавету стала наладзіць працу ўсіх камісій і пры складаньні свайго пляну працы прадугледзець заданьні кожнай камісіі і сельска-гаспадарчай вытворчай нарады. Гэты плян павінен мець прыблізна такі выгляд:

| Назва пытаньня | Хто падрыхтоўвае | Калі даецца заданьне | Хто падрыхтоўвае | Калі выносіцца на абгаварэньне агульн. сходаў калгасьнікаў ці адзіналічнікаў | Калі абгавараецца на пасядж. пашыр. нарады ці камісіі | Куды выносіцца на разгляд праект камісіі на пленум ці прэзыдыум с.-с. | Калі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Разьмеркаваньне рабочае сілы ў калгасе „Маяк" | С.-г. вытворчая нарада пры с.-с. | 10/IX | Бюро вытворчай нарады | На агульны сход калгасьнікаў 15/IX | На пасяджэньні вытворч. нарады 20/IX | На пленум с.-с., які выносіцца ў калгас „Маяк" | 25/IX |
| Аб арганізацыі дзетясьляў у в. Трухановічы | Бытавая камісія пры с.-с. | 10/X | Старшыня камісіі | На агульны сход сялян для правядзеньня самаабкладаньня 15/X | На пасядж. камісіі 20/X | На пленум с.-с., які выносіцца ў вёску Трухановічы | 25/X |

Кожнаму сельсавету трэба памятаць, што ўсялякае прынцыповае пытаньне, якое выносіцца на абгаварэньне агульных сходаў калгасьнікаў, ці сходаў адзіналічнікаў павінна быць папярэдне абгаворана на сходах беднаты, якія павінны быць скліканы напярэдадні або за некалькі дзён да агульных сходаў калгасьнікаў ці адзіналічнікаў партыйнымі ячэйкамі, аб чым сельсаветы павінны дагаварыцца з кіраўнікамі апошніх і ўсямерна дапамагчы правесьці гэтыя сходы з тым, каб на агульным сходзе мець з беднякоў і актыву серадлякоў сталую апору. Усе сельсаветы павінны на сваіх сакратароў узлажыць абавязкі кантроля за сваечасовым выкананьнем пляну с/с усімі камісіямі і ў выпадку парушэньня тэрмінаў гэтага з боку як паасобных работнікаў, так і камісій у цэлым сваечасова і жорстка рэагаваць праз абвяшчэньня гэтага ў насьценных, раённых і цэнтральных газэтах. Толькі такая рашучая пастаноўка дасьць магчымасьць с/с уцягнуць у сваю працу шырокія працоўныя масы і клясава вырашаць усе ўскладзеныя на с/с жыцьцём задачы.

Суміруючы ўсе вышэйзьмешчанае трэба сказаць, што рэарганізацыя сыстэмы кіраўніцтва ў асноўным заключаецца ў тым, што мы, зьліквідаваўшы акругі, узмацнілі палітычнае і гаспадарчае значэньне раёну і с/с і наблізілі органы ўлады да працоўнага насельніцтва.

**М. Байкаш.**

---

# Гарсаветы і выкананьне прамфінпляну.

Мы стаім напярэдадні сканчэньня другога году пяцігодкі і ўступаем у трэці рашаючы год выкананьня пяцігадовага пляну ў чатыры гады. Заканчваючы другі год плянавага будаўніцтва, мы маем цэлы шэраг недавыкананьняў, абавязваючых усю савецкую грамадзкасьць, усе ўстановы і арганізацыі мабілізаваць актыўнасьць і творчую энэргію мас навакол важнейшага палітычнага заданьня —прамфінпляну.

Другі год пяцігодкі зьяўляецца рэкордным годам дасягненьняў рэканструкцыйнага пэрыяду, але дасягненьні не павінны разбройваць альбо выпушчаць з поля сваей дзейнасьці і таго прары-

ву, які ёсьць на сёньня ў нашай прамысловасьці. Ліквідацыя прарыву ў канцы гаспадарчага году і забесьпячэньне праграмы трэцяга году пяцігодкі патрабуюць ад гарсаветаў у карацейшы тэрмін узьняць і згуртаваць навакол саветаў усе сілы працоўных мас, усю творчую энэргію іх, накіраваўшы іх дзейнасьць на выкананьне прамфінпляну.

Гарсаветы, кіруючыя ўсімі відамі прамысловасьці на тэрыторыі гораду, ажыцьцяўляючы мерапрыемствы сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, аб'яднаючы навакол сэкцый і камісій рабочы актыў, павінны безадкладна, па-баявому, сваім непасрэдным удзелам дапамагчы нашай прамысловасьці ліквідаваць меўшыя месца прарывы.

„Важнейшай прычынай невыкананьня вытворчых заданьняў прамысловасьці і асабліва ў асноўных яе галінах, зьяўляецца адсутнасьць патрэбнай энэргіі і ініцыятывы ў справе мабілізацыі **ўнутраных рэсурсаў:** невыстарчальнае скарыстаньне наяўнага абсталяваньня, нізкі каэфіцыент зьменнасьці, адсутнасьць энэргіі ў перамозе „вузкіх месц“ прадпрыемства, частыя прастоі абсталяваньня з-за неналаджанасьці і неарганізаванасьці матар'яльна-тэхнічнага забесьпячэньня, шматлікія аварыі з-за злачыннай нядбайнасьці і кепскага тэхнічнага кантролю, адсутнасьць сыстэматычнай рацыяналізатарскай работы і крайняя нездавальняючасьць унутры-заводзкага плянаваньня. Замест бальшавіцкага змаганьня з кансэрватызмам у тэхніка-вытворчым кіраўніцтве прадпрыемствамі, замест рэвалюцыйнай пільнасьці ў адносінах шкоднікаў і мабілізацыі актыўнасьці перадавых рабочых для садзейнасьці разгортваньня работы прадпрыемстваў, нярэдка гаспадарнікі плятуцца ў хвасьце ўскоснае часткі спэцыялістых, а часамі проста шкоднікаў, не аказваюць належнага падтрыманьня больш перадавой часткі інжынэраў і тэхнікаў, адрываюцца ад рабочага актыву, г. зн. на практыцы абмяжоўваюцца бюракратычнымі мэтадамі работы“ (з адозвы ЦК УсеКП(б).

Сыгналізацыя аб пачатку перабояў у выкананьні прамфінпляну ў некаторых прадпрыемствах пачалася яшчэ да адозвы ЦК УсеКП(б). Яскравым прыкладам пачатку недавыкананьня плянавых меркаваньняў на прадпрыемствах у першую палову гаспадарчага году могуць служыць заводы і фабрыкі гораду Віцебску. Пры абсьледваньні работы Віцебскага гарсавету яшчэ ў чэрвені месяцы заўважаліся недахопы ў галіне выкананьня прамфінпляну. Становішча з выпускам прадукцыі да таго часу мы мелі наступнае:

Акулярная ф-ка на І-ы квартал дала браку 1,63 проц., у пачатку ІІ-га кварталу брак павялічыўся да 4,21 проц.; на панчошчай ф-цы І-ы квартал даў браку —6,9 проц., у пачатку ІІ-га кварталу—7,3 проц.; на Вітшвее І-ы квартал даваў 1,14 проц., у пачатку ІІ-га кварталу —2,21 проц. і ў лютым—0,4 проц.; на абутковай ф-цы І-ы квартал даў браку —1,25 проц., а ўжо ў лютым—7,48 проц. Недавыкананы плянавыя заданьні на акулярнай ф-цы з пачатку першага паўгодзьдзя—14,4 проц., на фабрыцы Карла Маркса—14 проц., на абутковай ф-цы—16,2 проц. і на фанерным заводзе—28,9 проц.

Здавалась-бы такое пагражаючае становішча павінна было-б быць сыгналам для прыцягненьня ўвагі гарсавету для барацьбы, як за якасьць прадукцыі, гэтак і за ўздым дысцыпліны на прадпрыемствах, аб чым і сьведчылі абсьледавацельскія матар'ялы і патрабавалі ад гарсавету гэтага. Аднак, да таго-ж часу мы мелі ўзрастаючы нявыхад на работу. Па Вітшвею ў І-м квартале нявыхад —9,18 проц., на пачатку ІІ-га—10,7 проц, і ў лютым—10,9 проц. На акулярнай ф-цы ў І-м квартале меўся нявыхад на работу—8,25 проц. рабочых і ў ІІ-м квартале 10,85 проц. На заводзе „Чырвоны Мэталіст“ у І-м квартале меўся нявыхад на работу—13,83 проц. і ў пачатку ІІ-га—17,16 проц.

Для прыпыненьня і ліквідацыі вызначаных недахопаў у вытворчасьці былі зроблены крокі ў напрамку павялічэньня ўдарніцтва, якое з 7,6 проц. узьнялося да 57,2 проц. рабочых. Былі арганізаваны калектывы і камуны, але на жаль, гэты ўздым ня быў замацаваны і калектывы і камуны распаліся. Былі выкрыты моманты і лжэўдарніцтва.

Бязумоўна, такое становішча патрабавала значнай увагі і дапамогі гарса-

вету, які зьяўляецца кіраўніком усіх прадпрыемстваў на яго тэрыторыі. Што зроблена гарсаветам для ўздыму ўсіх галін дзейнасьці ў напрамку прыпыненьня адмоўных момантаў у вытворчасьці і ліквідацыі прарываў да гэтага часу невядома. Магчыма, што такое становішча маецца і ў іншых гарсаветах.

Вядучы патрэбную і надзвычайна неабходную справу за выкананьне промфінпляну, уступаючы ў трэці год выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, трэба па-бальшавіцку перамагаць цяжкасьці, даваць рашучы і арганізаваны адпор апартуністычным настроям, ныцікам і бюракратам, якія імкнуцца зьніжаць і падрываць як творчую энэргію рабочае клясы пры выкананьні пяцігадовага пляну, так і пры пераможным наступленьні на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі.

Перамаганьнем цяжкасьцяй, якія стаяць перад намі, перш за ўсё залежыць ад нашай работы, ад нашага ўменьня весьці пасьлядоўнае і непрымірымае змаганьне з расхлябанасьцю, разгільдзяйствам і бюракратызмам у нашых органах, і асабліва ад нашай здольнасьці мабілізаваць рабочую клясу, якая зьяўляецца крыніцаю хутка ўзрастаючай і проста невычарпальнай рэвалюцыйнай энэргіі, для справы барацьбы за камунізм.

Промфінплян стаіць пад ударам. Гэтым ставіцца пад удар праграма трэцяга году пяцігодкі. Зробім з гэтага бальшавіцкі вывад:

„Усе сілы партыі, усе сілы рабочае клясы—на выкананьне промфінпляну, на забесьпячэньне праграмы трэцяга году пяцігодкі“. (З адозвы ЦК УсеКП(б).

Гарсаветы згуртоўваючы навакол камісій і сэкцый савецкі актыў праз членаў саветаў і прымацаваных, павінны мабілізаваць усю савецкую грамадзкасьць на выкананьне промфінпляну, на барацьбу з лжэўдарніцтвам і на ліквідацыю прарываў з мэтаю, болш падрыхтавана прыступіць да выкананьня трэцяга году плянавага будаўніцтва.

Асноўныя і баявыя задачы сучаснага моманту прымушаюць безадкладна прыступіць да практычнай работы па высьвятленьню як найхутчэй таму ці іншаму прадпрыемству дапамагчы ў яго штодзённай рабоце па ліквідацыі маючыхся недахопаў. Неабходна практычна дапамагчы ў арганізацыі брыгад, замапаваньні існуючых, выяўленьню шкоднага ілжэўдарніцтва, удзельнічаць у праверцы соцспаборніцтва, дапамагаючы прадпрыемствам адстаючым, бяручы іх на грамадзкі буксір, праз пасяджэньні прэзыдыумаў і пленумаў на прадпрыемствах, грунтоўна прапрацоўваючы ўсе пытаньні, зьвязаныя з выкананьнем промфінпляну і забесьпячэньнем далейшага будаўніцтва. Выконваючы гэту працу гарсаветам трэба памятаць, што задачы па сацыялістычнаму будаўніцтву, ня гледзячы ні на якія цяжкасьці, павінны быць пераможаны і выкананы ў вызначаны тэрмін.

**А. М.**

---

## Як перабудоўваецца праца ў раёнах?

Цэлы шэраг абсьледваньняў, зробленых за апошні час па лініі ЦВК, НКРСІ, Камісіі ЦК УсеКП(б) далі даволі поўны малюнак становішча работы ў раёнах. Аб чым гавораць вынікі гэтых абсьледваньняў? Пераважная большасьць іх канстататуюць, што значная частка раёнаў яшчэ не парабудавалася на новыя формы і мэтады работы, што шмат іх працуюць амаль яшчэ так, як яны працавалі да ліквідацыі акруг.

У адных раёнах звальваюць віну за гэта на тое, што акруговыя працаўнікі яшчэ не зьявіліся на раён. Напрыклад Хацімскі РВК так і піша, што „у раёны прыбыў толькі 1 старшыня РВК, а ў астатнім як штат РВК, **гэтак і яго праца знаходзяцца ў ранейшым становішчы**“ як быццам акрамя працаўнікоў ліквідацыя акруг раёнам нічога не дала ні павялічэньня бюджэту, ні павялічэньня правоў і г. д. У другіх спасылаюцца на недастатковасць кіраўніцтва. Трэба сказаць, што з боку некаторых раённых працаўнікоў заўважваецца болш шуканьне „аб‘ектыўных прычын“, каб ап-

раўдаць сваю пасыўнасьць у дзеле перабудовы працы, чым сапраўднага імкненьня ператварыць гэтую перабудову у жыцьцё.

Але, было-б вялікаю памылкай узвальваць усю віну за слабасьць гэтай працы выключна на раёны. Трэба сказаць, што праўда і кіраўніцтва гэтай працай далёка не выстарчальнае. Дастаткова прачытаць матар'ялы, зьмешчаныя па гэтаму пытаньню ў друку, каб убачыць, што мы больш займаемся нярэдка канстатаваньнем шэрагу недахопаў і фактаў, што раёны яшчэ не перабудаваліся, але ні воднага разу амаль не ставілі пытаньня, што-ж гэта адзначае перабудавацца на новыя формы і мэтады і як гэта трэба зрабіць.

**Больш самастойнасьці ў працы.**

Перш за ўсе нам здаецца РВК павінен поўнасьцю ўявіць сабе ўсю сваю адказнасьць за працу і значнае павялічэньне самастойнасьці апошняй. Калі да ліквідацыі акруг РВК за вырашэньнем шэрагу пытаньняў, нават і дроцэлага шэрагу пытаньняў, нават і дробязных звярачваліся ў АВК, калі тады цэлы шэраг галін працы, як землябудаўніцтва, меліарацыя, складаньнем усякіх плянаў і г. д. непасрэдна падрыхтоўваліся ў АВК і нават выконваліся. Калі РВК па цэламу шэрагу галін чакалі дырэктыў альбо пасылкі з акругі упаўнаважаных, дык у сучасны момант РВК павінен усе гэтыя пытаньні вырашаць самастойна не чакаючы спэцыяльных тлумачэньняў, указаньняў і г. д. Дырэктывы Партыі і Ураду асьвятляюцца ў дастатковай ступені ў нашым друку. Умець самастойна і сваечасова падхапіць і правесьці іх ў жыцьцё ва ўмовах свайго раёну—гэта самае асноўнае, што патрабуецца ад РВК. Ці маем мы гэта ужо? Не. Шэраг дырэктыў толькі таму, што раёны не уявілі сабе гэтай задачы ня цалкам праводзяцца ў жыцьцё. Возьмем, напрыклад, такую справу, як арганізацыю прыліву ў калгасы. У нашым друку, акрамя дырэктыў у гэтай галіне было шмат паказаньняў і як гэта зрабіць: прарабіць і папулярызаваць разьмеркаваньне ўраджаю, паставіць справаздачнасьць калгасаў перад адзінаалічнікамі, арганізаваць узаемную дапамогу калгасаў і не калгасьнікаў і г. д. Між тым трэба проста сказаць, што наўрадлі і палова РВК выканалі гэтую дырэктыву і ў дастатковай ступені асазналі ўсю важнасьць яе. Дырэктывамі зьмешчанымі ў друку значная частка РВК яшчэ не навучылася карыстацца, яны ўсё яшчэ чакаюць штурхачоў, упаўнаважаных і напамінкаў.

**Арганізаваць апарат і чотка кіраваць ім.**

Атрымаўшы поўную самастойнасьць, РВК павінны былі-б падумаць аб тым, якім шляхам яны будуць правадзіць дырэктывы ў жыцьцё. А гэта шчыльна зьвязана з пытаньнем палепшаньня працы нізавога апарату і кіраўніцтва ім. Што-ж мы маем? Першае тое, што большасьць РВК і не падумалі аб тым, каб умацаваць сельскія саветы, палепшыць склад працаўнікоў ў іх. Па другое, што кіраўніцтва сельсаветамі і іншымі ўстановамі не палепшылася. РВК усе яшчэ верыць празмерна у сілу рэзалюцыі і амаль забывае праверыць, як гэтыя рэзалюцыі выконваюцца.

Ды і самыя рэзалюцыі складаюцца іншы час так, што ня толькі нізавыя саветы, але і іншыя ўстановы наўрад ці змаглі іх уразумець. Напрыклад, у рэзалюцыі Горацкага РВК аб ходзе ўборачнай кампаніі ў ліку іншых агульных пунктаў, мы знаходзім такі пункт: „Райза, калгас-каперацыйнай сыстэме і сельскім саветам прыняць шэраг мерапрыемстваў па стварэньню рашучага пералому у справе, як уборачнай, гэтак і асеньняй сельска-гаспадарчай пасеўкампаніі, якія-б поўнасьцю забясьпечвалі пасьпяховае выкананьне па ўборцы ўраджаю, што ў сваю чаргу забясьпечыць тэмпы хлебанарыхтовак і асеньнюю сяўбу, мабілізуючы і практычна накіроўвая работу вакол гэтых кампаній думку і самадзейнасьць усіх грамадзкіх арганізацый і працоўных мас вёскі на базе шырока разгорнутай работы па далейшай калектывізацыі сельскай гаспадаркі на прынцыпах поўнай дабраахвотнасьці, не дапускаючы мэтадаў адміністрыраваньня і бязьлітаснай барацьбы з праваапартуністычнымі поглядамі на самацёк, практычна ажыцьцяўляя лёзунг ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.“.

Мы ўж ня будзем гаварыць аб тым, што старшыня с/савету атрымаўшы такую рэзалюцыю можа падумаць, што РВК рэкамэндуе яму „не дапускаць бязьлітаснай барацьбы з права-апартуністычнымі поглядамі“. Мы толькі скажам аб тым, што такія пункты ў рэзалюцыі абсалютна нічога не даюць для палепшаньня работы нізавых органаў.

Але, і канкрэтныя пастановы шэрагу РВК зусім не правяраюцца з пункту погляду таго, як яны выконваюцца. Возьмем любую пастанову РВК па дакладу с/савета. Вы знойдзеце там аб тым, як ажывіць працу камісіі, аб тым, каб правадзіць працу плянава і аб тым, каб штодзённа кіраваць калгасамі, але на справе большасьць гэтых рэзалюцый так і застаюцца рэзалюцыямі. Узьнікае пытаньне, ці могуць РВК правадзіць работу ў новых умовах пры такім становішчы апарату і такой якасьці кіраўніцтва? Таму, пытаньнем узмацненьня нізавых органаў палепшаньня кіраўніцтва імі большай праверкі выкананьня і дапамогі с/саветам—зьяўляецца аднэй з умоў пераходу на новыя рэйкі.

**Плянавасьць у рабоце.**

Пляны работы ў РВК усюды маюцца. Яны былі і раней. Але-ж, для новых умоў гэтыя пляны бязумоўна павінны быць зусім іншымі. Да гэтага часу пляны РВК складаліся прыблізна такім чынам. Сакратар РВК даклады ўсіх устаноў і галоўныя кампаніі, якія прадбачыліся, разьмяркоўваў па кварталам з такім разьлікам, каб у кожным з іх стаялі даклады тых ці іншых устаноў, альбо аб тэй ці іншай кампаніі. Складаньне гэтых плянаў зусім не ўвязвалася з плянам будаўніцтва па раёну. Пляны ня мелі мэтавага напрамку ў сувязі з асаблівасьцю раёнаў. Цікава, што пры складаньні гэтых плянаў вельмі малую ролю адыгрываў бюджэт, між тым, як у апошнім адлюстроўваецца ўсё будаўніцтва на раёне. У выніку гэтага мы, напрыклад, у гэтым годзе ня гледзячы на налічча такіх плянаў, мелі па шэрагу раёнаў вялізарныя прарывы ў выкананьні бюджэту (50-60% выкананьня), правалы шэрагу будаўніцтваў. Чаму усё гэта стварылася? А гэта таму, што ў плянах РВК было шмат пытаньняў агульнага кіраўніцтва і мала ўвагі таму, як чарговыя задачы правесьці ў жыцьцё. Напрыклад, Тураўскі РВК зусім правільна ўнёс у плян пабудовы 6-ці школ, але забыў паставіць у плян такія пытаньні, як аб затрыманьні на раёне рабочай сілы, аб вырабу цэглы, аб дастаўцы іншых матар'ялаў і г. д., у выніку чаго ні водная з гэтых школ не закончана, плян пабудовы сьвінарнікаў выканан ня больш як на 20%.

Такія пляны ў сучасны момант мала варты. Бюджэты раёнаў пасьля ліквідацыі акруг павялічыліся амаль у 1½-2 разы. Бяз глыбока прапрацованага пляну рэалізацыі бюджэту, без удасканальнага пляну напрамку будаўніцтва ў раёне і без дастатковага разьліку таго, якімі сіламі, матар'яламі і сродкамі гэта будаўніцтва будзе праведзена ў жыцьцё нельга трэбаваць сродкаў па бюджэту. А для гэтага патрэбен будаўнічы плян, плян як пяцігодкі, гэтак і гадавы разьвіцьця раёну—плян дасканальна прапрацованы з усіх бакоў. Для гэтай справы павінны быць прыцягнуты ўвесь актыў, усе ўстановы раёну. Задача плянавай камісіі—групаваць і апрацоўваць асобыя пляны ў агульны плян раёну.

Эканамічнае вывучэньне раёну зьвязана яшчэ з адным пытаньнем—неабходнасьцю павялічэньня даходнай часткі бюджэту ў раёне. У сучасны момант бюджэты амаль усіх раёнаў дэфіцытны. Прычым дэфіцыты складаюцца так, што датацыі павінны ў 3 альбо 4 разы перавысіць даходную частку. Амаль кожны раён патрабуе датацыю ў 800.000 руб. альбо адзін мільён руб. у той час, як даходная частка складае якіх-небудзь 150.000 руб. Зразумела, што гэтае зьявішча ненармальнае. Неабходна па гэтаму, каб у плянах раёнаў прадугледжаны былі ня толькі выдаткі „спажывецкага“ характару, але і такія, якія далі-б павялічэньне даходнай часткі бюджэту, напрыклад, пабудову прадпрыемстваў на мясцовай сыравіне і г. д.

**Пытаньне аб кадрах—справа і раёна.**

Большасьць раёнаў, нават і тых, якія ўжо атрымалі значную колькасьць працаўнікоў толькі і робяць, што скардзяцца на адсутнасьць апошніх. Яны

ня хочуць знаць аб тым, што шэраг цэнтральных устаноў зусім не ўкамплектаваны. Мы ведаем раёны, якія пры наліччы 8 сельсаветаў патрабуюць: „дайце нам інструктара па масавай рабоце“, як быццам, 8 с/саветаў немагчыма абслужыць без спэцыяльнага інструктара. Мы ведаем раёны, дзе патрабуюць: „дайце нам інспэктара па бытавым установам“ у той час, як там нічога не зрабілі, каб ажывіць работу камісіі па палепшаньні працы і быту жанчын, каб уцягнуць актыў жанчын у бытавую працу. У кожным раёне ў сучасны момант маецца значны актыў, які магчыма было-б падрыхтаваць для работы ў апараце. Калі да гэтага часу раёны мала займаліся пытаньнем падрыхтоўкі кадраў, дык гэта тлумачылася адсутнічаньнем сродкаў. Але, у сучасны момант, калі РВК сродкі маюць, праца па падрыхтоўцы кадраў павінна была-бы быць пастаўлена больш рашуча і безадкладна. Трэба было-б, каб уж гэтая зіма дала ў гэтым напрамку значныя вынікі. Між тым раёны на працу па падрыхтоўцы кадраў яшчэ не зьвярнулі дастаткова увагі.

Але пытаньне аб кадрах яшчэ значна больш упрасьцілася-бы, калі-б раёны навучыліся выкарыстоўваць больш-менш той актыў, які ў раёнах маецца. Мы маем прыклады раёнаў, дзе амаль зусім ня ўцягнуты ў работу ня толькі камісіі с/саветаў, ня толькі актыў жанчын, але і настаўніцтва. Маюцца нават раёны, у якіх аграномы земчасткі адмаўляліся дапамагчы калгасам у справе разьмеркаваньня ўраджаю, кажучы, што гэта справа Калгассаюзу. Такое няўменьне ўцягнуць у працу актыў сьведчыць больш за ўсё, што шэраг раёнаў ня здолелі перайсьці на новыя мэтады працы.

**Ці дастаткова прыблізіўся апарат да насельніцтва.**

Бязумоўна, ужо самы факт ліквідацыі акруговых зьвеньняў і перадача яго функцый у раёны, значна прыблізіла нізавы апарат да насельніцтва. Шмат важнейшых пытаньняў, якія раней вырашаліся ў акрузе, цяпер вырашаюцца канчаткова ў раёне. Але ці дастаткова гэта? Бязумоўна не. Першае, неабходна, каб насельніцтва магло-б атрымаць поўнае задавальненьне па сваім пытаньням у раёне. А дзеля гэтага неабходна, каб яно магло-бы ў самым раёне абскардзіць тое, ці іншае рашэньне. Таму неабходна, каб мясцовыя органы нагляду РСІ і Пракуратура былі больш папулярызаваны сярод насельніцтва і каб іх праца стала больш масавай. Між тым, у шэрагу раёнаў мы гэтага ня маем, а наадварот, маем попыты падпарадкаваць РСІ—РВК.

Па другое, трэба каб праца РВК (прэзыдыуму, пленуму, падатковай камісіі) і сельсаветаў больш наблізілася да мас. Між тым да гэтага часу выязныя прэзыдыуму і пленуму і выезды камісіі мала практыкуюцца ня толькі ў РВК, але і ў сельсаветах.

Па-трэцяе, неабходна забясьпечыць, каб у РВК, у сельсаветах і іншых установах зноў не ствcovaрыліся залежы спраў і заяў. Між тым, у сувязі з перадачай з акруг у раёны шарагу спраў, такая пагроза маецца. Асобна РВК неабходна зьвярнуць увагу, каб такія залежы не ствараліся ў сельсаветах. Апошнім неабходна пэрыядычна дапамагчы ў вырашэньні заяў і разгрузцы ад маючыхся ў іх спраў.

**ВЫВАДЫ**

У сучасны момант раёны перажываюць яшчэ пэрыяд рэканструкцыі—пэрыяд перабудовы сваей працы. Гэта значыць, што апарат у асноўным перабудован, уведзены новыя адзінкі, але новыя формы і мэтады працы ў шмат-якіх раёнах яшчэ не ўкараніліся. Раёны часта яшчэ на шчупваюць іх, шукаюць іх. Мы лічым пагэтаму неабходным, каб на старонках часопісі „Саветы Беларусі“ быў створан шырокі абмен вопытам гэтай працы. Гэта значна дапамагло-б раёнам лягчэй усвоіць новыя формы і мэтады працы і больш хутка перавесьці апошнюю на новыя рэйкі. Галоўны ўдзел у гэтым павінны прыняць самі раёны.

**А. Вайцок.**

# Узмоцнім кіраўніцтва працаю хат-чытален з боку сельсаветаў.

Спэцыяльнай пастановай оргбюро ЦК УсеКП(б) адзначана, што „хата-чытальня павінна стаць у значна большай меры, чым у сучасны момант, організуючым цэнтрам культурнай і палітычнай актыўнасьці бядняцкіх і серадняцкіх мас (у тым ліку мас сялянак). Выключна важнае значэньне набывае яе работа ў сацыялістычным сэктары сельскай гаспадаркі“. Вось асноўная задача хаты-чытальні. Разглядаючы масавую работу ў вёсцы, мы павінны адзначыць тую новую паласу ў рабоце, гэта паласу прыстасаваньня масавай палітасьветнай работы да запатрабаваньняў рэканструіруемай сельскай гаспадаркі на базе калектывізацыі і абвастрэньня клясавага змаганьня.

Ці можам мы сказаць на сёньняшні дзень, што ў гэтым напрамку маем хоць невялічкія дасягненьні, ці хоць часткова наша хата-чытальня перабудавала сваю работу, зьмяніла мэтады і формы работы стала сапраўдным цэнтрам, арганізуючым вакол сябе бядняцка-серадняцкія масы. Трэба адкрыта прызнаць, што поруч з тымі вялізарнейшымі дасягненьнямі на гаспадарчым і культурным фронце, якія мы маем, тут у нас ня толькі няма дасягненьняў, а назіраюцца адставаньня ад агульных тэмпаў, і злачынная недаацэнка гэтай важнай работы на мясцох.

Усяго на тэрыторыі БССР лічыцца 525 хат-чытален, у наступным годзе мяркуецца адчыніць яшчэ 208, што ў сярэднім дасьць адну хату-чытальню на два сельскіх саветы. Ці можа гэтая сетка абслужыць культурна-масавай работай нашу вёску? Пры тых вялізарнейшых палітычна-гаспадарчых задачах, якія праводзяцца на вёсцы, нам патрэбна мець па меншай меры ня менш аднэй хаты-чытальні на сельсавет. Сельсавет адміністрацыйная адзінка з самастойным бюджэтам, з канкрэтнымі плянамі сацыялістычнага будаўніцтва, якія патрабуюць для пасьпяховага іх выкананьня штодзённай палітасьветнай работы сярод бядняцка-серадняцкай масы, арганізацыі актыва, пабудовы работы па мэтаду сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Гэтую задачу павінна выканаць тут непасрэдна ў сельсавеце хата-чытальня. Вось чаму такая сетка хат-чытален ні ў якім разе не задавальняе тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва.

Бліжэй прыглядзеўшыся да становішча хат-чытален трэба прызнаць, што нават тая нездавальняючая па колькасьці сетка працуе ня больш чым на палову. Хата-чытальня на замку, зачынена. Галоўнай прычынай такога становішча зьяўляецца адсутнасьць патрэбных кадраў хатнікаў і неўважлівыя адносіны мясцовых органаў улады да гэтага важнейшага вучастка культурнай работы.

Выбарчае абсьледваньне 73 хат-чытальняў розных раёнаў БССР паказвае, што з агульнае колькасьці 73 хатнікаў працуе ў гэтай галіне больш года толькі 6 чалавек, што складае 8,2 проц. Асноўная маса хатнікаў працуе некалькі месяцаў. 46 хатнікаў з 73 працуюць менш шасьці месяцаў. Кваліфікацыя хатнікаў і падрыхтаванасьць іх да работы надзвычайна нізкая. На мясцох звычайна пасылаюць на гэтую работу слабейшых таварышоў, пры чым пры выяўленьні з боку таго ці іншага хатніка некаторай актыўнасьці ў рабоце, раённыя арганізацыі такіх хатнікаў зьнімаюць для другой работы не заўсёды больш адказнай, чым праца ў хаце-чытальне. Як правіла на працягу году хатнікі аднаўляюцца на 80—100 проц. Сацыяльны і партыйны склад хатнікаў у агуле добры. Выбарчае абсьледваньне паказвае, што з 73 хатнікаў 58 члены і кандыдаты КП(б)Б, 12 члены КСМ і толькі 3 беспартыйныя.

Цякучасьць хатнікаў выключае ўсякую мажлівасьць органам народнай асьветы падбіраць, а галоўнае рэгулярна перападрыхтоўваць і сыстэматычна падвышаць кваліфікацыю хатнікаў. Цякучасьць складу хатнікаў і саўмяшчэньне работы з іншымі абавязкамі зьяўляюцца асноўнай перашкодай узьняцьця работы хаты-чытальні на належную вышыню ў адпаведнасьці з тымі задачамі, якія перад намі стаяць на вёсцы. Сельсаветы ў

першую чаргу павінны павесьці рашучае змаганьне за замацаваньне работнікаў у хатах-чытальнях ня менш як на два гады.

Разглядаючы бюджэт хаты-чытальні, нардому, не гаворачы ўжо аб чырвоным кутку, трэба прызнаць яго зусім нездавальняючым, які, чамусьці ня гледзячы на наш агульны рост, ня мае нават тэндэнцыі да росту. Па досьледам больш паловы хат-чытальняў выпісвае менш пяці газэт, гэта пры сучасных вялізарнейшых запатрабаваньнях на газэту. Ёсьць шмат выпадкаў калі хата-чытальня зусім застаецца некалькі месяцаў без газэты. Звычайна падпіска ўтвараецца на адзін месяц, а пры частых зьменах хатнікаў і грашовых недахопах лічыцца нармальным не забясьпечыць хату-чытальню літаратурай.

Бібліатэкі пры хатах-чытальнях надзвычайна малыя, налічваецца каля ста экзэмпляраў часта ўстарэлых, нават шкодных кніжак. Асаблівую засьмечанасьць, не адпавядаючую сучаснасьці, маюць кніжкі па сельскай гаспадарцы. Калі дадаць да гэтага яшчэ тую безадказнасьць, што зноў такі ў значнай ступені залежыць ад частых зьмен хатнікаў, якая пануе ў хатах-чытальнях, за літаратуру і маемасьць, дык трэба адкрыта сказаць, што тут становішча катастрафічнае.

Да поўнага малюнку становішча нашай сучаснай хаты-чытальні трэба адзначыць становішча радыё. З 73 хат-чытальняў 48 мае радыё-ўстаноўкі, але большая частка іх маўчыць. Хатнікі ў гэтай справе зусім няпісьменныя, часта самы просты рамонт радыё-ўстаноўкі для іх зьяўляецца непасільным. Частае псаваньне радыё-установак тлумачыцца няўмелым карыстаньнем гэтым магутным сродкам агітацыі і прапаганды. За адзін вечар радыё-прыёмнік хаты - чытальні павінен злавіць хвалі ўсёй зямной кулі— круцяць рэгулятар хто толькі хоча.

Каб вывесьці з такога цяжкага становішча нашу хату-чытальню патрэбна зацікаўленасьць гэтай установай усіх органаў на мясцох і ў першую чаргу сельскага савету. Мы маем вялізарнейшыя дасягненьні ў справе калектывізацыі сельскай гаспадаркі, яшчэ большыя задачы перад намі стаяць на бліжэйшыя часы паператварэньню індывідуальнага сэктару ў сацыялістычны.

Гэтыя задачы будуць выкананы калі будзе ўтваран адзіны фронт уздзейнасьці на індывідуальны сэктар, калі наша хата-чытальня сапраўды зможа арганізаваць вакол сябе актыў, рашуча зьменіць формы і мэтады работы, калі гэтаму адказьнейшаму вучастку работы будзе адведзена ўвага прапарцыянальна яе важнасьці з боку мясцовых органаў. Важнейшай умовай пасьпяховага разгортваньня работы па-новаму зьяўляецца аб'яднаньне сіл у масавай агітацыйна-прапагандыскай рабоце і выкарыстаньне сродкаў па аднаму агульнаму пляну. Калі блізка прыглядзецца да работы ў вёсцы, дык мы заўважым, што сродкі на культурна-масавую работу трацяцца ўсімі ўстановамі і арганізацыямі. Культфонды ёсьць у прафсаюзных, каапэрацыйных і іншых арганізацыях, не гаворачы ўжо аб тых сродках, якія трацяцца па каштарысу. А выніке гэтай работы ні ў якім разе задаволіць тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва ня могуць. Такое становішча тлумачыцца распыленнасьцю як сродкаў так і сіл на культурным фронце.

Наша партыя паставіла кардынальную задачу пагалоўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод працоўных мас ад 11—45 гадоў. Для пасьпяховага ўмацаваньня каляктыўнай гаспадаркі і далейшага пашырэньня сацыялістычнага сэктару патрэбна масавая аграасьвета, рашучае падвышэньне культурнага ўзроўня бядняцка-серадняцкіх мас. Гэтыя задачы павінны быць выкананы ва ўмовах жорскага клясавага змаганьня. Зразумела, мы будзем мець перамогу на гэтым фронце, калі кожная арганізацыя і ўстанова накіруе сваю работу на выкананьне галоўнай і асноўнай задачы. Зразумелая рэч мы-ж справімся з гэтым калі кожная арганізацыя і ўстанова на вёсцы будуць паасобку будаваць „сваю“ культработу „у інтарэсах сваёй арганізацыі“.

Усё гэта выклікае патрэбу ў стварэньні адзінага пляну культбудаўніцтва, які павінен аб'яднаць усе сілы і сродкі на мясцох. Пры складаньні гэтага пляну хата-чытальня павінна выходзіць з тых конкрэтных задач, якія стаяць на блі-

жэйшы час па вёсцы і ў першую чаргу ўлічыць задачу замацаваньня існуючых калгасаў і далейшае іх пашырэньне.

Пад адзіным плянам трэба разумець, па-першае, падлік і правільную растаноўку ўсіх сіл на вёсцы: палітасьветнікі, настаўнікі, каапэрацыйныя працаўнікі, прафсаюзны актыў, мэдычныя работнікі, члены розных грамадзкіх арганізацый, члены культкамісій, жандэлегаткі, члены культбытавых камісій калхозаў, бядняцка-серадняцкі актыў і г. д. павінны быць падлічаны. Па-другое, падлік усіх матар'яльных сродкаў розных арганізацый, якія вядуць культасьветную работу. Пры падліку гэтых сродкаў, трэба ясна ўявіць, што падлік робіцца з мэтаю складаньня адзінага фінансавага пляна, а не аб'яднаньне гэтых сродкаў у адну касу. Па-трэцяе, выпрацоўку адзінага арганізацыйна-палітычнага пляна камбініраванага ўзьдзейнічаньня на вёску ўсіх арганізацый. І чацьвёртае, стварэньне адзінага цэнтра, які-бы пляніраваў і рэгуляваў усю палітыка-асьветную работу на вёсцы. Вось у асноўным задачы, якія стаяць пры складаньні адзінага пляна.

Канкрэтна хата-чытальня пры складаньні пляна павінна ўлічыць якую дапамогу трэба аказаць масавай палітыка-выхаваўчай работай кожнай арганізацыі. Ня можна, каб у масавай рабоце быў разнабой.

Пры складаньні пляна па замацаваньню і пашырэньню калгасаў хаце-чытальні трэба ўлічыць палітычныя настроі паасобных сацыяльных пластовак вёскі, выявіць падрыхтаванасьць да калектывізацыі сельскай гаспадаркі беднаты, батрацтва, серадняка, рабочых, якія жывуць у вёсцы, а таксама ўлічыць актыўнасьць, характар, зьмест і мэтады супроць калгаснай агітацыі варожых элемэнтаў вёскі. Адзіным плянам у гэтай частцы работы патрэбна чотка вызначыць, якую тлумачальную работу, якімі сіламі і мэтадамі трэба правесьці ў адносінах да кожнай сацыяльнай групы. Плян павінен адлюстраваць з поўнай яскравасьцю хто, дзе і як праводзіць паасобна працу з беднатой, батрацтвам, агульную работу сярод бядняцка-серадняцкіх мас з жанчынамі, моладзьзю, членамі саюзу і г. д.

Плян павінен прадугледзець, каб у вырашэньні агульных культурна-палітычных пытаньняў (ліквідацыя няпісьменнасьці, увядзеньне ўсеагульнага абавязковага навучаньня, пашырэньне сеткі кіно, радыё і г. д.) прымалі ўдзел усе арганізацыі: спажывецкая каапэрацыя, калгасы, прамыслова-саматужная каапэрацыя, жыльлёвая каапэрацыя, камсамол, прафсаюзныя арганізацыі і г. д.

Гэтым арганізацыям трэба адмовіцца ад той дзеляцкай палітыкі, якую яны вялі да гэтага часу: прафсаюзы лічылі сваім абавязкам і то не заўсёды „адкупіцца" шляхам вылучэньня сродкаў і то надзвычайна неакуратна для ліквідацыі няпісьменнасьці сярод сваіх членаў саюзу.

Саматужна-прамысловая каапэрацыя і на сёньняшні дзень прымае зусім слабы ўдзел у справе арганізацыі ліквідацыі няпісьменнасьці сярод саматужнікаў. Жаданьня ўсіх арганізацый пакончыць са спадчынай царызму — няпісьменнасьцю па ўсяму фронту, ня было.

Аднак, пры складаньні пляна трэба ўлічыць спэцыфічныя задачы кожнай арганізацыі. Так, прыцягваючы да ўдзелу ў складаньні і выкананьні адзінага пляну культурна-масавай працы спажывецкую каапэрацыю, трэба прадугледзіць такія пытаньні, як вярбоўка пайнікаў, выхаваўчая работа сярод іх, падвышэньне культурнага ўзроўню членаў лавачных камісій, пытаньні прафсаюзнай работы і г. д. Трэба так пабудаваць плян, каб кожная арганізацыя праз агульны плян, праз агульную культурна-масавую работу магла вырашыць свае задачы.

Аб'яднаньне сіл пры складаньні пляна патрабуе плянавага аб'яднаньня сродкаў, але тут трэба сьцерагчыся перагібаў і адміністраваньня. Аб'яднаньне сродкаў не павінна зьнішчыць ініцыятывы паасобных арганізацый і прадуглядзець такое здарэньне, каб пры мэханічным аб'яднаньні сродкаў паасобныя арганізацыі ня сталі на шкодны шлях ухіленьня ад непасрэднай палітасьветнай работы, унесшы ў агульную касу сродкі. Аднак, кожная арганізацыя павінна знаць, колькі траціць сродкаў другая і навошта. Агульны фінансавы плян павінен быць абмеркован разам усімі арганізацыямі. Тут узьнікае пытаньне, ці павінны быць палітасьветныя ўстановы: хаты

чытальні, чырвоныя куткі, радыё і г. д. толькі бюджэтныя? Не, іх могуць і патрэбна адчыняць розным арганізацыям, але пляніроўка сеткі абавязкова павінна быць разам абгаворана ўсімі арганізацыямі.

Пры аб'яднаньні сродкаў трэба захаваць поўны грамадзкі кантроль з боку ўсіх арганізацый, якія выдаткоўваюць сродкі на культурную работу. Трэба сродкі трапабудаваць так работу, каб сродкі трапціліся не адным хатнікам, а саветам хаты-чытальні, куды павінны ўвайсьці прадстаўнікі зацікаўленых арганізацый пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве з боку сельсавета або яго культсэкцыі.

Важным момантам у складаньні адзінага пляну зьяўляецца плянавае скарыстаньне сіл ня толькі штатных культпрацаўнікоў, а галоўнае актыву грамадзкіх арганізацый. Пры разьмеркаваньні аб'яднаных сіл важна правільна іх раставіць, паставіўшы мэту, каб кожны працаўнік прынёс максімум карысьці агульнай справе. Карысна будзе для пасьпяховай работы спэцыялізаваць работнікаў па асобных галінах культасьветнай работы. Напрыклад, культработнік вядзе бібліятэчную работу, вывучае яе, удасканальвае і свой вопыт перадае другім, другі грунтоўна вывучае пытаньне палітычнай асьветы, трэці— пытаньне самаадукацыі і г. д. Пры такой аб'яднанай рабоце само сабою ўзьнікае пытаньне падрыхтоўкі новых кадраў культактыва. Прыцягваючы да работы і правільна скарыстаўшы актыў батракоў, беднякоў, серадвякоў, камсамольцаў, патрэбна кожнага нагрузіць пасільнай работай, з мэтай, каб гэты актыў мог далей расьці. Стварэньне актыва і выхаваньне яго зьяўляецца важнейшай задачай у рабоце хаты-чытальні. Вырашэньне гэтай задачы дапаможа выканаць адзіны плян на карысьць сацыялістычнаму будаўніцтву. Пры такой пастаноўцы работы плян тады будзе жыцьцёвым, калі на выкананьне яго будуць мабілізаваны самыя шырокія масы працоўных. Стварэньне адзінага пляну палітасьветнай работы патрабуе чоткага кіраўніцтва для выкананьня яго. Практыка 2-х апошніх гадоў паказала, што гэтае кіраўніцтва павінна будавацца па мэтаду культпаходаў.

Вось той комплекс задач, якія павінны быць вырашаны і якія павінны зрушыць работу хат-чытален. Праца будзе пасьпяховай, калі ў выкананьні пляну будзе прымаць шчыльны ўдзел сельсавет і ў першую чаргу яго культсэкцыя. Абгаварэньне плянаў, згуртаваньне і мабілізацыя сродкаў на культработу павінны абгаварвацца ня толькі ў рабочым парадку сельсаветам, але пры шырокім удзеле мас на прэзыдыумах і пленумах. Хату-чытальню ня можна разглядаць як прыдатак, які ўмоўна патрэбен, а можа і бяз хаты-чытальні абыйсьціся, хатачытальня павінна зьявіцца неабходнасьцю для сельскага савета, як цэнтр палітыкаасьветнай работы. Гэтая работа павінна мець пэўную па зьместу ўстаноўку: на калектывізацыю, на клясавасьць, на абслугоўваньне асноўнай масы сялянства.

**С. Кандыбовіч.**

---

## Становішча КСУ і кіраўніцтва імі з боку сельсаветаў.

„Усямерна ўзмацніць таварыства сялянскай узаемадапамогі з тым, каб яны сталі сапраўды масавай арганізацыяй бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі па аказаньню ўзаемадапамогі і арганізацыі гаспадарчых мерапрыемстваў, палягчаючых становішча маламоцных сялян.

Працягваючы работу па індывідуальнай дапамозе беднаце, неабходна ўсё больш і больш накіраваць работу камітэтаў т-ваў узаемадапамогі ў бок вытворча-калектыўнай дапамогі маламоцным пластом сялянства“.

(З рэзалюцыі XV-га зьезду УсеКП(б) аб працы на вёсцы).

Камітэты Сялянскіх Т-ваў Узаемадапамогі, як адна з буйнейшых грамадзкіх арганізацый батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас на вёсцы, зараз як ніколі павінны сыграць вялікую і важную ролю ў справе дапамогі саветам у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі на аснове арганізацыі калгасаў і прасьцейшых відаў сельска-гаспадарчых вытворчых аб'яднаньняў, з адначасовым

аказаньнем дапамогі адзіналічным бяднацкім гаспадаркам.

Але, ня гледзячы на ўсё гэта, камітэты да апошняга часу яшчэ ня здолелі цалкам пераключыць сваю работу ў адпаведнасьці з усімі тымі задачамі, якія зараз пастаўлены на вёсцы, а працуюць па стараму мэтаду і ў горшым выпадку зусім не працуюць.

З усіх тых матар'ялаў, якія маюцца ў распараджэньні ЦК Красткому відаць, што мясцовыя савецкія арганізацыі як райвыканкомы і сельсаветы ўвагі да працы КСУ ніякай не зварачваюць.

У шэрагу месц, дзякуючы няўважлівых адносін з боку райвыканкому—КСУ пазбаўлены эканамічна-грашовай базы для таго, каб з посьпехам можна было праводзіць працу, якая зараз на іх ускладаецца і за гэтым самі па сабе амаль што на пярэдадні распаду.

Райвыканкомы замест дапамогі КСУ ў іх штодзённай працы, зачастую ўмешваюцца ў іх гаспадарчую дзейнасьць у напрамку ізьяцьця ад КСУ ўсіх іх як уласных і арандаваных прадпрыемстваў, пракатных пунктаў, так і наяўных грашовых сродкаў пад усякімі на гэта прычынамі. Вось некалькі фактаў:

Загадчык зем. часткі Лупалаўскага РВК т. Данілаў у час адсутнічаньня з раёну старшыні КСУ, забраў ад раённага КСУ—2651 р. і перадаў іх райкалгассаюзу і гэтым самым сарваў увесь плян будаўніцтва і рамонту прадпрыемстваў КСУ.

Прапойскі РВК сваёю пастановаю прымусіў КСУ перадаць млын, які КСУ толькі што прывёў у дзейнічаньне, затраціўшы на аднаўленьне яго свае сродкі.

На падставе пастановы Каралінскага РВК ад КСУ забрана дзьве цагельні і кузьня. Такое самае зьявішча можна бачыць у Жыткавіцкім, Чэрыкаўскім, Нараўлянскім, Тураўскім і шэрагу іншых раёнаў, асабліва на Мазыршчыне, дзе сам АВК вынес пастанову аб ліквідацыі прадпрыемстваў КСУ.

Усе гэтыя факты сьведчаць, як некаторыя савецкія кіруючыя органы адносяцца да КСУ і якое ім прыдаюць значэньне.

Да ўсяго гэтага трэба дадаць яшчэ і такі факт, калі старшыні раённага КСУ —вылучэнцу Пятрыкоўскі РВК прыпыніў выплату зарплаты і старшыня замест сваёй прамой работы, прымушан быўісьці на сэзонныя работы да сялян і зарабляць на кусок хлеба.

Ёсьць шэраг выпадкаў і такіх, калі старшынь раённых КСУ перакідаюць на другую работу, а камітэты застаўляюць па некалькі месяцаў без работніка (Астраш.-Гарадок), або прызначаюць такога, які зусім ня можа весьці гэту працу (Жлобін).

Гэта так робіцца ў самым раёне пад бокам раённых аўтарытэтных арганізацый, а што можна сказаць пра сельскія камітэты, якія на сёняшні дзень можна сказаць з упэўненасьцю знаходзяцца на палову без старшынь, ці ў лепшым выпадку амаль праз кожны тыдзень яны мяняюцца.

Усе гэта пацьвярджае тыя нядбайныя адносіны да КСУ з боку некаторых райвыканкомаў і сельсаветаў асабліва тых, якія зусім не адчуваюць адказнасьці за работу КСУ.

Усе гэтыя факты могуць самі па сабе гаварыць аб самой рабоце камітэтаў, ды і нельга ад камітэтаў лепшага чакаць пры такіх абставінах, у якіх яны зараз пастаўлены. Бязумоўна ёсьць шэраг камітэтаў, якія на сёняшні дзень сябе ўпаўне на рабоце апраўдываюць і толькі, дзякуючы таму, што на іх зьвернута тая ўвага з боку савецкіх мясцовых органаў, якая ад іх патрабуецца, але, нажаль, такіх камітэтаў надта мала.

Трэба хоць цяпер палажыць канец усім тым безадказным і нядбайным адносінам да КСУ, якія зараз наглядаюцца з боку некаторых РВК і с.-с. Трэба прыняць усе захады, каб аздаравіць работу КСУ з тым, каб апошнія сапраўды сталі актыўнымі дапаможнікамі ў правядзеньні мерапрыемстваў партыі і ўлады на вёсцы, каб яны змаглі арганізаваць сваю сяброўскую масу вакол практычнага правядзеньня ў жыцьцё тых задач, якія стаяць перад імі, асабліва па аказаньні дапамогі беднаце і батрацтву па ўцягненьню іх у калгасы і вытворчыя сельска-гаспадарчыя каапэратыўныя аб'яднаньні, па пасьпяховаму правядзеньню ўборачнай і пасеўнай кампаніі і г. д. Выканкомы і саветы павінны зараз-жа дапамагчы КСУ пераключыць іх работу на два фронты па да-

дапамозе калгасам у іх гаспадарча-арганізацыйным замацаваньні, у барацьбе з безгаспадарлівасьцю з аднаго боку і па дапамозе бядняцкім і маламоцна-серадняцкім адзінаЛічным гаспадаркам з другога. Выканкомы і саветы асабліва зараз пасьля ліквідацыі акруг і ўзмацненьня раёнаў павінны ўзмацніць свае сталае штодзённае кіраўніцтва над КСУ, павінны ім аказваць дапамогу ў справе эканамічнага іх узмацненьня, прыпыніўшы ізьяцьця ад КСУ прадпрыемстваў, павёўшы рашучае змаганьне з усякімі ліквідатарскімі настроямі і тлумачэньнямі адносна КСУ.

На прэзыдыумах Райвыканкомаў і сельсаветаў зараз-жа неабходна заслухаць справаздачы аб працы КСУ даць належнае ўказаньне ў іх далейшай працы. Таксама неабходна ўзмацніць Раённыя КСУ моцнымі работнікамі, апраўдаўшымі сябе на практычнай рабоце. Сельсаветы павінны вылучыць на работу старшынь сельскіх КСУ перадавых батракоў і беднякоў, пазбавіўшыся ад тых непрацаздольных асоб, якія ў КСУ не працуюць, а толькі шкодзяць працы.

Неабходна зараз па сканчэньні апэрацыйнага году дапамагчы КСУ ў справе наладжваньня вучоту сродкаў і фондаў, правёўшы дасканалае абсьледваньне дзейнасьці КСУ за гэты год. Неабходна дапамагчы КСУ ў зборы насеннай пазыкі, якая выдавалася ў вясну і мінулыя гады і мабілізаваць увесь актыў сельсавету на дапамогу КСУ ў спагнаньні сяброўскіх узносаў, арганізацыі грамадзкай запашкі землучасткаў, наладжваньні работы на прадпрыемствах і пракатных пунктах. Неабходна дапамагчы КСУ ў складаньні плянаў працы, каштарысаў і г. д. Разам з гэтым Райвыканкомы павінны дабіцца ад усіх раённых арганізацый патрэбнай увагі КСУ і з свайго боку пры абглядзе работы сельсавета правяраць работу і камітэтаў. Неабходна дабіцца таго, каб кожны член РВК пры выезьдзе ў сельсавет дапамог КСУ ў яго рабоце. Райкалгассаюзу неабходна завастрыць увагу перад калгасьнікамі—старшынямі КСУ аб лепшай увазе да працы КСУ, паставіўшы перад праўленьнямі калгасаў аб аслабаненьні старшыні КСУ—калгасьніка ад другіх грамадзкіх нагрузак, а таксама стварыць умовы для яго работы ў КСУ.

Толькі тады, калі ўсе раённыя арганізацыі і мясцовыя саветы зьвернуць на КСУ патрэбную ўвагу, толькі тады, калі самі райвыканкомы стануць на чале барацьбы з ліквідатарствам і прыпыняць беззаконнае ізьяцьце ад КСУ прадпрыемстваў і наадварот будуць ім дапамагаць у справе іх пашырэньня, КСУ стануць сапраўднымі дапаможнікамі саветам у справе правядзеньня ў жыцьцё тых задач, якія зараз стаяць на вёсцы, толькі тады яны змогуць мабілізаваць усе батрацкія і бядняцка-серадняцкія масы на актыўны ўдзел у сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі, на ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі.

**П. Асіпчык.**

# Забясьпечыць клясавы падбор выбарчых камісій.

## Да арганізацыі выбарчых камісій.

Паводле пастановы Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР ад 12 кастрычніка г. г. чарговыя перавыбары саветаў павінны быць праведзены ў наступныя тэрміны: сельскіх і местачковых саветаў—на працягу сьнежня месяца 1930 г.; Менскага, Віцебскага і Гомельскага гарсаветаў, якія падпарадкаваны непасрэдна ЦВК—у пэрыяд з 10 студзеня па 10 лютага 1931 г.; іншых гарадзкіх саветаў—на працягу студзеня месяца 1931 г.; раённыя зъезды саветаў праводзяцца ў пэрыяд з 1 студзеня па 15 лютага 1931 г.

Прэзыдыум ЦВК БССР арганізаваў Цэнтральную Выбарчую Камісію, вызна-

чыў колькасны склад раённых, гарадзкіх, сельскіх і местачковых выбарчых камісій і зьцьвердзіў старшынь раённых і гарадзкіх (падпарадкаваных ЦВК гарадоў) выбарчых камісій, прапанаваў раённым выканаўчым камітэтам і ўсім саветам арганізаваць выбарчыя камісіі на мясцох, забясьпечыўшы нармальнае разгортваньне іх работы.

Арганізацыя мясцовых выбарчых камісій зьяўляецца справай вялікай важнасьці. Выбарчыя камісіі прызваны для арганізацыі і правядзеньня важнейшай палітычна-масавай кампаніі, пасьпяховасьць якой будзе залежаць ад іх працаздольнасьці і палітычнай падрыхтаванасьці, ад таго, наколькі яны змогуць мабілізаваць на правядзеньне выбараў у саветы ўсю масу рабочых калгасьнікаў, батракоў, беднаты і серадняцтва.

У сучасны рэканструкцыйны пэрыяд нам патрэбны такія саветы, якія сапраўды, павярнуўшыся тварам да вытворчасьці, да саўгасаў і калгасаў, забясьпечвалі б далейшыя і шпарчэйшыя тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва.

Выбарчыя камісіі павінны быць здольнымі для таго, каб арганізаваць навакол саветаў усю рабочую масу, батрацтва, калгасьнікаў, сялян беднякоў і сераднякоў, даць рашучы адпор клясаваму ворагу, які будзе імкнуцца скарыстаць гэту кампанію ў сваіх мэтах. Склад выбарчых камісій павінен быць у поўнай меры забясьпечаны партыйным кіраўніцтвам, рабочым і батрацка-бядняцкім асяродкам. Такія камісіі, бясспрэчна, будуць здольнымі выканаць пастаўленую перад імі задачу.

Раённыя выканаўчыя камітэты павінны неадкладна паклапаціцца аб утварэньні пры ўсіх гарадзкіх, сельскіх і местачковых саветах выбарчых камісій, з тым, каб яны зараз-жа прыступілі да падрыхтоўчай работы.

Згодна існуючага палажэньня сьпісы выбаршчыкаў і асоб, пазбаўленых выбарчага права, саветамі павінны весьціся стала, але яны на заўсёды і ўсюды вядуцца. У часе частковых перавыбараў у гэтым годзе высьветлілася, што некаторыя саветы своечасова не рабілі адпаведных адзнак аб зьменах, якія адбываліся ў складзе выбаршчыкаў. Дзякуючы гэтаму некаторым выбаршчыкам ня ўручаліся позвы на выбарчыя сходы і таму яны заставаліся ня ўключанамі ў сьпісы выбаршчыкаў. Разам з гэтым выпісваліся і пасылаліся позвы тым выбаршчыкам, якія ўжо выбылі на новае месца жыцьця (з гэтага савету) і нават памёршым.

З асаблівай увагай выбарчыя камісіі пры сельсаветах павінны аднесьціся да праверкі і складаньня сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права.

Трэба дамагчыся таго, каб ніводная асоба, якая згодна севецкага выбарчага заканадаўства павінна быць пазбаўлена выбарчых правоў, не карысталася імі, не дапускаючы ніякіх адступленьняў ад існуючых выбарчых законаў у бок незаконнага пазбаўленьня некаторых выбарчых правоў, як гэта наглядалася ў часе частковых перавыбараў саветаў у 1930 г. Выбарчыя камісіі павінны памятаць, што парушэньні выбарчых законаў — на руку нашаму клясаваму ворагу.

Ня лішнім зьяўляецца напамінак пра складаньне і своечасовае прадстаўленьне выбарчай справаздачнасьці ў вышэйстаячыя выканаўчыя камітэты і кіруючыя органы. Да складаньня іх трэба адносіцца з усёй сур'ёзнасьцю. У мінулыя выбарчыя кампаніі і асабліва ў кампанію частковых перавыбараў саветаў у 1930 годзе, некаторыя саветы і райвыканкомы выбарчай справаздачнасьці належнай увагі не аддавалі. Дзякуючы гэтаму, канчатковыя весткі і вынік аб перавыбарах складаліся з вялікімі спазьненьнем. Некаторыя саветы і райвыканкомы складалі і дасылалі гэтыя весткі ў вышэйстаячыя выканкомы з памылкамі, што зацягвала складаньне канчатковых вынікаў. Усе гэтыя недахопы павінны быць улічаны і выпраўлены.

**П. Ягаўдзік.**

# Вывучайце выбарчае законадаўства.

У перавыбарчую кампанію 1929 году нізавымі органамі савецкай улады быў дапушчаны шэраг буйных перагібаў і памылак у галіне прыстасаваньня выбарчага законадаўства да паасобных выпадкаў. У пачатку 1930 году, калі праводзіліся частковыя перавыбары нізавых саветаў гэтыя памылкі і перагібы ня толькі ня былі выпраўлены, але ў некаторых мясцох былі яшчэ дапоўнены шэрагам новых перагібаў. Гэта здарылася дзякуючы „галавакружэньню ад посьпехаў" і таму, што наша выбарчае законадаўства не вывучалася, не прапрацоўвалася работнікамі на мясцох. Гэта выклікала выданьне ЦВК Саюзу ССР спэцыяльнай пастановы ад 22 сакавіка 1930 году „Аб зьнішчэньні парушэньняў выбарчага законадаўства Саюзу ССР" і выданьне такой-жа пастановы за 17 красавіка 1930 году з боку Прэзыдыуму ЦВК БССР.

Прэзыдыум ЦВК Саюзу ССР, зацьвярджаючы 3-га кастрычінка гэтага году новую інструкцыю аб выбарах у саветы, зноў напомніў, што „цэнтральныя і мясцовыя органы савецкай улады пры выбарах у саветы павінны з усёй рашучасьцю змагацца з парушэньнямі выбарчага законадаўства Саюзу ССР, не дапушчаючы незаконнага адхіленьня працоўных ад выбараў у саветы і сурова захоўваючы пастанову Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 22 сакавіка 1930 году".

Саюзная інструкцыя аб выбарах у саветы за 3 кастрычніка г. г. зьяўляецца „адзіным па ўсім Саюзе ССР выбарчым законадаўствам". Якія-небудзь зьмены яе могуць рабіцца толькі з дазволу Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР. Гэта ня значыць, што саюзныя рэспублікі ня маюць права выдаваць свае інструкцыі, але ў поўнай суадпаведнасьці з саюзнай інструкцыяй. Гэта значыць, што прынцыпы саюзнай інструкцыі зьяўляюцца абавязковымі для ўсяго Саюзу ССР. Такое становішча значна палягчае задачу азнаямленьня і вывучэньня выбарчага законадаўства. Дакладная прапрацоўка выбарчага законадаўства на мясцох і асаблівая ўвага згуртаванасьці і арганізаванасьці рабочых, батракоў і беднаты вакол усіх пытаньняў, зьвязаных з перавыбарамі саветаў, зьяўляюцца гарантыяй правільнага прыстасаваньня выбарчага законадаўства.

Новая інструкцыя аб выбарах у саветы не пашырае кола асоб, якія пазбаўляюцца выбарчых правоў. Адначасова з гэтым, інструкцыя значна ўдакладняе адзнакі кулацкіх гаспадарак. У гэтай частцы інструкцыя прыведзена ў поўную суадпаведнасьць з законам аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку. Правіла саюзнай інструкцыі 1926 году аб тым, што асноўнай адзнакай працоўнай гаспадаркі, калі яна ўжывае ў вызначаных выпадках наймовую працу, зьяўляецца дапаможны характар наймовай працы і абавязковы ўдзел у штодзённай рабоце наяўных працаздольных членаў данай гаспадаркі, —пакінута бяз зьмен і ў новай інструкцыі. Апошняя больш дакладна вызначае кола тых асоб, якія ня могуць быць пазбаўлены выбарчых правоў.

У адносінах да серадняка. Выбарчых правоў не пазбаўляюцца, напрыклад, калі яны, зразумела, не пазбаўляюцца іх па іншых падставах: сяляне, якія адыходзяць на сэзонныя заробкі і іх сем'і, якія наймаюць на час ухаду селяніна аднаго рабочага; рабочыя фабрык і заводаў, якія не парвалі сувязь з сельскай гаспадаркай і якія наймаюць у сваёй гаспадарцы ня больш аднаго рабочага; сяляне, якія прадаюць на рынак прадукты свае вытворчасьці; уласьнікі розных прадпрыемстваў без мэханічных рухавікоў, якія ня ўжываюць наймовай працы і не закабаляюць вакольнае насельніцтва, шляхам здачы работ яму на дом.

Інструкцыя падкрэсьлівае, што пазбаўленьне выбарчага права можа рабіцца выключна на падставе дакумантальных даных. Інструкцыя ўпяршыню ўстанаўляе розьніцу між „аднаўленьнем у выбарчых правох" і „выключэньнем са сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў", гэта значыць такімі выпадкамі, калі асоба, якая павінна на падставе выбарчага законадаўства карыстацца выбарчымі правамі, няправільна занесена ў сьпісы пазбаўленых. У апошнім выпадку акт „аднаўленьня ў выбарчых правох" зусім не патрэбен і той орган савецкай

улады, які зацьверджае сьпісы (райвыканком, або Гарсавет) сам выпраўляе зробленую памылку.

Гэтыя моманты вымагаюць падрабязнага азнаямленьня з выбарчым заканадаўствам усіх тых асоб, якія проста або пабочна будуць мець дачыненьне да выбарчай справы. Ад мясцовых органаў улады, ад выбарчых камісій патрабуецца самае дакладнае веданьне інструкцыі аб выбарах у саветы, а для гэтага яна павінна быць ня толькі прачытана, але і дасканала вывучана, у першую чаргу старшынямі мясцовых выбарчых камісій.

А. П.

**Пільна сачыць, каб кулак ня прымаў удзелу ў выбарах. Не дапушчаць перагібаў у адносінах да серадняка. Дакладна вывучыць выбарчае законадаўства.**

## За рацыяналізацыю інфармацыі.

У сувязі з ліквідацыяй акруг у сучасны пэрыяд асабліва важнае значэньне набывае пытаньне рацыянальнай пастаноўкі інфармацыйнай работы савецкага апарату, якая зьяўляецца зьвязваючым зьвяном цэнтральных органаў з нізавымі савецкімі зьвеньнямі.

Па сваёй ролі інфармацыя канцэнтруе шмат матар'ялу, які атрымоўваецца з месц і патрабуе такое апрацоўкі, на падставе якое мелася-б магчымасьць плянавага кіраўніцтва нізавымі савецкімі органамі, вывучэньня арганізацыйнага становішча і дзейнасьці яго, выяўленьня чарговых задач савецкага будаўніцтва і прапрацоўка неабходных для гэтага мерапрыемств.

Асноўнымі мэтаю і задачамі інфармацыі зьяўляюцца: а) сваечасовае асьвятленьне ўсіх кіруючых пастаноў прэзыдыуму, пленуму, камісіі і сэкцыі; б) глыбокае вывучэньне і асьвятленьне ўсіх фактаў практычнае работы савецкіх органаў як станоўчага, так і адмоўнага характару; в) распрацоўка пэрыядычных інфармацыйных сводак, справаздач, даведак, адбіваючых найбольш актуальныя пытаньні і заданьні як па плянава-гаспадарчай рабоце наогул, так і па пасобных кампаніях (перавыбары саветаў, хлебанарыхтоўкі, мабілізацыя фінансавых сродкаў і г. д.); г) асьвятленьне недахопаў у рабоце асобных РВК, сельсаветаў і гарсаветаў, выяўленых у працэсе абсьледваньня іх працы; д) інфармаваньне вышэйстаячых органаў па розных пытаньнях арганізацыйна-гаспадарчага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва раёну; е) інфармаваньне працоўнага насельніцтва праз прэсу як цэнтральную, так і мясцовую аб становішчы розных галін працы.

Існуючае становішча інфармацыі надзвычайна нездавальняючае, ня маецца пэўнай сыстэмы і напрамку інфармацыйнай работы як цэнтральных, так і раённых устаноў. Паступаючыя зараз з раёнаў матар'ялы накапляюцца бяз пляну, дзякуючы чаму вельмі затрудняецца распрацоўка матар'ялаў і належных вынікаў з іх немагчыма зрабіць. Сводкі і справаздачы складаюцца не па выпрацованым раней пляну і схэмам, што ўносіць у працу выпадковасьць і бяссыстэмнасьць. Кантроль за паступленьнем матар'ялаў адсутнічае зусім, рацыянальнай сыстэматызацыі матар'ялаў ня маецца і захоўваньне іх знаходзіцца ў зусім нездавальняючым становішчы.

Такое становішча інфармацыйнай работы, асабліва ў раёнах, абавязвае нас заняцца пытаньнем рацыяналізацыі інфармацыі, тым больш, што пасьля ліквідацыі акруг увесь цяжар работы пры-

падае на РВК і сельсаветы, якім неабходна штодзённае кіраўніцтва з боку цэнтральных установаў і наркаматаў.

Ад райвыканкомаў зараз з усіх бакоў патрабуецца справаздачы, сводкі па ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва. Мы зараз ня знойдзем ніводнага наркамату ці цэнтральнай установы, якая-б не патрабавала ад РВК па тэй ці іншай галіне справаздачнасьці або інфармацыі аб становішчы працы. РВК гэтымі запатрабаваньнямі настолькі загружаюцца, што не заўсёды могуць улічыць іх, каб заранеі падрыхтаваць для гэтага неабходны матар'ял, адсюль нізкая якасьць прысылемаых справаздачных і інфармацыйных зьвестак, з прычыны чаго не заўсёды можна іх у дастатковай меры выкарыстоўваць, а тым болей, калі паступаюць яны з вялікім спазьненьнем.

Паступленьне інфармацыйных матар'ялаў павінна праходзіць выключна ў плянавым парадку па ўстаноўленаму пераліку без дапушчэньня ўсякага роду экстраардзінарных і ўсякіх іншых запытаньняў, бо ўсё апошняе адбіваецца на якасьці матар'ялаў і зьніжае іх каштоўнасьць.

Інфармацыйныя матар'ялы павінны адпавядаць наступным асноўным запатрабаваньням: а) яснасьць, канкрэтнасьць і кароткі зьмест; б) абаснаванасьць фактаў прыкладамі, лічбамі, пастановамі і г. д.

Неабходна ўстанавіць мінімум матар'ялаў, якія патрабуюцца з месц. Гэтыя матар'ялы павінны быць падзелены на дзьве часткі: 1) спэцыяльныя справаздачы, якія паступаюць у парадку абавязковай справаздачнасьці і 2) унеплянавыя матар'ялы, як напрыклад: газэтныя вырэзкі, даклады інструктарскіх абсьледваньняў, інфармацыйныя сводкі і інш.

Матар'ялы першай часткі павінны атрымлівацца ў строга ўстаноўленыя тэрміны ў плянавым парадку і па раней распрацаваным схэмам.

Як прыклад, ніжэй прыводзіцца схэма сводкі аб выніках пасеўнай кампаніі.

## Схэма сводкі аб выніках пасеўнай кампаніі.

### I. Падрыхтоўчая работа.

1. Характарыстыка плянаў пасеўнай кампаніі раёну, сельсаветаў пад пунктам гледжаньня:

а) адбітку ў іх усіх дырэктыў партыі і ўраду па пытаньнях сельскай гаспадаркі;

б) вучоту плянам вытворчых магчымасьцяй пашырэньня пасеўных плошчаў і другіх мерапрыемстваў у галіне сельскай гаспадаркі;

в) ахопу плянам пытаньняў выкарыстаньня сельска-гаспадарчага інвэнтару і прыцягненьня да прапрацоўкі плянаў розных арганізацый.

### II. Агітацыйна-растлумачальная работа.

а) Якія формы і мэтады правядзеньня растлумачальнай работы па асноўных задачах сельскай гаспадаркі.

б) Лічбовыя даныя аб колькасьці сходаў, нарад з паказаньнем па якіх канкрэтных пытаньнях яны зьбіраліся, колькасьць удзельнікаў з падзелам іх па полу і сацыяльнаму становішчу.

в) Як практычна прапрацоўваўся плян пасеўнай кампаніі, формы і мэтады давядзеньня пляну да нізавых зьвеньняў.

г) Роля і ўдзел грамадзкіх арганізацый у правядзеньні агітацыйна-растлумачальнай работы, роля і ўдзел школ, хат-чытальняў і другіх культурных установаў і сіл вёскі, а таксама саўгасаў і калгасаў.

### III. Клясавая барацьба.

а) Праца з беднатой, формы і мэтады гэтай работы. Лічбовыя даныя аб сходах, нарадах, наведваемасьці, якія пытаньні прапрацоўваліся, актыўнасьць беднаты.

б) Актыўнасьць батрацтва і работа з ім (паказаць лічбы).

в) Настрой серадняцкай масы вёскі. Характарыстыка адносін серадняка да мерапрыемстваў партыі і ўраду, актыўнасьць серадняка і выкананьне плянаў.

г) Адносіны кулацтва і другіх антысавецкіх элемэнтаў да мерапрыемстваў у галіне сельскай гаспадаркі, формы і мэтады барацьбы. Роля падкулачнікаў.

д) Адносіны беднаты і серадиякоў да выступленьняў кулацтва.

е) Канкрэтныя факты кулацкіх выступленьняў, моманты эканамічнага ўзьдзейнічаньня і закабаленьня.

**IV. Роля саветаў у арганізацыі сельскай гаспадаркі і правядзеньні пасеўных кампаній.**

а) Характарыстыка работы саветаў, правядзеньне пасеўнай кампаніі пад пунктам гледжаньня кіраўніцтва (паказаць лічбы).

б) Як саветы забясьпечылі ўцягненьне ўсіх членаў саветаў у правядзеньні практычных работ.

в) Характарыстыка ролі саветаў у арганізацыі мас па выкананьні мераприемстваў пасеўнай кампаніі.

г) Асноўныя вывады аб ролі саветаў, як арганізатараў калектывізацыі сельскай гаспадаркі.

**V. Ліквідацыя агроняпісьменнасьці.**

а) Ці былі праведзены курсы па ліквідацыі агроняпісьменнасьці? Іх колькасны і якасны склад, вынікі работы курсаў, практычнае выкарыстоўваньне слухачоў курсаў.

б) Арганізацыя таварыства ліквідацыі агроняпісьменнасьці, колькасьць ячэяк, сяброў іх? Якая практычная работа праводзіцца і праведзена.

в) Гурткі сельска-гаспадарчых ведаў, колькасьць іх, якасьць работы і колькасьць слухачоў у іх.

г) Работа хат-чытален і школ у гэтай працы, прыцягненьне культурных сіл вёскі і асабліва настаўніцтва.

**VI. Дапамога гораду вёсцы ў правядзеньні кампаніі.**

У чым яна канкрэтна выразілася.

**VII. Практычнае выкананьне пасеўнага пляну.**

а) Разьмеры крэдытаў па ўсіх відах. Іх разьмеркаваньне. Выпадкі скрыўленьня клясавай лініі. Недахопы ў правядзеньні крэдытаваньня.

б) Скарыстаньне с.-г. інвэнтару ў заможных груп. Формы і разьмеры.

в) Машынаснабжэньне, лічбы аб выкананьні плянаў.

г) Тэх. дапамога.

д) Пракатныя пункты і іх работа. Колькасьць уноў арганізаваных пунктаў. Групы беднаты вакол гэтых пунктаў.

е) Насенныя фонды (лічбы выкананьня пляну). Насендапамога і яе разьмеры.

ж) Трактарныя калёны, іх роля ў арганізацыі калгасаў, колькасьць іх.

з) Зернаачыстка, разьмеры, выкананьне плянаў.

і) Кантрактацыя, лічбы аб выкананьні плянаў. Уплыў кантрактацыі на вытворчае каапэраваньне. Як праведзена работа па заключэньні дагавораў на падняцьце ўраджайнасьці.

к) Выкананьне аграмінімуму.

**VIII. Агульныя вывады.**

Атрымліваемыя такім чынам справаздачы павінны ў межах гэтае схемы абагульвацца і рассылацца зацікаўленым установам у выглядзе сводак, аглядаў і г. д.

Адначасова з абагульваньнем плянавых матар'ялаў яны карэктуюцца матар'яламі другой часткі—унеплянавымі.

Як першай, так і другой часткі матар'ялы павінны адпаведным чынам індэксавацца, згодна распрацаванаму па дзесятковай сыстэме класіфікатару.

Як схэмы, так і класіфікатар павінны быць распрацаваны па аднолькавай сыстэме і прынцыпу для РВК і цэнтральных установ і наркаматаў, гэта дасьць магчымасьць чоткай пастаноўкі інфармацыйнай работы зьнізу да верху, а таксама зьнішчыць бяссыстэмнасьць і бязплянвасьць яе, палепшыць якасьць матар'ялаў і выслабаніць нізавыя зьвеньні савецкага апарату ад дзерганьня рознага роду запатрабаваньнямі аб прадстаўленьні зьвестак.

Наладжваньне інфармацыйнай работы як на мясцох, так і ў цэнтры неабходна зараз, больш чым калі-б та ні было яшчэ таму, што ліквідацыя акруг зараз ставіць рубам пытаньне аб якасьці кіраўніцтва нізавым савецкім апаратам. Пры наяўнасьці налажанай інфармацыі гэта задача аблягчаецца тым, што тут можна наладзіць шырокі абмен вопытам работы паміж асобнымі райвыканкомамі і саветамі, на падставе налажанай чоткай інфармацыйнай работы мы зможам заняцца накапленьнем гэтага во-

пыту і вывучэньнем нашага апарата з мэтай яго далейшага спрашчэньня і рацыяналізацыі і пераносу лепшых прыкладаў работы ва ўсе ўстановы.

Разам з гэтым неабходна прыняць меры да разьмяжаваньня інфармацыйнай работы паміж ЦВК і другімі цэнтральнымі ўстановамі і наркаматамі такім чынам, каб у ЦВК непасрэдна канцэнтраваліся матар'ялы арганізацыйна-масавай работы саветаў і савецкага будаўніцтва, а ў астатніх цэнтральных установах і наркаматах па галінах іх дзейнасьці, прычым апошнія павінны будуць для поўнага асьведамленьня ЦВК аб ходзе работы па іх галінах, прадстаўляць ва ўстаноўленыя тэрміны сводкі, якія імі складаюцца на падставе матар'ялаў РВК і другіх арганізацый.

Русовіч.

# Лепшы падарунак XIII Кастрычніку —датэрміновае выкананьне хлебазагатовак.

## Хлебазагатоўчая кампанія на вёсцы.

*(Па матар'ялах друку).*

У хлебазагатоўчую кампанію гэтага году на долю райвыканкомаў і сельсаветаў выпала вялізарнейшая задача—арганізаваць на вёсцы поўнае выкананьне плянавых заданьняў да тэрміну з тым, каб забясьпечыць нашы прадпрыемствы спрыяючымі ўмовамі для выкананьня праграмы 3-га году пяцігодкі.

Выкананьне гэтае задачы ўзлажыла на райвыканкомы і асабліва на сельсаветы вялікую адказнасьць і запатрабавала ад іх максымальнай актыўнасьці на мабілізацыю усіх сіл савецкага актыву на сваёй тэрыторыі для правядзеньня гэтае кампаніі, бо толькі пры ўмове актыўнага ўдзелу нізавых зьвеньняў савецкіх органаў і ўсяе беднаты і калгасьнікаў можна ў гэтую кампанію дасягнуць сталых вынікаў. Аднак, гэта бясспрэчнае палажэньне надзвычайна дрэнна ўсвоена большасьцю сельсаветаў, аб чым з ўсёю відавочнасьцю сьведчаць зусім нездавальняючыя вынікі ходу выкананьня хлебазагатоўчай кампаніі. Паступаючыя з мест весткі аб ходзе хлебазагатовак зьяўляюцца трывожнымі сыгналамі. Яны паказваюць такі малюнак, што саўгасы за першую пяцідзёнку кастрычніка выпаўнілі свайго заданьня 1,3 проц. і за ІІ-ю—4,8 проц., а разам за І-ю дэкаду кастрычніка—6,1 проц. Калгасы за І-ю пяцідзёнку выпаўнілі 3,3 проц., за ІІ-ю—7,8 проц. і разам—11,1 проц. Адзіналічны сэктар за першую пяцідзёнку выканаў 24,2 проц., за ІІ-ю—18,3 а разам за І-ю дэкаду—42,5 проц.

Гэтыя лічбы гавораць, што саўгасы і калгасы хоць і даюць недапушчальна маленькую лічбу па выкананьню месячнага пляну, аднак, у другую пяцідзёнку ў іх маецца павялічэньне, тады, як па індывідуальнаму сэктару за гэты тэрмін наглядаецца зьніжэньне. Гэта дэкада паказвае, што сацыялістычны сэктар ня стаў яшчэ на чале хлебазагатовак.

Паасобныя факты з некаторых раёнаў і сельсаветаў гавораць, што прычынаю такога нізкага выкананьня хлебазагатовак зьяўляецца апартуністычная стаўка на самацёк. У пацьвярджэньне апошняга прывядзём наступныя даныя. Лоеўскі раён на 1 кастрычніка выканаў плян загатовак толькі на 26 проц. Сельсаветы гэтага раёну зусім ня ўключыліся ў правядзеньне хлебазагатовак і бязьдзейнічалі. Бедната зусім ня была арганізавана вакол пытаньня наступу на кулака, чым была дадзена магчымасьць апошняму весьці работу ў напрамку зрыву хлебазагатоўчай кампані ў гэтых сельсаветах. Калі прыняць пад увагу, што Дняпроўская камуна дадзеныя ёй заданьні выканала амаль на 200 проц. па збожжу і 300 проц. па бульбе і больш-менш сталая работа Перадзель-

скага сельсавету, які свой гадовы плян выканаў на 1 кастрычніка на 53 проц., дык справа па выкананьню хлебазагатовак у гэтым раёне будзе яшчэ горшаю. Лоеўскаму райкалгассаюзу выкананьне Дняпроўскаю камунаю свайго пляну хлебазагатовак неабходна шырока папулярызаваць сярод працоўных мас раёну і прыняць захады к прэміраваньню яе.

У Веткаўскім раёне па 5 сельсаветах хлебазагатоўкі не даведзены да кулацкага двара. Побач з сельсаветамі гэтага раёну, якія выканалі плян: Няхлюбскі—22 проц., Калінінскі—20 проц., Ахтымскі—21 проц., маюцца і такія сельсаветы, што свае пляны перавыканалі: Старасельскі—117, Радуцкі—117 і Хомчанскі—103 проц.

У Слуцкім раёне—жытніцы БССР, у вёсцы Квасынічы Камісія садзейнічаньня замест давядзеньня хлебазагатовак да кулацкага двара, давяла іх да серадняка. Шмат заможных гаспадарак, ня гледзячы на лепшы ўраджай, у гэтым годзе атрымала меншую норму, чым у мінулым годзе (Мурашкевіч Цімох здаваў у мінулым годзе 100 пудоў, цяпер прызначана—40, Шулякоўскому Алесю замест 50 пудоў мінулага году, цяпер вызначылі толькі 20 пудоў). У вогуле па гэтаму раёну замест вызначаных па пляну 400 тон у першую пяцідзёнку кастрычніка, здадзена толькі 148 тон.

У Бабруйскім раёне рабочымі брыгадамі ў Хімаўскім сельсавеце выкрыта такое агіднае зьявішча што сельсаветам плян хлебазагатовак нават не даведзен да паасобных вёсак, хоць сходы нібы аб гэтым і праводзіліся. Рабочай брыгадзе прышлося гэту справу праводзіць нанова. Сельсавет у гэтым амаль ніякага ўдзелу ня прымаў. Старшыня гэтага сельсавету ад справы хлебазагатовак ухіляецца. Яму было даручана правесьці сход у вёсцы Хімок, але гэтага сходу ў вызначаныя 2 дні ён не правёў, а палічыў больш карысным для сябе пайсьці ў лазьню і калі ў яго запыталі, як ідзе па сельсавету справа з хлебазагатоўкамі, дык адказаў, што ён яшчэ не атрымаў зьвестак ад членаў сельсавету. Побач з такімі нядбайна адносячымііся да справы маюцца і такія, як Сенажатаўскі сельсавет, дзе на хлебазагатоўчую кампанію арганізавана ўся грамадзкасьць і здача праходзіць калектыўным парадкам з выклікам на сацспаборніцтва суседніх сельсаветаў (вёска Антушы і Гарбачэўская Слабада калектыўна здалі 76 цэнтнераў хлеба на ст. Чырвоны Бераг і выклікалі на сацспаборніцтва па хутчэйшаму выкананьню пляну хлебазагатовак суседнія вёскі Казіміраўскага с-савету. Вёска Барбарава здала чырвоным абозам 233 цэнтн. збожжа).

У вёсцы Півашы, Старобінскага раёну цьвёрдыя заданьні па здачы хлеба даведзены да серадняцкіх двароў, а кулакі абойдзены, так напрыклад: кулакі Шчука Андрэй, Ермалінскі Дзьмітрок і інш. здалі толькі па 7-8 пудоў, тады як яны могуць здаць па 400—500 пуд. Атрымалася гэта ад таго, што вакол гэтага пытаньня не арганізавана бедната, а члены с-савета гэтай вёскі знаходзяцца пад уплывам памянёных кулакоў.

У Полацкім раёне ў справе выкананьня заданьняў па хлебазагатоўкам ганебна адстаюць: Юравіцкі, Баярскі, Бельскі і Міхайлоўскі с-саветы, якія ў сярэднім выканалі гадавое заданьне толькі на 16 проц. Загатоўкі па гэтым сельсаветам праходзяць самацёкам. Старшыня Юравіцкага сельсавету замест таго, каб займацца арганізацыяй работы па здачы хлеба, часта знаходзіцца ў Юравіцкім спажывецкім т-ве і чакае пакуль хто-небудзь прывязе для здачы хлеб, каб яго прыняць. У гэтым раёне таксама маюцца і такія сельсаветы, дзе справа па хлебазагатоўкам праходзіць ня дрэнна, так напрыклад, Сосніцкі сельсавет свой плян перавыканаў на 5 тонаў.

У Ветрынскім раёне Заскарскі сельсавет яшчэ да гэтых пор ня здаў ні воднага цэнтнера. У Вушацкім раёне першае месца па выкананьні хлебазагатовак займае Кубліцкі сельсавет, які да 1 кастрычніка па ўсім відам хлебазагатовак гадавы плян выканаў на 72 проц. Беднатa тут прымала актыўны ўдзел у выкананьні гэтага пляну і давала рашучы адпор усім кулацкім вылазкам.

Можна было-б яшчэ прывесьці цэлы шэраг фактаў дрэннай работы сельса-

ветаў у справе хлебазагатовак, але і пераліčаныя даволі характарызуюць ганебнае становішча справы ў гэтай галіне значнай часткі сельсаветаў.

Усё гэта гаворыць, што асноўная маса нізавых зьвеньняў савецкіх органаў яшчэ як сьлед не разварушылася і не разгарнула работы па здачы хлеба дзяржаве, а чакае дапамогі ў гэтай справе з раёну, з цэнтру, каб у вачох мясцовага насельніцтва заставацца „добрымі", зваліўшы ўсю віну ў гэтым на прыехаўшых у сельсавет упаўнаважаных. Такія шкодныя для справы думкі пазбаўляюць сельсавет стаць поўнаўласным гаспадаром на сваёй тэрыторыі і зацягваюць справу з хлебазагатоўкамі на доўгі час, бо не ў забаве ад васеньніх дажджоў папсуюцца дарогі і яшчэ цяжэй будзе справіцца з гэтай работай.

Разгорнутыя тэмпы работы па выкананьню праграмы 3-га рашаючага году пяцігодкі ставяць перад саветамі задачу скончыць хлебазагатоўкі раней вызначанага плянам тэрміну, каб як мага хутчэй аслабаніць савецкі і каапэратыўны апарат ад гэтай работы і даць яму магчымасьць перайсьці к пасьпяховаму выкананьню іншых задач па сацыялістычнаму будаўніцтву.

Папярэднія факты паказваюць, што там дзе сельсаветы павярнуліся тварам да хлебазагатовак, ужо гэтая кампанія з посьпехам закончана і гэтыя сельсаветы цалкам могуць аддацца перабудове сельскай гаспадаркі. Што-ж павінны зрабіць адсталыя ў гэтым сельсаветы, каб зьліквідаваць маючыяся ў іх прарывы? Усім такім сельсаветам патрэбна безадкладна склікаць групы беднаты і абгаварыць на іх становішча хлебазагатоўчае кампаніі па сельсаветам. На падставе прапаноў групы беднаты выпрацаваць канкрэтныя заданьні кожнаму члену сельсавета і кожнаму савецкаму актывістаму і вынесьці іх на абгаварэньне пашыраных пленумаў сельсавету, якія склікаць да 1 лістападу з тым, каб паставіць перад кожным удзельнікам пленуму задачу поўнага выкананьня хлебазагатоўчага пляну к 13-й гадавіне Кастрычнікавай рэвалюцыі. Па тым вёскам, дзе плянавыя заданьні яшчэ не даведзены да кулацкага двара, неабходна сумесна з мясцовымі партыйнымі ячэйкамі правесьці сходы беднаты і выявіць усе кулацкія і заможныя гаспадаркі і, вызначыўшы ім сталыя кантрольныя лічбы, прасачыць за безадкладным выкананьнем іх. Пры гэтым кожнаму сельсавету трэба памятаць, што хлебазагатоўчая кампанія ўнясе новае абвастрэньне клясавае барацьбы на вёсцы праз новыя вылазкі з боку кулацтва і іх прыхільнікаў для таго, каб перашкодзіць выкананьню плянавых заданьняў. Усе гэтыя спробы неабходна своечасова выяўляць праз сталую арганізацыю беднаты і ў кожным выпадку даваць гэтым вылазкам рашучы адпор. Усе рашэньні сходаў беднаты выносіць на агульныя сходы сялян і дабівацца безадкладнага правядзеньня іх ў жыцьцё. Сельсаветы павінны ўсю работу па хлебазагатоўкам арганізаваць так, каб яе праводзілі ўсе члены сельсавету з поўнаю адказнасьцю за правідловае і клясавае ажыцьцяўленьне хлебазагатоўчага пляну. Члены сельсавету павінны быць прыкладам у гэтай справе для рэшты працоўнага сялянства свайго выбарчага участку. Кожны член сельсавету аб усялякіх нават і дробных перашкодах у хлебазагатоўках павінен паведамляць прэзыдыум альбо старшыню сельсавета, якія ў сваю чаргу павінны прымаць усе меры для зьліквідаваньня гэтых перашкодаў. Работа прэзыдыуму і старшыні сельсавета павінна галоўным чынам заключацца ў арганізацыі і праверцы выкананьня заданьня кожным членам сельсавета. Рэвізійным камісіям пры сельсаветах неабходна над справаю хлебазагатовак арганізаваць увесь актыў батрацтва, беднаты, калгасьнікаў і серадмякоў для шырокага грамадзкага кантролю і ўсе выяўленыя памылкі зараз-жа выносіць на разгляд прэзыдыуму сельсавета для своечасовага выпраўленьня. Толькі такою арганізацыяй усёй грамадзкасьці можна дабіцца пералому ў гэтай рабоце. Райвыканкомам патрэбна тых старшынь сельсаветаў, якія лепш арганізуюць і правядуць хлебазагатоўкі прасоўваць на адказную працу ў раёны.

Б. М.

## Пабудуем баявы дырыжабль „Саветы Беларусі“.

Савецкая Беларусь—бацькаўшчына працоўных, як самой БССР, таксама і Заходняй Беларусі і Літвы, значна ўзрасла, узмацнілася і стала на верны шлях пабудовы сацыялізму—шлях Леніна, з мэтай суцэльнай калектывізацыі гэтай краіны.

Мы багацеем і набліжаемся да вышэйшае культуры. Мы мацнеем і дужаем.

Вось за гэта і зьневажае нас **замежная буржуазія,** якая бачыць вялікую розьніцу паміж жыцьцём працоўных іх краін і жыцьцём вольнай краіны Саветаў—СССР, магутнай і непакалябімай. Яны ўсялякімі сродкамі імкнуцца перашкодзіць нашаму мірнаму будаўніцтву і справацыраваць нас на вайну і заўсёды „востраць зубы“ і разьзяўляюць ляпу на такую ласую дабычу, як СССР.

Пагэтаму мы заўсёды павінны быць падрыхтаваны. Мы адначасова з мірным сацыялістычным будаўніцтвам не павінны забываць узмацненьня абароны.

Для гэтага я выношу на старонкі „Саветаў Беларусі“ прапанову аб зборы сродкаў на пабудову баявога Дырыжаблю „Саветы Беларусі“—гэта будзе лепшы адказ крываваму папе Пію.

Спадзяючыся, што спрэчак ня будзе, заклікаем усю грамадзкасьць БССР распачаць збор сродкаў на гэту пабудову. Асабліва заклікаю рабселькораў.

Пажадана каб быў вызначан адзін дзень, у які-б усе фабрыкі і заводы, прадпрыемствы і ўстановы (дзяржаўныя) адпрацавалі ў фонд абароны краіны.

Вяскор **В. Шымакоўскі.**

**Ад рэдкалегіі:** Зьмяшчаючы допіс вяскора т. Шымакоўскага, рэдкалегія просіць усе саветы, выканкомы і савецкую грамадзкасьць як на старонках нашага часопісу, так і наогул у друку, выказаць свае думкі па сутнасьці гэтага допісу і аб парадку збору сродкаў на пабудову дырыжаблю „Саветы Беларусі“.

---

# ПА САЮЗУ САВЕЦКІХ РЭСПУБЛІК.

(Рознае)

### Аб формах кантролю ў Ленінградзкай вобласьці.

Прэзыдыум Ленінградзкага Савету пастанавіў прыцягнуць да справы кантролю над выкананьнем яго рашэньняў шырокую савецкую грамадзкасьць, у першую чаргу, сэкцыі Ленінградзкага савету. У рашэньнях Прэзыдыуму Савету вызначаецца, хто зьяўляецца адказным за выкананьне кожнага пункту ў паасобку і на каго ўскладаецца кантроль. Кожная сэкцыя савету павінна павялічыць свае групы па кантролю над наказамі, з ускладаньнем на іх таксама кантролю за выкананьнем рашэньняў Прэзыдыуму і Пленуму Савету і ўрадавых органаў. Кантроль наказаў праводзіцца пэрыядычна, кантроль-жа над выкананьнем рашэньняў саветаў носіць сталы характар. Сэкцыі сыстэматычна падаюць Прэзыдыуму савету весткі аб ходзе выкананьня яго рашэньняў.

### Аб правох райвыканкомаў у аўтаномных рэспубліках і вобласьцях РСФСР.

Прэзыдыум Усерасійскага ЦВК пастанавіў даць райвыканкомам у тых аўтаномных рэспубліках і аўтаномных вобласьцях, дзе раней ня было акруговага дзяленьня, правы якія маюць райвыканкомы наогул пасьля ліквідацыі акруг. Адпаведным цэнтральным і аўтаномным выканаўчым камітэтам даручана перадаць функцыі акрвыканкомаў, якія імі ажыцьцяўляюцца, падпарадкаваным ім райвыканкомам, а таксама і выканаўчым камітэтам інш. найменаваньняў, раўналеглых раённым (кантонным, аймачным і інш.).

### Аб нацыянальных акругах у РСФСР.

Згодна пастановы Прэзыдыуму Усерасійскага ЦВК, нацыянальныя акругі застаюцца ў такім відзе, у якім яны зараз існуюць, з захаваньнем існуючых межаў раёнаў і сельскіх саветаў.

### Аб падпарадкаванасьці галоўных гарадоў аўтаномных рэспублік і вобласьцяй РСФСР.

Згодна пастановы Прэзыдыуму Усерасійскага ЦВК, гарады, якія зьяўляюцца цэнтрамі аўтаномных рэспублік і вобласьцяй РСФСР незалежна ад колькасьці насельніцтва ў іх, выдзяляюцца ў самастойныя адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі з падпарадкаваньнем іх гарадзкіх саветаў цэнтральнаму альбо вобласнаму выканаўчаму камітэту адпаведнай аўтаномнай рэспублікі ці вобласьці.

### Аб арганізацыі раённых дарожных органаў.

Прэзыдыум Усерасійскага ЦВК дазволіў краявым (абласным) выканаўчым камітэтам і ЦВК аўтаномных рэспублік і воблвыканкомам аўтаномных вобласьцяй ў раёнах з вялікім дарожным будаўніцтвам уводзіць у склад апарата райвыканкомаў самастойныя штатныя адзінкі па дарожнаму будаўніцтву.

---

## Агляд важнейшых пастаноў Прэзыдыуму ЦВК БССР.

### Пра выкананьне дырэктыў Ураду па ліквідацыі няпісьменнасьці.

7 кастрычніка 1930 г. Прэзыдыум ЦВК заслухаў даклад Народнага Камісарыяту Асьветы і садаклад Таварыства „Прэч няпісьменнасьць“ пра выкананьне дырэктыў Ураду пра ліквідацыю няпісьменнасьці. Наркамасьветы склаў плян ліквідацыі няпісьменнасьці ў БССР, у адпаведнасьці з пастановай ЦВК і СНК БССР ад 25-га ліпеня 1930 г. Гэтым плянам прадугледжана ліквідацыя няпісьменнасьці ў 1930-31 годзе сярод 477.825 чалавек, г. з. у два разы больш чымся ў мінулым годзе.

Прэзыдыум ЦВК прызнаў, што ўся работа па ліквідацыі няпісьменнасьці і навучаньні грамаце павінна стаць адным з галоўнейшых сродкаў у выкананьні прамфінпляну, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і правядзеньні ўсіх іншых гаспадарчых мерапрыемстваў. Ня гледзячы на тое, што пытаньню ліквідацыі няпісьменнасьці нададзена выключнае палітычнае значэньне, у практычнай рабоце нізавых устаноў адсутнічае належная ўвага да гэтай справы. Прэзыдыум ЦВК прапанаваў: усім РВК і саветам у дэкадны тэрмін праверыць ход падрыхтоўкі да новага навучальнага году, прыняўшы рашучыя крокі да поўнага выкананьня пастановы ЦВК і СНК ад 25/VII-30 г.; на працягу кастрычніка месяца склікаць раённыя канфэрэнцыі т-ва „Прэч няпісьменнасьць“, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на ўцягненьне ў члены таварыства рабочых, калгасьнікаў, батракоў, бядняцка-серадняцкага актыву вёскі і г. д. У рабоце па ліквідацыі няпісьменнасьці практыкаваць мэтад сацыялістычнага спаборніцтва; зьвярнуць увагу Наркамасьветы і Белкапсаюзу на поўнае забясьпечаньне школ і лікпунктаў усімі неабходнымі прыладамі і дапаможнікамі.

### Пра скасаваньне раённых рэвізійных камісій.

7/X-1930 г. Прэзыдыум ЦВК, у сувязі з арганізацыяй раённых кантрольных камісій РСІ, пастанавіў скасаваць раённыя рэвізійныя камісіі.

Арганізацыйна-Інструктарскаму Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК даручана даць наказаньні райвыканкомам аб парадку ліквідацыі раённых рэвізійных камісій.

### Аб Усебеларускай нарадзе бытавых камітэтаў.

Сакратарыят ЦВК пастанавіў склікаць 1-га лістапада г. г. Усебеларускую нараду камітэтаў па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак. У парадак дню пастаўлены наступныя пытаньні: 1) перавыбарчая кампанія саветаў; 2) аб становішчы жаночай працы на вытворчасьці; 3) аб удзеле жанчын у калгасным будаўніцтве; 4) аб мерапрыемствах па разгортваньні сеткі бытавых устаноў у горадзе і на вёсцы.

Склад нарады разьлічан на 150 чалавек.

**Аб арганізацыі камісій па землеўпарадкаваньні працоўных яўрэяў пры Райвыканкомах.**

11/Х-1930 г. Сакратарыят ЦВК пастанавіў арганізаваць пры ўсіх райвыканкомах Камісіі па землеўпарадкаваньні працоўных яўрэяў. Райвыканкомам дадзена паказаньне аб арганізацыі гэтых камісій і належнай пастаноўцы іх работы.

**Аб прэміраваньні камуны „Праца“, Каралінскага раёну.**

Сакратарыят ЦВК згадзіўся з пастановай Конкурснага Бюро пры рэдакцыі газэты „Савецкая Беларусь“ аб прэміраваньні лепшай па конкурсу камуны „Праца“, Каралінскага раёну, Чырвоным сьцягам і трактарам.

**Пра зьмену падсуднасьці грамадзянскіх і крымінальных спраў у зьвязку з ліквідацыяй акруг.**

5 верасьня г. г. Прэзыдыумам ЦВК зацьверджан праэкт пастановы ЦВК і СНК БССР пра зьмену падсуднасьці грамадзянскіх і крымінальных спраў і падсьледственнасьці крымінальных спраў у зьвязку з ліквідацыяй акруг. Згодна гэтай пастановы, значна пашыраецца падсуднасьць народных судоў, а таксама правы вучастковых пракурораў.

Народнаму Суду падсудны ўсе грамадзянскія (у тым ліку і зямельныя) і крымінальныя справы апроч спраў, падсудных Вярхоўнаму Суду, таварыскім і сельскім судам, а таксама спраў, для якіх устаноўлены асобы парадак вырашэньня. Судовай Калегіі Вярхоўнага Суду падсудны крымінальныя справы, па якіх крымінальным кодэксам прадугледжана вышэйшая мера сацыяльнай абароны і справы пэрсанальнай падсуднасьці, якія па правілах КПК не падсудны Нарсуду. Усе правы і абавязкі акруговых пракурораў перадаюцца вучастковым і гарадзкім пракурорам. Значна скарочана катэгорыя спраў, па якіх абавязкова папярэдняя сьледства.

**Аб пяцігодцы жаночай працы.**

15 верасьня г. г. Прэзыдыум ЦВК пастанавіў перадаць на шырокае абгаварэньне працоўных мас з удзелам прафэсыянальных, савецкіх і іншых арганізацый пададзены СНК праэкт пастановы ЦВК і СНК БССР „аб мерапрыемствах па падвышэньню ліку працоўных жанчын і аб палепшаньні іх быту па пяцігадоваму пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры БССР“.

Арганізацыя абгаварэньня паказанага праэкту даручана Камітэту па палепшаньні працы і быту работніц і сялянак пры Прэзыдыуме ЦВК. Пасьля сканчэньня абгаварэньня, праэкт будзе праз месяц унесены на разгляд і зацьверджаньне Прэзыдыуму ЦВК.

**Пра ўкамплектаваньне раёнаў работнікамі.**

15/IX-1930 г. Прэзыдыум ЦВК, заслухаўшы інфармацыю Арганізацыйна-Інструктарскага Аддзелу аб укамплектаваньні раёнаў работнікамі ў зьвязку з ліквідацыяй акруг, пастанавіў: прапанаваць райвыканкомам паведамляць Аргінстру Прэзыдыуму ЦВК не пазьней як праз 3 дні аб усіх зьменах, якія адбываюцца ў складзе райвыканкомаў; даручыць Аргінстру ўстанавіць нагляд і кіраўніцтва работай па накіраваньню з акруг у раёны спэцыялістых і тэхнічных работнікаў; прасіць ЦСПСБ зьвярнуць асаблівую ўвагу пытаньню перакідкі ў раёны спэцыялістых і тэхнічных работнікаў, прыцягваючы асоб, якія адхіляюцца ад паездкі ў раёны, да адказнасьці па прафэсыянальнай лініі.

**Пра перавыбары сельскіх судоў.**

15/Х-1930 г. Прэзыдыумм ЦВК пастанавіў дапасаваць перавыбары сельскіх судоў да перавыбараў сельскіх саветаў. Паўнамоцтвы сельскіх судоў сучаснага складу працягнуты да часу перавыбараў.

**Палажэньне пра раённыя саветы фізкультуры.**

15/Х-1930 г. Прэзыдыумам ЦВК зацьверджана Палажэньне пра раённыя саветы фізкультуры БССР. Для ажыцьцяўленьня дзяржаўнага кіраўніцтва, аб'яднаньня, пляніраваньня і кантролю над работай фізкультуры на тэрыторыі раёну пры раённых выканаўчых камітэтах утвараюцца раённыя саветы фізкультуры. У задачы райсавету фізкультуры ўваходзіць ажыцьцяўленьне ў межах раёну ўсіх пастаноў вышэйшых органаў у галіне фізкультуры, садзейнічаньне ў пра-

вядзеньні фізычнай падрыхтоўкі дапрызыўнікаў, разгляд, узгадненьне і зацьверджаньне плянаў дзейнасьці ведамстваў і арганізацый у галіне фізкультуры, кантроль за будаўніцтвам фізкультурных пабудоў і інш. Склад райсаветаў зацьвярджаецца прэзыдыумамі РВК у ліку да 25 асоб. Для выкананьня бягучай работы ўтвараецца прэзыдыум у ліку 7 асоб. Пры Менскім, Віцебскім і Гомельскім гарадзкіх саветах арганізуюцца гарадзкія саветы фізкультуры, якія дзейнічаюць на падставе таго-ж палажэньня, што і раённыя саветы.

**Палажэньне пра Архіўнае Кіраўніцтва БССР.**

15/X-1930 г. Прэзыдыумам ЦВК зацьверджана Палажэньне пра Архіўнае Кіраўніцтва БССР. Цэнтральнае Архіўнае Кіраўніцтва знаходзіцца пры прэзыдыуме ЦВК БССР. Дзяржаўны архіўны фонд БССР захоўваецца: 1) у архівах Цэнтраархіву БССР і 2°/₀ у дзяржаўных, грамадзкіх, прафэсіянальных і іншых установах і арганізацыях. Усе архівасховы Цэнтраархіву, у якіх зьмешчаны матар'ялы пасьля рэвалюцыйнага пэрыяду, складаюць Цэнтральны Архіў Кастрычнікавай Рэвалюцыі. Усе архівасховы, у якіх зьмешчаны матар'ялы дарэвалюцыйнага пэрыяду, складаюць Цэнтральны Гістарычны Архіў БССР. Архіўныя матар'ялы могуць захоўвацца пры савецкіх установах 3 гады. Пасьля гэтага тэрміну яны перадаюцца праз адпаведныя РВК і гарсаветы ў архівасховы Цэнтраархіву БССР. На чале цэнтраархіву стаіць загадчык, які назначаецца Прэзыдыумам ЦВК. Пры загадчыку Цэнтраархіву ўтвараецца Савет. Новае Палажэньне наогул аб'яднае ўсе законадаўчыя акты БССР па пытаньнях аб архіве.

**Аб падрыхтоўцы да сьвяткаваньня 13-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі.**

Для падрыхтоўкі і правядзеньня сьвяткаваньня ў БССР XIII-й гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі Прэзыдыумам ЦВК утворана камісія пад старшынствам тав. Хацкевіча, у складзе т. т. Платуна, Плешакова, Чарнушэвіча (з заменай тав. Лабадаевым), Крузмата, Будзінскага, Палякова, Цімашэнка, Буравай, Пятушкова і Шпэктарава.

---

# Інструкцыя аб выбарах у саветы.

Выбары ў саветы, зьяўляючыся важнейшай масавай палітычнай кампаніяй, набываюць асаблівае значэньне ў сучасны пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага наступу на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай калектывізацыі. Выбары ў саветы будуць адбывацца ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы, калі кулацтва і іншыя капіталістычныя элемэнты аказваюць актыўнае супраціўленьне сацыялістычнаму наступу, спрабуючы перашкодзіць хуткаму росту сацыялістычнай індустрыі і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, пралезьці ў саветы і дэзарганізаваць іх работу.

Цэнтральныя выканаўчыя камітэты саюзных і аўтаномных рэспублік, краёвыя, абласныя і раённыя выканаўчыя камітэты, гарадзкія і сельскія саветы, таксама як і выбарчыя камісіі, павінны арганізаваць пралетарыят і працоўныя масы для пераважнага сацыялістычнага будаўніцтва і далейшага наступу на клясавага ворага і, праводзячы выбарчую кампанію, памятаць, што „ў момант рашучага змаганьня пралетарыяту з яго эксплёататарамі эксплёататарам ня можа быць месца ні ў водным з органаў улады“ (Дэклярацыя правоў працоўнага народу).

Цэнтральныя і мясцовыя органы савецкай улады пры выбарах у саветы, павінны з усёй рашучасьцю змагацца з парушэньнямі выбарчага законадаўства Саюзу ССР, не дапускаючы незаконнага адхіленьня працоўных ад выбараў у саветы і сурова захоўваючы пастанову Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 22 сакавіка 1930 г. „аб адхіленьні парушэньняў выбарчага законадаўства Саюзу ССР“.

У мэтах забесьпячэньня адзначаных вышэй задач неабходна кіравацца адзіным па ўсім Саюзе ССР выбарчым за-

конадаўствам. Якія-небудзь зьмены гэтай выбарчай інструкцыі зьвязаныя з мясцовымі бытавымі ўмовамі, могуць быць дапушчаны толькі па асобнаму дазволу ў кожным паасобным выпадку Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР.

I

### Аб выбарчых камісіях.

1. Для агульнага кіраваньня выбарчай кампаніяй у Саюзе ССР пры Прэзыдыуме Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР утвараецца Цэнтральная выбарчая камісія, склад якой пэрсанальна зацьвярджаецца Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР.

2. Цэнтральная выбарчая камісія Саюзу ССР:

а) ажыцьцяўляе агульны нагляд за падрыхтоўкай і правядзеньнем выбарчай кампаніі;

б) кіруе работай цэнтральных выбарчых камісій саюзных рэспублік;

в) прадстаўляе да скасаваньня пастановы цэнтральных выбарчых камісій саюзных рэспублік, парушаючыя выбарчае законадаўства Саюзу ССР;

г) дае абавязковыя для органаў улады і насельніцтва растлумачэньні наконт ужываньня выбарчага законадаўства Саюзу ССР.

3. Для кіраваньня выбарчай кампаніяй у межах саюзных рэспублік пры цэнтральных выканаўчых камітэтах апошніх пастановамі іх прэзыдыумаў утвараюцца цэнтральныя выбарчыя камісіі.

Пры цэнтральных выканаўчых камітэтах аўтаномных рэспублік, пры краёвых абласных і раённых выканаўчых камітэтах і пры гарадзкіх і сельскіх саветах, а ў гарадох, маючых раённыя саветы,— і пры раённых саветах утвараюцца выбарчыя камісіі. Склад выбарчых камісій вызначаецца законадаўствам саюзных рэспублік. У склад выбарчых камісій уводзяцца прадстаўнікі выканаўчага камітэту і савету, арганізуючага выбарчую камісію, аб'яднаньні прафэсыянальных саюзаў, УсеЛКСМ, нацыянальных меншасьцяй, Чырвонай арміі, рабочых з вытворчасьці і калгасьнікаў. У складзе ўсіх выбарчых камісій павінен быць забясьпечаны ўдзел жанчын.

Старшыні выбарчых камісій назначаюцца вышэйстаячымі выканаўчымі камітэтамі, а члены зацьвярджаюцца адпаведным выканаўчым камітэтам або гарадзкім і сельскім саветам па прыналежнасьці.

**Заўвага.** У паасобных гарадох з дазволу прэзыдыуму цэнтральнага выканаўчага камітэту адпаведнай саюзнай рэспублікі могуць утварацца асобныя дапаможныя выбарчыя камісіі па буйных заводах, фабрыках і прадпрыемствах.

II

### Вызначэньне кола абіральнікаў і кола асоб, пазбаўленых выбарчых правоў.

4. Пры складаньні і праверцы сьпісаў як абіральнікаў, так і асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, выбарчыя камісіі павінны кіравацца канстытуцыяй адпаведнай саюзнай рэспублікі, пазбаўляючай аддзельных асоб і асобныя катэгорыі грамадзян выбарчых правоў, а менавіта:

а) асоб, якія карысталіся ці карыстаюцца наёмнай працай з мэтай вызыскваньня прыбытку;

б) асоб, якія жылі ці жывуць на непрацоўныя прыбыткі, а таксама займаліся ці займаюцца гандлем;

в) асоб, якія да моманту выбараў па сваім клясавым становішчы ці па сваёй мінулай дзейнасьці належаць да катэгорый пазбаўленых выбарчых правоў, паводле канстытуцый саюзных рэспублік.

5. З паасобных катэгорый грамадзян пазбаўляюцца выбарчых правоў:

а) земляробы, жывёлаводы, саматужнікі і рамесьнікі, якія ўжываюць наёмную працу, сэзонную ці сталую, у такім абхваце, які пашырае іх гаспадарку за межы працоўнай.

**Увага.** Асноўнай адзнакай працоўнай гаспадаркі ў даным выпадку зьяўляецца дапаможны характар наёмнай працы і абавязковы ўдзел у штодзённай рабоце наяўных працаздольных членаў данай гаспадаркі;

б) земляробы і жывёлаводы, якія маюць побач з земляробчай і жывёлагадоўчай гаспадаркай прамысловыя і прамысловыя ўстановы і прадпрыемствы (млын, крупарню і г. д.) з мэханічнымі

рухавікамі ці якія вядуцца з ужываньнем сталай або сэзоннай наёмнай працы;

в) асобы, якія сыстэматычна здаюць у наём, якія ёсьць у іх, складаныя сельска-гаспадарчыя машыны з мэханічнымі рухавікамі, уласьнікі буйных рыбалоўных суднаў, якія здаюць іх у арэнду, ці асобы, якія закабаляюць вакольнае насельніцтва шляхам прадстаўленьня ў карыстаньне рабочай жывёлы, сельска-гаспадарчых машын ды інш., ці займаюцца забесьпячэньнем насельніцтва крэдытам (таварным ці грашовым) на кабальных умовах (працэнтчыкі);

г) асобы, арандуючыя землі на ўмовах, прызнаных раённай падатковай камісіяй кабальнымі для здатчыкаў;

д) асобы, арандуючыя з мэтай гандлёвай і прамысловай эксплёатацыі сады, вінаграднікі і г. д.

**Увага.** Арэнда садоў, вінаграднікаў і інш. у разьмерах і з захаваньнем умоў, пры якіх гэта арэнда ня можа зьяўляцца адзнакай для абкладаньня арандатараў адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку ня можа таксама зьяўляцца і адзнакай для пазбаўленьня арандатараў выбарчых правоў.

е) асобы, якія сыстэматычна здаюць у наём асобныя пабудовы, абсталяваныя пад прадпрыемства ці жыльлё, пры ўмове, калі адпаведная гаспадарка па разьмерах прыбытку ад гэтай здачы ў наём пабудоў належыць да катэгорыі гаспадарак, абкладаных адзіным сельска-гаспадарчым падаткам у індывідуальным парадку;

ж) уласьнікі і арандатары памяшканьняў прамысловага тыпу, эксплёатуючыя насельніцтва шляхам здачы тых ці іншых работ на дом ці шляхам здачы гэтага прадпрыемства ў арэнду або субарэнду;

з) прыватныя гандляры, перакупшчыкі і камэрцыйныя пасярэднікі;

і) арандатары і ўласьнікі прадпрыемстваў фабрычна-заводзкага тыпу;

к) былыя афіцэры і чыноўнікі белых армій, а таксама кіраўнікі контр-рэвалюцыйных банд;

л) усе служачыя і агенты былой паліцыі асобага корпусу жандараў і ахранных аддзяленьняў, а таксама ўсе асобы, непасрэдна ці ўкосна кіраваўшыя дзеямі паліцыі, жандармэрыі і карных органаў як пры царскім ладзе, таксама і пры белых контррэволюцыйных урадах, як: былыя міністры, іх таварышы, дырэктары дэпартамэнтаў міністэрстваў, генэрал-губарнатары, галоўнаначальствуючыя пры надзвычайнай ахране, вайсковыя і грамадзянскія губарнатары, віца-губарнатары, а таксама і чыноўнікі для асобых даручэньняў пры іх; чыны міністэрства ўнутраных спраў, усе былыя служачыя астрожнага ведамства, члены царствуючага дому, губэрскія і павятовыя прадвадзіцелі дваранства, старшыні і члены крымінальных дэпартамантаў, а таксама пракуроры і таварышы пракурораў судовых палат; сьледчыя па асоба важных справах; старшыні і члены вайсковых судоў, старшыні і члены сьледчых камісій, якія дзейнічалі на тэрыторыі контр-рэвалюцыйных урадаў, члены губэрскіх праўленьняў, земскія, сялянскія і павятовыя начальнікі і асобы, якія займалі да рэвалюцыі камандныя пасады ў дысцыплінарных батальёнах;

м) былыя і цяперашнія паслугачы ўсіх рэлігійных культаў;

н) асобы, адміністрацыйна-высланыя, на тэрміны іх высылкі, а таксама асобы, пазбаўленыя выбарчага права па прыгаварах судоў.

**Увага.** Тыя, што знаходзяцца ў мясцох пазбаўленьня волі, ў выбарах у саветы ня ўдзельнічаюць.

6. Ня могуць быць пазбаўлены выбарчых правоў і ніжэйнаступныя асобы, калі яны не пазбаўляюцца гэтых правоў на інш. падставах:

а) сяляне—земляробы і жывёлаводы, ужываючыя ў сваёй гаспадарцы наёмную працу аднаго сталага рабочага, пры асобых абставінах, як: хвароба, мабілізацыя, прызыў у Рабоча-Сялянскую Чырвоную армію, абраньне на грамадзкую пасаду, патрабуючую адрыву ад гаспадаркі і г. д., на ўвесь час данага стану гаспадаркі;

б) земляробы, наймаючыя сэзонную рабочую сілу ў гарачы час для ўборкі збожжа, тэхнічных культур і траў у

разьмерах вызначаных спэцыяльнымі пастановамі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і ЦВК саюзных рэспублік;

в) сяляне-земляробы, якія адыходзяць на сэзонныя работы і ўжываюць ў сваёй гаспадарцы ў пэрыяд свайго адыходу на сэзонныя работы наёмную працу ня больш аднаго работніка, а таксама члены сем'яў гэтых сялян;

г) рабочыя і члены сем'яў рабочых фабрык і заводаў, не парваўшыя сувязі з сельскай гаспадаркай, ужываючыя ў сваёй гаспадарцы наёмную працу ня больш аднаго сталага работніка;

д) сяляне-земляробы, жывёлаводы і рыбакі, збываючыя прадукты сваёй працы на рынак;

е) уласьнікі жылых будынкаў, прыбытак якіх ад гэтых будынкаў не перавышае неабкладанага па прыбытковым падаткам мінімуму;

ж) уласьнікі розных прадпрыемстваў (маслабойка, крупарня, шэрстабітка, млын на адзін пастаў і г. д.) без мэханічных рухавікоў, ня ўжываючыя наёмнай працы, пры ўмове, калі яны не закабальваюць вакольнае насельніцтва шляхам здачы работ на дом і не здаюць паказных прадпрыемстваў у арэнду;

з) саматужнікі і рамесьнікі, якія вядуць працоўную гаспадарку бяз ужываньня наёмнай сілы, а таксама карыстаюцца ў моц умоў вытворчасьці наёмнай працай аднаго дарослага рабочага ці вядуць працоўную гаспадарку пры дапамозе працы двух вучняў.

**Увага.** Паказаныя ў гэтым пункце саматужнікі і рамесьнікі не пазбаўляюцца выбарчых правоў і ў тым выпадку, калі яны прадаюць на рынак вырабы выключна сваёй вытворчасьці;

і) прыцягнутыя ў свой час у рады белых армій шляхам мабілізацыі рабочыя, працоўныя сяляне і казакі, служачыя, саматужнікі і рамесьнікі;

к) тыя з былых афіцэраў і чыноўнікаў белых армій, якія пасьля знаходзіліся ў радох Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі і прымалі актыўны ўдзел ва ўзброенай абароне савецкай улады, а таксама тыя, якія ў сучасны момант знаходзяцца на сапраўднай вайсковай службе ў Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі.

**Увага.** Пад актыўны ўдзел ва ўзброенай абароне савецкай улады трэба разумець усякае выкананьне ў часе грамадзянскай вайны ваенных заданьняў у часьцях і кіраўніцтвах Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі як на фронце, так і ў тыле;

л) асобы, якія жывуць на прыбыткі ад выйграшаў і на проценты па дзяржаўных пазыках, на прыбыткі ад зьберажэньняў, знаходзячыхся ў дзяржаўных працоўных касах ашчаднасьці.

**Увага.** Атрыманьне з-за граніцы грамадзянамі Саюзу ССР у вызначаным парадку грашовых сум і каштоўнасьцяй (пэнсій, спадчыны, алімэнтаў, страхавой ўзнагароды і гэтак далей) само па сабе не зьяўляецца падставай для пазбаўленьня гэтых асоб выбарчых правоў;

м) інваліды працы і вайны, якія ў моц асобых прычын займаюцца дробн. гандлем, абкладаныя прамысловым падаткам па арт. 5 расьпісаньня прадпрыемстваў і промыслаў, абкладаных па цьвёрдых стаўках (дадатак 1-ы да Палажэньня аб прамысловым падатку з прыватных прадпрыемстваў і промыслаў), а таксама асобы, якія часова займаліся гэткім-жа дробным гандлем з прычыны беспрацоўя ці часовай інваліднасьці;

н) асобы, атрымліваючыя за сваю працу процантную ўзнагароду ад дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый, а таксама акцыянэрных таварыстваў з пераважным удзелам дзяржаўнага ці каапэрацыйнага капіталу.

о) асобы, якія па найму ці па выбару рэлігійных абшчын займаюцца адміністрацыйна-гаспадарчым і тэхнічным абслугоўваньнем рэлігійных абрадаў і будынкаў рэлігійных абрадаў, як: пеўчыя, арганісты, вартаўнікі, прыбіральшчыкі, званары і г. д., а таксама члены прыходзкіх саветаў;

п) асобы вольных прафэсій, якія займаюцца грамадзка-карыснай працай;

р) члены сем'яў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, не пазбаўляюцца выбарчых правоў у тых выпадках, калі яны матар'яльна не залежаць ад гэтых

асоб і крыніцай свайго існаваньня маюць самастойную грамадзка-карысную працу.

Не пазбаўляюцца выбарчых правоў таксама і дзеці асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, дасягнуўшы поўналецьця ў 1925 і наступныя гады, якія знаходзіліся да поўналецьця на ўтрыманьні бацькоў і займаюцца ў сучасны момант самастойнай грамадзка-карыснай працай хоць-бы яны і пражывалі разам з бацькамі.

III

### Аб складаньні спісаў грамадзян, пазбаўленых выбарчых правоў.

7. У пэрыяды падрыхтоўкі і правядзеньня выбараў у саветы сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, складаюцца выключна гарадзкімі і сельскімі выбарчымі камісіямі і зацьвярджаюцца ў сельскіх мясцовасьцях раённымі выканкомамі, а ў гарадох—гарадзкімі і раённымі саветамі па прыналежнасьці. У пэрыяд паміж выбарчымі кампаніямі ў гэтыя сьпісы ўносяцца асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў па суду і як адміністрацыйна высланыя органамі АДПУ. У сельскіх мясцовасьцях унясеньне памянёных асоб у сьпісы пазбаўленых выбарчых правоў ускладаецца на раённыя выканаўчыя камітэты, а ў гарадох—на гарадзкія і раённыя саветы па прыналежнасьці.

8. Зацьверджаныя раённымі выканкомамі, гарадзкімі і раённымі саветамі сьпісы грамадзян, пазбаўленых выбарчых правоў, публікуюцца да ўсеагульнага ведама праз органы друку або шляхам вывешваньня.

9. На падставе канстытуцый саюзных рэспублік рабочыя і тыя, што не карыстаюцца чужой працай сяляне-чужаземцы язія знаходзяцца на тэрыторыі Саюзу ССР, маюць выбарчыя правы. Выбарчыя камісіі могуць прадастаўляць выбарчыя правы таксама чужаземным грамадзянам з катэгорыі служачых, пражываючых на тэрыторыі Саюзу ССР, калі адносна іх ёсьць выстарчальныя довады поўнай лёяльнасьці ў адносінах да савецкай улады.

10. Пражываючыя на тэрыторыі Саюзу ССР чужаземцы, належачыя да не працоўных катэгорый ня маючыя згодна канстытуцый саюзных рэспублік і гэтай інструкцыі выбарчых правоў, у сьпісы пазбаўленых выбарчых правоў ня ўносяцца.

11. Складаньне сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, праводзіцца на падставе дакумэнтальных даных.

12. Выключэньне з зацьверджаных сьпісаў асоб грамадзян, пазбаўленых выбарчых правоў, няправільна ўключаных у гэтыя сьпісы, праводзіцца як органамі, зацьвярджаючымі гэтыя сьпісы (райвыканкомамі, гарадзкімі і раённымі саветамі па прыналежнасьці), так і краёвымі, абласнымі і цэнтральнымі выбарчымі камісіямі.

13. Асобы, уключаныя ў сьпісы пазбаўленых выбарчых правоў, могуць абскардзіць гэтыя пастановы ў парадку, зазначаным у арт. арт. 14-18 гэтай інструкцыі.

14. Скаргі падаюцца грамадзянамі ў выбарчую камісію, склаўшую сьпісы.

15. Выбарчая камісія, атрымаўшы скаргу, абавязана ў трохдзённы тэрмін па атрыманьні пераслаць яе з сваім заключэньнем у раённы выканаўчы камітэт, гарадзкі ці раённы савет па прыналежнасьці.

Сельская выбарчая камісія накіроўвае паступіўшыя да яе скаргі ў раённы выканаўчы камітэт праз раённую выбарчую камісію.

16. Скаргі паступіўшыя ў выбарчую камісію пры раённым выканаўчым камітэце ці ў гарадзкую выбарчую камісію, разглядаюцца імі ў трохдзённы тэрмін і з іх заключэньнямі накіроўваюцца ў раённы выканаўчы камітэт ці гарадзкі савет па прыналежнасьці. Прэзыдыум раённага выканаўчага камітэту ці прэзыдыум гарадзкога савету разглядаюць скаргу ў трохдзённы тэрмін і сваю пастанову паведамляюць таму, хто скардзіўся, праз адпаведную выбарчую камісію.

17. Скаргі грамадзян на няправільнае ўключэньне іх раённымі выканаўчымі камітэтамі, гарадзкімі саветамі ў сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, падаюцца: на пастановы гарадзкіх саветаў' падпарадкаваных раённым выканаўчым

камітэтам—у раённыя выканаўчыя камітэты на пастановы раённых выканаўчых камітэтаў і гарадзкіх саветаў, выдзеленых у самастойный адміністрацыйна-гаспадарчыя адзінкі—у краёвыя, абласныя ці —у рэспубліках, ня маючых краёвага і абласнага падзелу—у цэнтральныя выбарчыя камісіі па прыналежнасьці. Краёвыя, абласныя і цэнтральныя выбарчыя камісіі ў сямідзённы тэрмін разглядаюць паступіўшыя да іх скаргі і свае пастановы паведамляюць тым, хто скардзіўся.

18. Звароты ва ўрадавыя ўстановы і да службовых асоб па справах аб выбарах і выдаваныя гэтымі ўстановамі і асобамі дакумэнты і спраўкі па справах аб выбарах вызваляюцца ад збораў.

19. Да грамадзян, падаўшых скаргі ў вышейстаячыя органы ўлады на няправільнае пазбаўленьне іх выбарчых правоў, аж да канчатковага разгляду іх скаргаў, ня могуць ужывацца якія-б та ні было абмежаваньні, апроч абмежаваньня права ўдзелу ў выбарах у саветы.

20. Асобы, якія перашкаджаюць выбаршчыкам ажыцьцяўляць іх выбарчыя правы, прыцягваюцца да адказнасьці па крымінальным законадаўстве саюзных рэспублік.

VI.

### Аб парадку аднаўленьня ў выбарчых правох.

21. Асобы, пазбаўленыя выбарчых правоў, якія належалі да клясы эксплёататараў (абшарнікі, буржуазія, служкі рэлігійных культаў), а таксама былыя ніжэйшыя тэхнічныя служачыя паліцыі, жандармэрыі і астрожнага ведамства, могуць быць адноўлены ў выбарчых правох пры ўмове, калі яны ў працягу ня менш пяці гадоў займаюцца вытворчай і агульна-карыснай працай і давялі сваю лёяльнасьць да савецкай ўлады. Гэтыя асобы аднаўляюцца ў выбарчых правох паводле пастаноў раённай, краёвай, абласной выбарчай камісіі, ці гарадзкой (выдзеленага ў самастойную адміністрацыйную адзінку гораду), ці Цэнтральнай выбарчай камісіі з зацьверджаньня адпаведнага выканаўчага камітэту, гарадзкога савету ці цэнтральнага выканаўчага камітэту адпаведнай саюзнай ці аўтаномнай рэспублікі па прыналежнасьці.

**Заўвага.** Тыя з перайменаваных у гэтым артыкуле асоб, якія зьяўляюцца членамі прафсаюзу, могуць быць пры наяўнасьці адпаведных хадайніцтваў адноўлены ў выбарчых правох памянёнымі органамі і без пяцігадовага стажу.

22. Асобы пазбаўленыя выбарчых правоў згодна з канстытуцыямі саюзных рэспублік, пералічаныя ў п. „л“ арт. 5 гэтай інструкцыі, за выключэньнем ніжэйшых тэхнічных служачых паліцыі, жандармэрыі і астрожнага ведамства, памянёных у арт. 21, могуць быць у паасобных выпадках адноўлены ў выбарчых правох асобнымі пастановамі прэзыдыумаў цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік пры ўмове, калі гэтыя асобы ў сучасны момант займаюцца вытворчай грамадзка-карыснай працай і давялі лёяльнасьць у адносінах да савецкай улады.

23. Адміністрацыйна-высланыя, а таксама асобы, у адносіне якіх адбыліся судовыя прыгаворы, пазбаўляючыя іх выбарчага права (арт. 5 п. „н“), аднаўляюцца ў выбарчых правох, калі яны не пазбаўлены гэтых правоў па іншых падставах, з моманту спыненьня чыннасьці ў адносіне іх мер адміністрацыйнай або судовай рэпрэсіі, без спэцыяльнай пастановы адпаведных органаў улады.

24. Асобы, адноўленыя ў выбарчых правох вышэйстаячымі саветамі і выканаўчымі камітэтамі, ня могуць быць пазбаўлены выбарчых правоў на тых-жа падставах ніжэйстаячымі органамі ўлады.

V

### Аб выбарчых сходах

25. Выбары членаў саветаў адбываюцца на выбарчых сходах.

26. Выбарчыя сходы склікаюцца выбарчай камісіяй ці яе ўпаўнаважаным з паведамленьнем насельніцтва аб дні і месцы скліканьня выбарчага сходу не пазьней чымся за пяць дзён.

27. У гародох, рабочых пасёлках і пасёлках гарадзкога тыпу, а таксама ў буйных саўгасах выбарчыя сходы на-

ладжваюцца па вытворчых адзінках (прадпрыемствах, установах) прафэсыянальных саюзах і буйных саўгасах.

У буйных прамысловых прадпрыемствах выбары могуць праводзіцца па асобных цэхах з дазволу адпаведнага гарадзкога савету ці раённага выканаўчага камітэту.

Рабочыя машынатрактарных станцый і нябуйных саўгасаў прымаюць удзел у выбарах бліжэйшага сельскага савету.

У сельскіх мясцовасьцях буйныя паселішчы для выбараў у савет могуць падзяляцца на выбарчыя вучасткі.

Калгасьнікі, як правіла, удзельнічаюць у выбарах разам з іншым насельніцтвам сяла.

Выбаршчыкі— хутаране і адрубшчыкі для выбараў далучаюцца да бліжэйшага паселішча, якое ўваходзіць у раён абіранага сельскага савету.

Грамадзяне, не працуючыя на прадпрыемствах і неарганізаваныя ў прафэсыянальныя саюзы, як: саматужнікі, хатнія гаспадыні, возчыкі і г. д. удзельнічаюць у выбарах ці разам з іншымі выбаршчыкамі па вытворчых ці прафэсыянальных сходах, ці па тэрыторыяльных адзінках (раёнах, вучастках і г. д.).

28. Выбарчы сход лічыцца адбыўшымся, калі на ім прысутнічае ня менш 40 проц. асоб, маючых права ўдзельнічаць у выбарах данага абіральнага вучастку.

**Увага:** ЦВК саюзных рэспублік могуць устанаўляць і больш высокі мінімум.

29. На выбарчыя сходы дапушчаюцца толькі асобы, якія карыстаюцца выбарчым правам. Парадак вядзеньня выбарчых сходаў вызначаецца законадаўствам саюзных рэспублік.

30. Галасаваньне на выбарах адбываецца ці па сьпісах, ці па асобных кандыдатурах—па пастанове самога выбарчага сходу.

**Увага 1:** Выбарчыя камісіі ды іх упаўнаважаныя ня маюць права ад сябе вылучаць і прапанаваць выбаршчыкам ні паасобных кандыдатаў, ні кандыдацкіх сьпісаў.

**Увага 2:** Кандыдацкія сьпісы ці асобныя кандыдатуры могуць прапанавацца грамадзкімі, партыйнымі і прафэсыянальнымі арганізацыямі і асобнымі грамадзянамі на выбарчым сходзе ці публікавацца да выбарчага сходу праз друк ці шляхам вывешваньня. Галасаваньне па сьпісах не адхіляе магчымасьці адводу асобных кандыдатаў, уключаных у сьпісы.

31. Выбары праводзяцца адкрытым галасаваньнем.

32. Абранымі ў члены саветаў лічацца асобы, атрымаўшыя пры галасаваньні большасьць галасоў выбаршчыкаў, якія прысутнічалі на выбарчым сходзе.

33. Усе заявы і скаргі на правядзеньне выбараў падаюцца ў 7 дзённы тэрмін з моманту сканчэньня выбараў у пісьмовай ці вуснай форме, у адпаведную выбарчую камісію, якая абавязана іх з сваімі тлумачэньнямі накіраваць у 3-х дзённы тэрмін у вышэйшую выбарчую камісію.

Вышэйшая выбарчая камісія абавязана разглядзець гэтыя скаргі і заявы ў тыднёвы тэрмін з дню паступленьня.

34. Па сканчэньні работы выбарчыя камісіі здаюць усе матар'ялы па выбарах адпаведнаму савету ці выканаўчаму камітэту.

35. Скасаваньне выбараў у выпадках парушэньня выбарчай інструкцыі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР і выбарчых інструкцый цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік праводзіцца поўнасьцю ў адносінах усяго складу членаў савету пастановамі вышэйшага выканаўчага камітэту або савету ці часткова ў адносінах асобных членаў савету па паасобных выбарчых вучастках (вытворчых адзінках, прафэсыянальных саюзах і інш.)—пастановамі сельскага ці гарадзкога савету.

У выпадку скасаваньня выбараў новыя выбары праводзяцца ў парадку вызначаным гэтай інструкцыяй.

36. Для правядзеньня новых выбараў назначаецца новы склад адпаведнай выбарчай камісіі.

37. Падставай для скасаваньня выбараў зьяўляецца парушэньне Канстыту-

цыі Саюзу ССР і канстытуцыі саюзных рэспублік, а таксама гэтай інструкцыі і інструкцый цэнтральных выканаўчых камітэтаў саюзных рэспублік, прычым аб скасаваньні выбараў абвяшчаецца да ўсеагульнага ведама ці шляхам публікаваньня ў мясцовай прэсе, ці на сходах выбаршчыкаў.

VI.

**Аб скліканьні зьездаў саветаў.**

38. Зьезды саветаў склікаюцца адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі ў парадку, устаноўленым законадаўствам Саюзу ССР і саюзных рэспублік.

39. Для праверкі правільнасьці выбараў на данны зьезд, зьезд саветаў абірае мандатную камісію.

Пастановы мандатнай Камісіі зацьвярджаюцца зьездам саветаў.

Старшыня ЦВК Саюзу ССР
**А. Чарвякоў.**

Сакратар ЦВК Саюзу ССР
**А. Энукідзе.**

Масква, Крэмль.
3 кастрычніка 1930 г.

---

# Пастанова Прэзыдыуму ЦВК БССР

**аб перавыбарах саветаў, скліканьні раённых зьездаў саветаў і X Усебеларускага зьезду саветаў.**

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР, на падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР за 26 верасьня 1930 г., пастанаўляе:

1. X Усебеларускі Зьезд Саветаў склікаць 20 лютага 1931 году ў Менску.

2. Чарговыя перавыбары саветаў правесьці: а) сельскіх местачковых саветаў —у працягу сьнежня 1930 г.; б) Менскага, Віцебскага і Гомельскага гарадзкіх саветаў —з 10 студзеня па 10 лютага 1931 г.; в) іншых гарадзкіх саветаў—у працягу студзеня 1931 году.

3. Раённыя зьезды Саветаў правесьці ў перыяд з 1-га студзеня па 15 лютага 1931 году.

Старшыня ЦВК БССР
**А. Чарвякоў.**

В. А. Сакратара ЦВК БССР
**А. Рагачэўскі.**

12 кастрычніка 1930 г.
Менск.

---

# Пастанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

**пра арганізацыю выбарчых камісій.**

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1) Арганізаваць пры Прэзыдыуме Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР Цэнтральную Выбарчую Камісію ў наступным складзе: т. т. Хацкевіч (Старшыня), Гантман, Гаруновіч, Міхайлаў, Мікуліч, Плешчакоў, Палякоў, Бурава, Дунец, Вансоўскі, Крузмант, Бучукас, Аксючыц, Гайдукоў, Рагачэўскі, Кроль, Манжалей, Дубіцкая, Аранштам (з заменай Цімашэнка), Рычкоў, Жуковіч і Прахарэнка.

2) Вызначыць склад раённых камісій, а таксама Менскай, Віцебскай і Гомельскай гарадзкіх выбарчых камісій з 13 асоб, склад іншых гарадзкіх выбарчых камісій з 9 асоб, склад сельскіх і местачковых выбарчых камісій з 7 асоб.

3) Прапанаваць раённым выканаўчым камітэтам і ўсім саветам зараз-жа ў адпаведнасьці з арт. 2 гэтай пастановы і арт. 3 інструкцыі аб выбарах у саветы, зацьверджанай Прэзыдыумам ЦВК Саюзу ССР 3 кастрычніка 1930 году, арганізаваць раённыя, гарадзкія, сельскія і

местачковыя выбарчыя камісіі і забясьпечыць нармальнае разгортваньне іх работы.

4) Зацьвердзіць Старшынёю раённых выбарчых камісій Старшынь раённых выканаўчых камітэтаў.

5) Зацьвердзіць Старшынёю Менскай гарадзкой выбарчай камісіі т. Аксючыца, Віцебскай—т. Ягорава і Гомельскай—т. Вендэ.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Хацкевіч.**

15 кастрычніка 1930 г.
г. Менск.

## Пастанова Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР

### аб тэрмінах падачы раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі выбарчай справаздачнасьці.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР пастанаўляе:

1. У адпаведнасьці з пастановай Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР за 3 кастрычніка 1930 году „аб формах вучоту ходу і выніках выбараў у саветы, на зьезды саветаў і ў выканаўчыя камітэты і аб формах сьпісаў вучоту выбаршчыкаў“ устанавіць наступныя тэрміны падачы выбарчай справаздачнасьці раённымі выканаўчымі камітэтамі і Менскім, Гомельскім і Віцебскім гарадзкімі саветамі ў Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР:

а) пэрыядычныя сводкі выбарчай справаздачнасьці падаюцца праз кожныя 15 дзён (10 і 25 кожнага месяца);

б) папярэднія вынікі выбараў падаюцца праз 10 дзён пасьля сканчэньня выбарчай кампаніі;

в) канчатковая статыстычная справаздача аб выніках выбараў на раённыя зьезды саветаў і ў раённыя выканаўчыя камітэты, з тлумачальнымі тэкстамі да іх, падаецца праз 2 месяцы пасьля сканчэньня выбарчай кампаніі.

2. У дапаўненьне да вызначаных Прэзыдыумам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу ССР форм выбарчай справаздачнасьці ўстанавіць на БССР наступныя дадатковыя формы:

а) папярэднія весткі аб выбарах у гарадзкія, сельскія і местачковыя саветы;

б) папярэднія весткі аб раённых зьездах саветаў;

в) весткі аб складзе раённых, гарадзкіх, сельскіх і местачковых выбарчых камісій.

Даручыць Цэнтральнай Выбарчай Камісіі ўстанавіць форму гэтых вестак, парадак і тэрміны падачы іх.

3. Даручыць раённым выканаўчым камітэтам устанавіць тэрмін падачы выбарчай справаздачнасьці гарадзкімі, сельскімі і местачковымі саветамі ў раённыя выканаўчыя камітэты ў адпаведнасьці з тэрмінамі, якія ўстаноўлены п. 1 гэтае пастановы.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Хацкевіч.**

20 кастрычніка 1930 г.
г. Менск.

